# АБАРЫГЕН ТУСОЎКІ

Андрэй ХАДЗІКАЎ

ЁСЦЬ ДУМКА




Саша Сянкевіч нарадзіўся відавочна запозненa. Гадоў сто назад ён няйначай звязаў бы сваё жыццё з коньмі. Такое было маё першае ўражанне пры знаёмстве на Мінскім аўтазаводзе. Сашава абсалютна цыганская знешнасць трохі нечакана глядзелася на фоне кульманаў і рэдкіх пакуль яшчэ персанальных камп'ютэраў Упраўлення галоўнага канструктара МАЗа.

— Табе б коней красці, а ты ў інжынеры-выпрабавальнікі пайшоў,— сказаў я яму, пазнаёміўшыся бліжэй.

Саша адно засмяяўся ў адказ. Сам ён лічыць, што дваццаць пяць гадоў назад нарадзіўся абсалютна своечасова. У гэта верыш, гледзячы, як хутка і дакладна — любімая праца! — збірае і разбірае ён з маладымі калегамі шматлікія вузлы грузавога аўтамабіля, які так і стракаціць рэкламнымі наклейкамі.

Пазнаёміўшыся на МАЗе, мы пасля гэтага сустракаліся на Ленінскім праспекце ў кааператыўным кафэ-пад'ездзе. Вось там Сашавы кучаравыя валасы, куртка-«мармурка» і іншая «прыкінутая» амуніцыя глядзеліся досыць арганічна. Я яму так і сказаў, жадаючы пакпіць з яго, што ён няйначай як абарыген тусоўкі. Але замест адмоўнага адказу пачуў: «Адно другому не супярэчыць. Справа справаю, а адпачынак адпачынкам. Я стараюся і там і там паспяваць».

— І атрымліваецца!

— З цяжкасцю. Хутчэй працую за кошт адпачынку, чым адпачываю за кошт працы...

Гэта так, бо давесці спартыўную мадэль МАЗа да поўнае гатоўнасці, або — скарыстаюся слэнгам аўтамеханікаў — зрабіць тачку, зусім няпроста. Тут патрэбны высокі — на ўзроўні самых апошніх дасягненняў — прафесіяналізм, глыбокае веданне тэорыі і практыкі аўтамабілебудаўніцтва. Усё гэта — сфера дзейнасці Сянкевіча і невялікай групы інжынераў і вадзіцеляў, якая пакуль яшчэ рэдка выязджае на міжнародныя спаборніцтвы грузавых аўтамабіляў.

А яшчэ нейкія два гады назад паняцце «гоначны грузавік» было на Мінскім аўтазаводзе такою ж абстракцыяй, як, скажам, плаваючы самазвал...

Кольца будапештскага аўтадрома «Хунгарорынг» гоначны грузавік «з'ядае» за дзве з палова хвіліны.

Я гляджу відэакасету, прывезеную Сянкевічам з гэтых спаборніцтваў.

Праносяцца, абганяючы адзін аднаго, знаёмыя шведскія «вольвы» і заходнегерманскія «мерседэсы»... І невядомыя нам насатыя амерыканскія «кенварты» з чуллівымі ноздрамі-фарамі...

Мы сядзім, папіваючы кааператыўную каву.

— Саша, давай скакаць ад печы. А навошта МАЗу ўвогуле гэта трэба — аўтамабільныя гонкі! Яму сам бог загадаў такія машыны выпускаць, каб грузы вазілі па прынцыпе «цішэй едзеш — далей будзеш». А там 160 км у гадзіну...

Саша гмыкае.

— Спрабуеш падсекчы пад корань... Не атрымаецца: пытанне дылетанта. Аўтаспорт і аўтамабільная прамысловасць заўсёды ішлі побач і былі ўзаемазвязаны. Спартыўны аўтамабіль па сваім тэхнічным узроўні хоць на паўкрока, але апярэджвае тое, што ёсць цяпер на канвееры. На ім можна выпрабоўваць і даводзіць канструкцыю вузлоў, якія потым пойдуць у серыю. Цяпер, напрыклад, мы абкаталі на спаборніцтвах у Бельгіі ўжо трэцюю канструкцыю задняга моста. А першая, праверaная намі, ужо ўстанаўліваецца на серыйным МАЗе.

Я не здаюся:

— Але ёсць жа служба звычайных выпрабаванняў, якія праводзяцца на заводзе!

— Гэтыя выпрабаванні не ўсе недахопы выяўляюць — у нас экстрэмальныя нагрузкі. Гэта раз. А па-другое, падрыхтоўка спартыўнага аўтамабіля вымагае аператыўнасці, чаго няма пакуль што ў звычайных выпрабаваннях. Мы стараемся як мага хутчэй перайсці ад ідэі да яе ўвасаблення... Хвіліну, будзе табе прыклад... Апошнім часам мы працуем з Мікалаем Мальцавым, адным з заводскіх канструктараў. Ён дзесьці гадоў пяць назад спрабаваў увесці ў вытворчасць АБС — антыблакіровачную сістэму тармазоў. Цяпер ва ўсім свеце грузавікі яе маюць. А на заводзе ўсё не знаходзілі магчымасці. Мы адразу ж паставілі яе на задні мост, цяпер робім на пярэдні. Выпрабоўваем, абкатваем у найкарацейшы тэрмін.

— І гэта будзе пастаўлена на паток!

— Нікуды не дзецца. Каб прадаваць нашыя МАЗы за мяжу, трэба ставіць на іх АБС. Гэта адно з абавязковых патрабаванняў да экспартных грузавікоў...

— Інакш кажучы, як на конкурсах прыгажосці: дакладныя стандарты — талія, бёдры, грудзі...

— Толькі ў адрозненне ад гэтых небяспечных параметраў,— смяецца Саша,— АБС — якраз сістэма бяспекі...

Мы заказваем яшчэ па кубку кавы...

Рынак, скажам, Заходняй Еўропы даўно падзялілі між сабою «Мерседэс», «Вольва», «Ман» і іншыя не менш самавітыя фірмы. Уклініцца ў такую кампанію вельмі няпроста. Трэба мець грузавік, што як мінімум не ўступаў бы гэтым аўтаарыстакратам.

На канвееры МАЗа пакуль такога аўтамабіля няма. Саша Сянкевіч і ягоныя калегі такія аўтамабілі робяць. Для спаборніцтваў. І дзесятае месца з васемнаццаці ўдзельнікаў ужо няблага. Ва ўсякім разе для пачатку. На гонках у Будапешце і зусім нядаўна на бельгійскай трасе «Зольдэр». Дый само па сабе выступленне на такіх міжнародных спаборніцтвах, нават без п'едэстала гонару, добрая рэклама заводу. Бо падрыхтаваць аўтамабіль, які на роўных будзе змагацца з асамі аўтарадэа, немагчыма без грунтоўнай вытворчай базы...

Саша наракае, што паездкі на спаборніцтвы пакуль яшчэ задужа рэдкія, але я, вырашыўшы вытрымаць сваю занудную ролю да канца, задаю чарговае пытанне:

— Напэўна, усё-такі накладна Мінскаму аўтазаводу пастаянна ўдзельнічаць у спаборніцтвах! Бо гэта ж трата валюты, а яе на заводзе не друкуюць...

Але ў Сянкевіча ўсё прадумана:

— Калі паставіць справу на грунтоўную аснову, можна апраўдаць усе затраты, у тым ліку і валютныя. У рэкламе сваёй прадукцыі зацікаўленыя не толькі заводы, але і фірмы-спадарожнікі, тыя, што вырабляюць «тапачкі», шкло, фарбы, электратэхнічныя прыстасаванні. За права наклеіць сваю сімволіку на гоначны грузавік яны гатовыя плаціць немалыя грошы. У валюце.

Мы абмяркоўваем відэафільм пра гонкі на «Хунгарорынгу».

— Спаборніцтвы праходзілі ў выхадныя — суботу і нядзелю. І кожны дзень збіралася на стадыёне каля 100 тысяч гледачоў. Велізарная колькасць замежных турыстаў. І гэта не проста траса, на якой, дарэчы, праводзяцца і гонкі «Формулы-І». Венгры пабудавалі чаты-

Заканчэнне на стар. 16.

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

КРЫНІЦА

№ 3 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71,
36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 12.01.89.
Падпісана да друку 23.02.89.
АТ 05159.
Фармат 60×90 1/8. Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5. Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 9,5. Тыраж 46 000 экз.
Зак. 22. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

1-я стар. вокладкі. Кампазіцыя Уладзіміра КАЦАПАВА
4-я стар. вокладкі. Фота Яўгена СКУРАТОВІЧА




**ЯК БЫЦЬ?..**

«...Мамаша природа смертельно пьяніт в дыму атлетических труб»,— спявае Ю. Шаўчук і група «ДДТ». І праўда, трубы ў нас проста атлетычныя. Колькі гадоў будаваліся прамысловыя гіганты, якія завальвалі ўнутраны рынак валам непатрэбных тавараў. На гэтыя прадпрыемствы ішлі дзесяткі, калі не сотні мільёнаў рублёў, а на ачысныя збудаванні грошы хоць і выдзяляліся, ды збудаванні гэтыя альбо зусім не будаваліся, альбо былі вельмі ўжо састарэлыя.

Зараз разгарні любую газету — і адразу ж кінуцца ў вочы загалоўкі пра барацьбу за экалогію. Але ў мяне ствараецца ўражанне, што гэта толькі словы. Людзі збяруцца, пашумяць, выкажуць патрабаванні і разыдуцца, а з труб дым як валіў, так і валіць. Зламаць бюракратычную машыну зусім не проста. І пастupова ўва мне выспявае думка, што трэба стварыць Таварыства барацьбы за экалогію (па прыкладзе Таварыства барацьбы за цвярозасць). Можа, хоць гэтае таварыства дапаможа зрабіць паветра чысцейшым.

Калі б гэта дапамагло, то было б вельмі нядрэнна, але я баюся, што такога таварыства не будзе. Мажліва, я памыляюся, але тады няхай хто-небудзь растлумачыць мне, у чым мая памылка і як трэба дзейнічаць.

Я ўпэўнены, што многія людзі ўжо цяпер гатовыя зрабіць што-небудзь, каб нам стала лягчэй дыхаць.

А пакуль мы назіраем, як у друку з'яўляюцца гумарэскі з нагоды свежых кіслотных дажджоў і пра цудоўны агністы захад ад пажару на чарговай АЭС.

**Л. ГУРЫНОВІЧ,**
**дзесяцікласнік**
г. Мінск

**АД СЫНА АДМАЎЛЯЮСЯ...**

**Мне 21 год, па спецыяльнасці я акушэрка, працую ў радзільным доме. У рэдакцыю ўвогуле звяртаюся ўпершыню. Што прымусіла мяне напісаць Вам ліст!**

**За два з палавою гады сваёй самастойнай працы я ўжо многім чалавечым жыццям дапамагла з'явіцца на свет. Як гэта цудоўна — рабіць людзям дабро. Упершыню ў радзільным доме жанчына становіцца маці. Якое гэта высокае пачуццё! Але не ўсе жанчыны разумеюць і цэняць яго.**

**У нашым жыцці стала трагедыяй тое, што жанчына-маці можа пакінуць сваё дзіця ў раддоме. Як яна зможа спакойна спаць, есці, піць, ведаючы, што недзе ў слязах і смутку расце яе дзіця. Што яно не патрэбнае дзядзьку, цётцы, яму патрэбныя матчыны ласка і любоў.**

**І выпадкі адмовы ад дзяцей сталі пастаяннай з'явай. Адмаўляюцца ў розным узросце. Ад 14 да 25 гадоў. Быў выпадак у маёй практыцы, калі педагог, ёй 25 гадоў, адмовілася ад свайго дзіцяці. Як яна, педагог, можа выхоўваць і чаму вучыць дзяцей, калі не хоча выгадаваць і выхаваць уласную дачку?!**

**Давайце разам змагацца з гэтым злом, ад якога пакутуюць нашы дзеці, наша будучыня. Асабіста я ўявіла б такі закон, каб гэтыя прастытуткі — па-іншаму іх не назавеш! — пакінуўшы сваіх дзяцей у раддоме, плацілі б аліменты да іх паўналецця. Давайце спрачацца, вырашаць, прапаноўваць.**

Ірына М.,
г. Магілёў

ПРАЦЯГВАЕМ РАЗМОВУ

**«Я ГЭТАГА НЕ РАЗУМЕЮ...»**

Як мне здаецца, дэмакратыю «Крыніца» ўспрыняла ўсур'ёз і надоўга. Таму прыходзіцца рабіць агаворку, для савецкага чытача арыгінальную: гэты ліст не для друку. Не хацелася б падводзіць людзей, якія няхай міжволі, але дапамагалі мне ў ім. У № 10 у «Люстраной зале» была скарга на беспакаранасць іншаземцаў. Сапраўды, ёсць такая праблема. Дарэчы, асабіста я як патрыёт палічыў бы ганьбаю не здолець пазбегнуць канфлікту з госцем. Але праблема ёсць. Я разумею, прэса не бог, сама гэтая рубрыка толькі «ўзбуджальнік плюралізму». Але ў час застою многія прывыклі, што бы ўсё-такі багі, проста так нічога не пішаце. А раз ужо напісана, то гэта «трапляе ў струмень», артпадрыхтоўка перад «прыняццем мер». І ў дадзеным выпадку могуць мець месца новыя наскокі на міліцыю — маўляў, часопісы ўжо пішуць, чаму па-ранейшаму бяздзейнічаеце? Дарэчы, мы цяпер прыроду шкадуем, дык ці ж не час ужо пашкадаваць... міліцыю? Уся «крытыка», ад анекдотаў да памылак прэсы, па-мойму, ідзе толькі ад людзей, якія ўсё жыццё знаходзяцца толькі з аднаго боку бар'ера. Раз узялі за справу — другі раз ён ужо на ўсякі выпадак, убачыўшы фуражку, «хвастом віляе», а потым злуецца на сябе за сваё рабства. Дадам пра сорам — яшчэ мне соромна, калі міліцыя затрымлівае. Соромна, што дадаў ім работы. Прычыны іх пралікаў вядомыя, на любую заяву чуецца досыць справядлівае стрэчнае пытанне: «Чаму самі дапусцілі?» А ў асноўным органы працуюць. У меру магчымасцей. Пра гэтую меру і ліст.

Адзін мой знаёмы працуе ў абласным Упраўленні ўнутраных спраў. Нядаўна, зайшоўшы да яго, я не ўбачыў яго ў кабінеце. Спытаўся ў «суседа». Той згадзіўся дапамагчы і стаў абзвоньваць магчымыя месцы знаходжання. Гэты знаёмы часта супрацоўнічае па справах з КДБ, так што патэлефанаваў сусед і туды. Перакінуўся з тым чалавекам, што падняў там трубку, некалькімі фразамі прыватнага характару, па-свойску. І вось якімі менавіта! Маўляў, учора адзін югаслаў паставіў машыну на службовую стаянку УУС, а гаішнікі не ведалі, што рабіць, бо не маюць інструкцый ад «тае» фірмы...

Карацей, сяржант не генерал. Не падумайце, што «палохаю» ў стылі мінулага. Гэта сапраўды чорт ведае што. Але, па-мойму, перабудова тым і адрозніваецца ад рэвалюцыі, што ўсё можна вырашыць на ўзроўні прафесіяналаў. Пры жаданні, вядома. А чаму вы думаеце, што такога жадання няма? Адказваюць у «Люстраной зале» чытачы чытачам, чаму б арганізацыі не адказаць нам? Папрасіце контрразведку растлумачыць гэтае пытанне. Зусім не прапаную лічыць іх адказ ісцінай, але, прынамсі, проста думкай. Гэты пацярпеўшы патрабуе справядлівасці, а па справядлівасці трэба выслухаць усе бакі. Дарэчы, пажадана і саміх іншаземцаў.

Падумаеш, 34 подпісы! Гэта на Наўгародскім вечы праўда была за тым, хто гучней крыкне. А мы, здаецца, жывём у цывілізаваны час. Ці не?

Давайце думаць. А пакуль што кланяюся.

З павагаю,

**Віталь ЧУПРУНОЎ.**
г. Гомель

**І ЎСЁ-ТАКІ ЗАКОН!**

**Следчым аддзелам па горадзе Мінску было разгледжана пісьмо, змешчанае пад рубрыкай «Люстраная зала», «Закон ёсць закон» і зроблена праверка.**

**Устаноўлена, што рашэнне аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па заяве гр-на Я. Паракевіча аб нанясенні цялесных пашкоджанняў следчым Міхальцовым прынятая заўчасна.**

**Па ініцыятыве следчага аддзела горада пракуратурай Савецкага раёна г. Мінска гэтае рашэнне адменена, а матэрыял для дадатковай праверкі накіраваны ў следчы аддзел МУС БССР па Савецкім раёне г. Мінска.**

**Аб прынятым рашэнні будзе паведамлена дадаткова.**

**Па заяве студэнта БПІ Касабуцкага А. Я. следчым аддзелам МУС БССР па Савецкім раёне г. Мінска ўзбуджана крымінальная справа на гр-на Сірыйскай Арабскай Рэспублікі студэнта БПІ Амара Абдулкарыма Мустафы. Папярэдняе следства па дадзенай справе закончана пракуратурай Савецкага раёна г. Мінска 14 мая 1988 г.**

**Амару А. Мустафе прад'яўлена абвінавачанне па арт. 15 ч. 2, 101 Крымінальнага кодэкса БССР (замах на забойства). Народным судом Савецкага раёна г. Мінска ён асуджаны па арт. 109 КК БССР (цяжкае цялеснае пашкоджанне пры перавышэнні межаў неабходнай абароны) на адзін год пазбаўлення волі ўмоўна з 5-гадовым выпрабавальным тэрмінам.**

В. СТАШКЕВІЧ,
начальнік следчага аддзела
МУС БССР
па горадзе Мінску

ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

**Аляксандр ЦЫПКО,**
**доктар філасофскіх навук**

# «ВЯЛІКАЯ МЭТА»

## І НІКЧЭМНАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ



Сталінізм як ідэалогія абсалютызуе насілле, абсалютызуе яго ролю і магчымасці ў справе вырашэння сацыяльных праблем. Недаацэнка цяперашняга, г. зн. звычайнай чалавечай працы, звычайных спосабаў стварэння даброт і дабра, вядзе да ілюзіі, што насілле само па сабе стварае гісторыю, валодае стваральнымі магчымасцямі. Сталін, зноў-такі з прычыны сваёй хітрасці, ніколі не прагаварыўся пра сваё перакананне, што рэпрэсіі ствараюць цывілізацыю. Троцкі ж, наадварот, з прычыны сваёй «неспасцігальнай праставатасці» называў рэпрэсіі дабром. Ён быў перакананы, што менавіта рэвалюцыі ствараюць асобу. Гэты тэзіс ён выкарыстаў для апраўдання рэпрэсій у адносінах да палітычнага праціўніка.

«Пытанне пра асабістую рэпрэсію ў рэвалюцыйную эпоху,— пісаў Л. Троцкі,— прымае зусім асобы характар, ад якога бяссіла адскокваюць гуманітарна агульныя мясціны. Барацьба ідзе непасрэдна за ўладу, барацьба ідзе за жыццё і на смерць — у гэтым і заключаецца рэвалюцыя... З пункту погляду так званай абсалютнай каштоўнасці чалавечай асобы, рэвалюцыя падлягае «асуджэнню», як і вайна, як, зрэшты, і ўся гісторыя чалавецтва ў цэлым. Аднак, каб самое паняцце асобы стала рэальным і каб паўпагардлівае паняцце «масы» перастала быць антытэзай філасофскі прывілеяванага паняцця «асобы», трэба, каб сама маса крахам рэвалюцый, правільней сказаць, рада рэвалюцый, узняла сябе на новую гістарычную ступень. Добры ці благі гэты шлях з пункту погляду нарматыўнай філасофіі, я не ведаю і, мушу прызнацца, не цікаўлюся гэтым. Затое я цвёрда ведаю, што гэта адзіны шлях, які ведала да гэтага часу чалавецтва».

**Заканчэнне. Пачатак у № 2.**

У гэтым поглядзе на свет няма разумення таго, што сама па сабе рэвалюцыя не стварае асобы, культуры. Асобу ствараюць праца, культура, мастацтва, мысленне, урэшце, рэлігія. Рэвалюцыя можа дапамагчы ўздыму адчування асобы, зняць перашкоды на шляху яе творчага самавыяўлення, але сама па сабе яна нічога не стварае. Што да рэвалюцый, якія ставяць сабе мэтаю проста змяніць свет, стварыць тое, чаго не было, напрыклад, «нетрывіяльную», «немяшчанскую» эканоміку, дык тут усё намнога больш складана. У гэтых рэвалюцыях трэба праяўляць звышасцярожнасць, бо ніколі няма поўных гарантый, што ты здольны стварыць тое, чаго ніколі не было, напрыклад буйныя фабрыкі збожжа ў патрыярхальнай рускай вёсцы, а таму трэба быць увесь час напагатове, захоўваць здаровы сэнс, пачуццё меры, быць маральна гатовым да адступлення, да змены маршруту, мець мужнасць своечасова адмовіцца ад самай прывабнай і любай мары, калі яна замест стымулу да стварэння робіцца сілаю разбурэння.

Усё гэта магчыма, калі рэвалюцыянеры сапраўды не трацяць адчування рэальнасці, кіруюцца каштоўнасцямі гуманізму, сапраўды заклапочаны болем спрагненых людзей. Але ўсё ў тым, што вызнаванае левымі радыкаламі, тыпу Троцкага і Сталіна, перакананне, што толькі рэвалюцыі ствараюць асобу, ужо само па сабе пазбаўляе іх усякай цвярозасці. Такое бачанне гісторыі ўсё пераварочвае з ног на галаву, стварае перавернутую сістэму каштоўнасцей ці, слушней, свет антыкаштоўнасцей.

Яно пераносіць увагу з асобы на працэс рэвалюцыі, захопу ўлады, мяняе месцамі мэту з адным з магчымых сродкаў яе дасягнення і ўрэшце ператварае ператрэсванне грамадскага жыцця, сам працэс змены ўжо складзенага ўкладу жыцця, вытворчасці, сям'і ў галоўную сацыяльную каштоўнасць. Тэорыя перманентнай рэвалюцыі Троцкага, яго незнішчальнае імкненне да ператрэсвання — гэта ўжо вынік яго пераканання, што толькі рэвалюцыі ствараюць асобу.

Рэвалюцыянер, які захварэў на «дзіцячую хваробу «левізны», ужо не можа спыніцца. Бо калі ператрэсванне старога свету — мэта і сэнс жыцця, дык важны не вынік, а сам працэс змянення, адмаўлення ад таго, што было. Менавіта гэтым старым левацрадыкальным пунктам погляду кіраваўся Сталін у сваёй кнізе «Эканамічныя праблемы сацыялізму ў СССР», дзе ставілася задача ўжо ў бліжэйшы час ператварыць калгасы ў саўгасы, адмяніць грошы і рынак. Бо галоўнае, вучыў Троцкі, каб жыццё пастаянна «ліняла», скідала з сябе адну скуру і мяняла яе на другую.

Глыбока перакананы, што ўсе асноўныя дэфармацыі сацыяльнага мыслення, з якімі мы звязваем сёння паняцце «сталінізм», былі закладзены ў вельмі характэрным для нашай радыкальна настроенай інтэлігенцыі імкненні аспрэчыць так званыя «абсалютныя каштоўнасці» чалавецтва. Нельга пераадолець усё тое, што ў падручніках гісторыі партыі называлася трацкізмам, а ў жыцці было «баямі за сацыялізм» да таго часу, пакуль не вызвалімся ад гэтай старой, закаранелай любасці таптаць нагамі тое, што ёсць і што жыве, ставіць абстрактную мэту вышэй за людзей, якія жывуць сёння.

Сама па сабе крытыка маральных недахопаў сацыяльнага мыслення Троцкага і Сталіна, сацыяльнага мыслення расійскага рэвалюцыйнага радыкалізму не мае сэнсу, калі яна не даводзіцца да крытыкі яго зыходных, фальшывых каштоўнасцей. Барацьба з вынікамі, калі яна не закранае прычыны, толькі пагаршае хваробу. Парадокс сённяшняга ідэалагічнага жыцця ў тым, што ў большасці выпадкаў крытыкі Сталіна і асабліва Троцкага мысляць паводле тых самых шаблонаў, паводле якіх мыслілі гэтыя правадыры.

Ніна Андрэева і многія тысячы, а магчыма, і мільёны людзей, якія падтрымалі яе «маніфест кансерватыўных сіл», заражаны ўсе той самай месіянскай ідэяй, тым самым запалам здзівіць свет, стварыць і пабудаваць тое, чаго ніхто пабудаваць не можа, усё тым самым «за цаной не пастаім». Калі ўсе гэтыя людзі кажуць, што мараль і палітыка несумяшчальныя, што у Сталіна не было іншага выбару, што найвышэйшыя інтарэсы гісторыі апраўдваюць мільёны ахвяр, дык яны проста паўтараюць тое, чаму іх вучылі, паўтараюць сутнасць расійскай месіянскай трактоўкі марксізму.

Попыт быў толькі на канчатковыя высновы, на дакладныя формулы марксізму, вылітыя з бронзы. «Нам марксізм,— пісаў Троцкі,— патрэбен быў не толькі для таго, каб расправіцца з народніцтвам, якое толькі ледзь-ледзь закранула нас, а перш за ўсё для таго, каб пачаць непрымірымую барацьбу супраць капіталізму на яго ўласнай тэрыторыі». Троцкі і Сталін успрынялі марксізм як вучэнне пра рэвалюцыйныя драмы гісторыі, праз якія ў моры крыві рухаецца дух прагрэсу, як вучэнне пра непазбежны сусветны лёс, пра непазбежнасць сусветнай пралетарскай рэвалюцыі.

Зразумела, што такая трактоўка марксізму і камунізму толькі ўзмацніла традыцыйны месіянізм нашай свядомасці, толькі паглыбіла характэрную нам звычку ўсё падпарадкоўваць будучыні, супрацьпастаўляць грамадскія інтарэсы інтарэсам асобы, супрацьпастаўляць духоўнае матэрыяльнаму і г. д. Бо мэты барацьбы былі аддаленыя ад штодзённага мімалётнага жыцця. Гаворка ішла ўжо не пра зверржэнне ненавіснага самаўладдзя, не пра вызваленне расійскіх народаў, а пра вызваленне ўсіх працоўных, пра сусветнае царства рабочых і сялян. З гэтых сусветна-гістарычных вышыняў жыццё асобнага чалавека, яго інтарэсы не мелі практычнага значэння.

Цяперашняе жыццё і інтарэсы чалавека, які жыве сёння, працоўных прыносіліся ў ахвяру будучыні, мары. Гаворка магла ісці толькі пра «растварэнне асобы ў партыйнай калектыўнасці». Такая трактоўка класавага падыходу з самага пачатку апраўдвала ўсякую жорсткасць да асобнага чалавека, тым болей да прадстаўніка непралетарскіх саслоўяў. Найбольш ярка сутнасць гэтай трактоўкі класавага падыходу выявілася ў палітычным мысленні Троцкага. Апраўдваючы свае паводзіны на брэсцкіх мірных перагаворах, ён адкрыта піша, што страта Прыбалтыкі, Украіны, непазбежная гібель салдат пры новым наступленні немцаў — гэта не такая ўжо вялікая цана за класавае абуджэнне нямецкага пралетарыяту, за адкрыванне магчымасці наблізіць пажар сусветнай рэвалюцыі. «Тады я патрабаваў,— успамінае Троцкі,— каб не спяшацца з заключэннем міру і хоць бы цаною страты тэрыторыі даць нямецкаму пралетарыяту час зразумець абставіны і сказаць сваё слова».

Справа не ў асобе Троцкага, а ў тых матрыцах сацыяльнага мыслення, якія вызначалі ўчынкі найбольш радыкальна настроенага элементу рэвалюцыі і якія ў яго працах найлягчэй распазнаць. Гэтыя людзі былі перакананы, што выкліканы класавай барацьбой рух гісторыі можа ўсё апраўдаць, што таму, як пісаў адзін з партыйных публіцыстаў В. Станішэўскі, класавы падыход «не ведае ні так званых законаў вайны, ні законаў чалавечнасці, не шкадуе ні старога, ні малога, ні жанчын, ні дзяцей».

Зразумела, што пазбыцца такіх, народжаных грамадзянскай вайной і класавай барацьбой, «лёгкіх» адносін да маралі, да жыцця і да смерці асобнага чалавека нельга было за год ці за два. Пах жывой чалавечай крыві надоўга вывеў з духоўнай раўнавагі не толькі тых, хто са зброяю ў руках абараняў новую ўладу, але і правадыроў рэвалюцыі. Слова «кроў» вельмі любімае і Троцкім і Сталіным. Першы любіў гаварыць пра «вопыт рэвалюцыі, які дыміцца крывёю», другі — пра кроў асобных людзей, напрыклад, пра «кроў Бухарчыка».

Паняцці «класавая барацьба», «класавы падыход» якраз і дазвалялі Троцкаму і Сталіну ажывіць у людзях гэтую здольнасць стаць па той бок дабра і зла, згадзіцца і прымірыцца з тым, з чым духоўна здаровы чалавек не можа прымірыцца. Мусіць, невыпадкова Сталін так настойліва, пачынаючы з 1928 года, укараняў у грамадскую свядомасць міф пра абвастрэнне класавай барацьбы. Бо там, дзе класавая барацьба, няма месца спагадзе, няма літасці ні старым, ні малым, ні жанчынам, ні дзецям. Бо гаворка ідзе пра «знішчэнне класаў шляхам жорсткай класавай барацьбы» (гл.: Сталин И. Сочинения. Т. 12. С. 33).

Калі жыццё ператвараецца ў чаканне будучага канца, у служэнне вынесенай наперад, за рамкі цяперашняга, «вялікай мэце», дык амаральнасці пазбегнуць практычна немагчыма. «Вялікая мэта» настолькі вялікая, што яна можа апраўдаць усё, што служыць ёй. Яе яркае святло асвятляе думку, уводзіць розум у гіпнатычны сон. А сон розуму спараджае пачвары.

Прынамсі, у нас сёння няма падстаў здзіўляцца таму, што людзі дагэтуль баяцца выказвацца пра асабістыя якасці Сталіна, настойваюць на тым, што да палітычных дзеячаў і маральныя крытэрыі ўжываць нельга. Сталін так страшэнна ўзвысіўся над імі, ператварыўшы іх у паслушэнцаў і саўдзельнікаў яго злачынстваў менавіта дзякуючы гэтай абстрактнай, містычнай «вялікай мэце». Рэлігія гістарычнай мэты спарадзіла рэлігію сталінізму з усім яго культам, з усёй яго неспатольнай прагай да ахвяр.

Ніна Андрэева з яе перакананнем, што ўсякая палітыка, у тым ліку і палітыка Сталіна, якая ўскосна або апасродкавана служыла «асноўным законам развіцця грамадства», стаіць вышэй меркаванняў пра дабро і зло,— гэта вынік фаталістычнай трактоўкі законаў гісторыі.

Ніна Андрэева нагадала нам, філосафам і перш за ўсё савецкім этыкам, пра тое, на чым яны настойвалі больш як шэсцьдзесят гадоў: пра тое, што «сацыяльна-палітычны крытэрый развіцця грамадства» нельга падмяняць «схаластыкай этычных катэгорый». Бо мы ж самі яшчэ нядаўна вучылі людзей, што вялікая палітыка, якая забяспечвае прагрэс гісторыі, мае сваю адмысловую вялікую мараль, якая выходзіць за вузкія недыялектычныя рамкі дабра і зла. Тое, на чым настойваў Л. Д. Троцкі, да нядаўняга мінулага было максімай нашых паводзін і нашай ідэалогіі. Я маю на ўвазе яго тэзіс пра тое, што «аперыраваць у палітыцы абстрактнымі маральнымі крытэрыямі — заведама безнадзейная справа».

Мы доўгі час вызнавалі перавернутую сістэму каштоўнасцей, дзе мэта і сродак памяняліся месцамі, дзе палітыка ператрэсвання свету вырвалася з-пад кантролю маральных каштоўнасцей, набыла самадастатковы характар.

Але няма ніякай асобай «палітычнай маралі», якой навучыў нас Троцкі і якая, як ён лічыў, «выцякае з самой палітыкі і з'яўляецца яе функцыяй». На самай справе палітыка павінна быць функцыяй маралі, вынікам натуральнага чалавечага імкнення зрабіць свет чысцейшым, зрабіць шчаслівымі як мага больш людзей.

Тым і небяспечнае абагаўленне «вялікай гістарычнай мэты», што яно вядзе да фальшывага перакканання, быццам будучыня сама па сабе ўсё апраўдвае, сама сябе абгрунтоўвае, што яна не мае патрэбы ні ў цяперашнім, ні ў мінулым. Яна вядзе да таго, што магчымае («вялікая гістарычная задача» або «вялікая гістарычная мэта») ставіцца вышэй за рэальна існае, пачынае разбураць рэчаіснае: палітычная мараль пачынае разбураць агульначалавечую мараль; культура будучага, яшчэ не ўзнікнуўшы, разбурае культуру мінулага; і, нарэшце, магчымая «нетрывіяльная» эканоміка разбурае тую эканоміку, якая ёсць. Перакананне Троцкага, што ў дні рэвалюцыі не можа быць месца «гуманітарна агульным мясцінам», сталінскае «Масква слязам не верыць» і нянавісць Ніны Андрэевай і яе аднаверцаў да «схаластыкі этычных катэгорый» — гэта розныя праяўленні аднаго і таго ж самага нізкапаклонства перад Будучыняй.

Модная ў застойныя часы прывычка супрацьпастаўляць палі-

тыка-эканамічны падыход канкрэтна-эканамічнаму, ставіць рух да магчымага, гіпатэтычнага, напрыклад, да адзінаўкладнай сацыялістычнай эканомікі, вышэй за канкрэтна-эканамічнае — гэта вынік усё той самай практыкі супрацьпастаўлення «палітычнай маралі» і маралі агульначалавечай, супрацьпастаўлення справы рэвалюцыі справе ўладкавання чалавечага жыцця.

Месіянская трактоўка марксізму прывяла да сакралізацыі ўсіх структур будзённага палітычнага мыслення. Калі ёсць тайны сацыяльнага жыцця, павінны быць і асобыя людзі, якія ведаюць іх. Бо, сапраўды, не могуць жа ўсе ў роўнай меры спасцігнуць гэтую навуку пра тайны жыцця. Адны больш падрыхтаваны да ўспрыняцца тэорыі пра будучыню, другія — менш. Таму непазбежнае паяўленне «ордэна мечаносцаў» (І. Сталін), які непазбежна прысвоіць сабе права вучыць іншых і распараджацца іх лёсам.

У выніку складваецца новы тып сацыяльнай няроўнасці, розніца паміж тымі, хто здолеў спасцігнуць гэтыя тайны, і тымі, хто яшчэ не гатовы нават наблізіцца да іх. Адпаведна складваюцца адрозненні паміж тымі, хто мае права весці за сабой людзей да канчатковых мэт, і тымі, хто абавязаны іх слухацца.

Я асабіста схіляюся да думкі, што замацаваная ў нашай свядомасці думка пра палітычную, маральную і культурную непаўнацэннасць дробнага сялянства ў многім таксама з'яўляецца праекцыяй гэтай містычнай трактоўкі марксізму.

Месіянская трактоўка гістарычнага працэсу была дзіцём пашыраных сярод рабочага класа і апазіцыйнай інтэлігенцыі ўраўняльніцкіх настрояў. За такой трактоўкай гісторыі і сацыяльных дабрачыннасцей розных класаў стаяла перакананне, што галоўнай, асноўнай праблемай гісторыі з'яўляецца знішчэнне прыватнай уласнасці, роўнасць спажывання, роўнасць валодання. Але, як цяпер мы разумеем, побач з праблемай роўнасці, якая сапраўды дамінавала над усімі іншымі ў свядомасці чалавека новага часу, існуе яшчэ праблема захавання прыроды, сям'і, жыцця, жадання працаваць, праблема эфектыўнасці працы, здольнасці да наватарства, праблема акілзання звярынага пачатку ў чалавеку і да т. п. Напрыклад, мы цяпер пачалі разумець, што праца на зямлі, вытворчасць хлеба надзённага грае рашаючую і вызначальную ролю ў захаванні жыцця, ва ўзнаўленні ўмоў вытворчасці. Робіцца ясна, што вясковая культура, уласцівая селяніну ўстойлівасць быту, працы, прывязанасць да свайго надзелу гралі і граюць важную самастойную ролю ў забеспячэнні духоўнага здароўя грамадства. Таму не ва ўсім і не ва ўсіх выпадках сялянства трэба разглядаць як клас, які вядуць, як падпорку пралетарыяту ў яго вялікай справе стварэння новага грамадства.

Так, Марксаў тэзіс пра тое, што сялянства не можа адыграць самастойнай ролі ў сацыялістычнай рэвалюцыі, цалкам пацвердзіўся. Але гэтая нявдольнасць сялянства быць вядучай сілай у арганізацыі рэвалюцыі зусім не азначала, што яно мае патрэбу ў апецы ва ўсім: і ў арганізацыі вытворчасці, і ў арганізацыі свайго быту. Глыбока перакананы, што прадуктовы крызіс, які перажываецца намі на працягу шасці дзесяцігоддзяў, быў выкліканы тым, што мы пазбавілі селяніна права голасу, перадаручылі справу арганізацыі працы на зямлі пралетарыяту. Давыдавы маглі навучыць селяніна, як змагацца з кулаком, як арганізаваць клуб, барацьбу з непісьменнасцю, але яны не маглі, ды і не мелі права вучыць сялян, як працаваць, як вырошчваць хлеб.

У нашых расійскіх умовах класавы падыход быў гіпертрафіраваны. Сказалася, напрыклад, даўняя, закаранелая нянавісць, зайздрасць людзей фізічнай працы да інтэлігенцыі, да адукаваных. Палітычны ярлык «гнілая інтэлігенцыя» таксама вынік нашай максімалісцкай трактоўкі класавага падыходу. У фізічнай расправе з інтэлігенцыяй, з тымі, хто носіць пенснэ, гімназічную фуражку, вызначыўся не толькі «чалавек з ружжом», але і рабочыя.

Зрэшты, ці варта здзіўляцца антыінтэлігенцкім настроям сярод паўстаўшых рабочых і сялян? Яны і сёння, праз семдзесят гадоў, вельмі ўстойлівыя ў нашым грамадстве і нават у асяроддзі новай сацыялістычнай інтэлігенцыі. Яркае пацвярджанне гэтага — пісьмо Ніны Андрэевай, артыкулы Ю. Бондарава, А. Праханава, В. Гарбачова. Усе гэтыя творы прасякнуты адкрытай непрыязнасцю да тых, хто дазваляе сабе свабоду думкі, хто шукае, выходзіць за межы вядомага, устаноўленых догмаў. Нішто так не палохае гэтых людзей, як «інтэлігенцкі сацыялізм», гэта значыць грамадства, якое сцвярджае самакаштоўнасць чалавечай асобы.

Крайнім выяўленнем містыфікацыі класавага падыходу з'яўляецца абсалютызацыя такога знешняга, выпадковага прызнаку, як класавае паходжанне. Многія, вельмі многія свята верылі ў тое, што жорсткасць да ўсіх тых асоб, на лобе якіх ёсць пячатка прыналежнасці да звергнутых эксплуататарскіх класаў, апраўданая, што іх фізічнае знішчэнне само па сабе ўмацоўвае заваёвы рэвалюцыі, набліжае грамадства да сацыяльнай мілаты.

У гэта, на няшчасце нашай рэвалюцыі, на няшчасце нашага народа, верылі не толькі разбураныя духоўнай жорсткасцю грамадзянскай вайны дзеці, якія, бы, напрыклад, звар'яцелая Насценька з аповесці Андрэя Платонава «Катлаван», лічылі, што кулака трэба абавязкова забіць. Як пісаў А. К. Вінаградаў, «калі двое дзяцей, дзеці слесара-ўдарніка, валяць пад трамвай свайго школьнага таварыша на той падставе, што ён сын урача і класавы вораг, дык гэта азначае, што ў гэтай сям'і разбушаваліся далёка не чалавечыя стыхіі» («Советская Россия», 1988, 8 мая).

Некаторыя правадыры нашай рэвалюцыі таксама былі перакананыя, што людзей можна расстрэльваць толькі за іх прыналежнасць да асуджаных гісторыяй класаў. Паводле распараджэння Зіноўева і Сталіна, у 1919 годзе ў Петраградзе расстрэльвалі афіцэраў царскай арміі толькі за тое, што яны былі афіцэры, юнакоў за тое, што яны насілі кадэцкія фуражкі, а папоў за тое, што яны былі свяшчэннікі.

Такая жорсткасць, сусветная нянавісць да ўсіх непралетарыяў, не магла не весці да атрафіі маральных пачуццяў, не весці да страты здольнасці да спагады, да страты сумлення, шкадобы, сораму, міласэрнасці, у чым мы прызнаёмся цяпер уголас.

Звярніце ўвагу: усе праціўнікі перабудовы, усе прыхільнікі сталінскіх метадаў будаўніцтва сацыялізму выступаюць ад імя класавага падыходу, ад імя інтарэсаў пралетарыяту. Яны цвёрда перакананыя, што класавы падыход не толькі апраўдвае расправу, але ў сутнасці нічым не адрозніваецца ад расправы. Яны цвёрда перакананыя, што іх прыналежнасць да рабочага класа па паходжанні дае ім права асуджаць, заклікаць да расправы над усімі «нячыстымі».

Бо менавіта ж да новага насілля, да новага, цяпер ужо чацвёртага выдання грамадзянскай вайны кліча нас «выхавальнік маладога пакалення» ленінградка Ніна Андрэева, якая абураецца з прычыны таго, што, выяўляецца, у непралетарскіх класаў Расіі засталіся жывыя нашчадкі. Калі згадзіцца з ёю, што ўся смута ад іх, ад нявыяўленых, як яна піша, нашчадкаў «нэпманаў, басмачоў і кулакоў», дык няма іншага выйсця, як зноў страляць у патыліцу, будаваць лагеры. Бо гэтых нашчадкаў нэпманаў і кулакоў гаць гаці. Не забывайце, што ў пачатку дваццатых з прыватным, гэта значыць з нэпманаўскім, сектарам было звязана больш як восемдзесят працэнтаў працаздольнага насельніцтва. Да іх жа, да гэтых асуджаных суграмадзян, калі кіравацца палітычнымі крытэрыямі Ніны Андрэевай, трэба дадаць усіх без выключэння нашчадкаў дарэвалюцыйнай інтэлігенцыі, бо яна залічыла ў ненадзейныя як унукаў і праўнукаў расійскіх сацыял-дэмакратаў (нашчадкам бальшавікоў тут не робіцца паслаблення), так і тых, хто мае няшчасце быць блізкім па крыві прадстаўнікам рускай ліберальнай інтэлігенцыі, якая не прыняла дыктатуру пралетарыяту.

Усе гэтыя прыклады адкрытай прапаведзі насілля над іншымі людзьмі па класавых меркаваннях яшчэ раз пераконваюць, што прычыны сталінізму трэба шукаць не ў дрэнным характары Сталіна, а ў тых дэфармацыях масавай свядомасці, унутраных супярэчнасцях рэвалюцыйнай ідэалогіі, якія ён свядома эксплуатаваў у сваіх эгаістычных мэтах.





## СПАДЧЫНА

**Макар КРАЎЦОЎ**

Сучасныя літаратуразнаўцы абмінаюць імя гэтага паэта. Хіба што адзін Уладзімір Калеснік у кнізе «Час і песні» ахарактарызаваў яго як чалавека, які «меў рэпутацыю палітычнага спекулянта» і «іграў ролю прагрэсіўнага літаратара». Палітычны спекулянт у ролі прагрэсіўнага літаратара! Літаратар не можа іграць ролю. Ён або ёсць, або яго няма. І калі Макар Краўцоў як паэт, літаратар быў прагрэсіўны, дык давайце так і скажам: быў прагрэсіўны літаратар М. Краўцоў, які ў палітыцы шмат наблытаў, бо з яго быў кепскі палітык.

Нарадзіўся Макар Краўцоў у 1890 г. у вёсцы Баброўня ля Скідаля. Пасля заканчэння Свіслацкай настаўніцкай семінарыі працаваў на Гродзеншчыне, а ў першую сусветную вайну быў прапаршчыкам на Паўночна-Заходнім фронце. Друкавацца пачаў недзе ў 1918 г. Будучы членам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, апынуўся на яе правым крыле. Удзельнічаў у Слуцкім мяцяжы (канец 1920 г.). Гэты мяцеж супраць Савецкай улады, як і Кранштацкі мяцеж, як антонаўшчына, быў выкліканы, з аднаго боку, палітыкай «ваеннага камунізму», харчовай развёрсткай, а з другога боку — яго інспіравалі і падтрымлівалі польскі буржуазна-памешчыцкі ўрад і Найвышэйшая Рада БНР.

Апынуўшыся пасля мяцяжу ў Заходняй Беларусі, Макар Краўцоў не мог прыняць шавіністычную палітыку польскага ўрада. Супрацоўнічаў у беларускіх газетах, у часопісе «Маланка». Шмат перакладаў. Творы Талстога, Лермантава, Купрына, Гогаля ды іншых пісьменнікаў у перакладзе Макара Краўцова выходзілі ў розных выдавецтвах Вільні.

Што ж тычыцца арыгінальных твораў Макара Краўцова, дык яны ніколі не былі сабраныя пад адной вокладкай. «Дзіўны гэта быў чалавек,— успамінае старэйшая беларуская пісьменніца Зоська Верас.— Нідзе не мог прыжыцца. Рабіў карэктуру майго батанічнага слоўніка. З жонкай жылі вельмі бедна. Усё шукаў работу, нідзе стала не працаваў». Пасля майскага перавароту, калі ў Польшчы ўсталявалася дыктатура Пілсудскага і пачаўся рэжым «санацыі» («аздараўлення»), Макара Краўцова арыштавалі. Гэты арышт быў не апошні ў ягоным жыцці: у 1939 годзе яго арыштавалі назаўсёды.

Прапануючы ўвазе чытачоў «Крыніцы» вершы Макара Краўцова, не магу не згадзіцца з англійскім вучоным Арнольдам Макмілінам, які ў сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры» назваў яго перспектыўным паэтам. Неспрыяльны лёс, праца дзеля кавалка хлеба, трэба думаць, не далі разгарнуцца таленту Макара Краўцова напоўніцу.

Сяргей СОКАЛАЎ-ВОЮШ

## ПАВАРОТ ДА ГОРАДНА[1]

Ізноў я тут. Цябе вітаю,
Мой родны Горадзен стары!
Ізноў па вуліцах лятаю
Да самай позняе пары.

З цябе нацешыцца няможна
Пасля разлукі ў тры гады!
Як міла плітачка тут кожна,
Дамы, бульварчыкі, сады.

Хрыбты мастоў пераламаных.
Ахвяры скончанай вайны,
Шкада мне вас, параскіданых,
Ўдалыя Нёмнавы сыны!

І ты — Нямога Пасяджэння[2]
Магутны Замак — як жывеш?
Праб'е часіна адраджэння —
Ізноў ты, мілы, загудзеш!

А ты... ты — Нёман бела-сіні...
Ой, як харошы, дарагі!
Старыя хвоі, як багіні,
Твае бароняць берагі.

На грудзях хваляў летнім часам
Адпачываў я тут не раз
І часта быў з табой сам-насам,
Аж покуль доўгі дзень не згас.

Цяпер нядоляй пілігрыма
Сюды загнаны незнарок,
Твой быстры бег лаўлю вачыма,
Гляджу і ўдоўж і ўпапярок.

На тым баку я бачу зоркі —
Ў зацішнай, беднай нізіне:
Ўляпілі цёмныя прыгоркі
Раём фарштадскія агні...

Вітай жа, Горадзен, дзяціну
Тваіх муроў, твае раллі,
Хоць ты прытулішчам будзь сыну —
Выгнанцу роднае зямлі!

## СПЯВАЙ!

Спявай, гаротны беларусе,
Паплакаў годзі ты!
Такой, як мы, працоўнай — мусі
Ня злічыш галіты.

Раней не значыў ты нічога,
Запомніў сам сябе —
І шмат так часу дарагога
Не сніў аб барацьбе.

Аж вось загуў грымот аб Волі:
«Народы, хто жывы!
Падбайце самі ўжо аб долі
Сваёй уласнай вы!»

І ты, плячыма варухнуўшы,
З вачэй заслону здзёр
Ды, імя ўласнае пачуўшы,
Пячатку рабства сцёр,

Што на табе была вякамі,
Атрутай на душы...
Хоць сёння дружнымі рукамі
Свой лёс паварушы!

Пад моц надзеі уваскросшай
Былому кінь: «Бывай!»
Пад гук дуды свае заглохшай
Нанова заспявай!

І гумар прашчураў свабодна
Маланкай распалі,
Каб красавала мова родна
На беразе Вяллі.

А там папрэцца год за годам
Твой новы быт у высь,
Пачнуць і нас лічыць народам,
Як мусілі калісь...

## РАМАНС

Ціха спаў стары лес недалёчка,
На балоце кулік чыркацеў,
Тэй вясны была цёмная ночка,
Што не вернецца зноў, каб хацеў.

Хутка недзе схавалася вёска,
Усё гусцела й гусцела імгла;
Твая мілая, доўгая коска
Чорнай стужкай на плечы лягла.

Яшчэ зоркамі вочкі свяцілі.
Шчасце-моладасць грэла душу...
Тыя думкі, што нас засмуцілі,
Я дагэтуль, як шчасце, нашу:

«Нас нядоля ліхая злучыла,
І ў наплыве сляпога чуцця
Ўсю атруту пазнаць навучыла»...
Дый заплакала ты, як дзіця.

Ў беднаце мы абое стагналі,
Як ад нейкай хваробы-чумы,
Ніякога ратунку не зналі,
Век галодныя, бедныя мы!

Было жудасна нам сярод ночы,
Лёд нядолі застыў каля нас.
Ты, як ангел, мне глянула ў вочы
І пачула: «Расстацца нам час»...

Менск. 14/VI. 1918.

---

[1] Нечая лёгкая рука перахрысціла па-свойму гэтае нашае места, завучы яго ў газетах «Горадня». Народ заве яго «Горадна» або «Горадзен»; так яно звалася і ў мінуўшчыне, бо ў старых пісаных дакументах за літоўскі перыяд нашае гісторыі спатыкаем «Горадно». Стары назоў захоўваецца і мною. (Заўвага аўтара.)

[2] Маецца на ўвазе пасяджэнне сейма Рэчы Паспалітай у Горадні (1793). Не маючы магчымасці абараніць Рэч Паспалітую ад дамаганняў царызму і Прусіі, паслы і сенатары змоўклі. Гэтае маўчанне было растлумачана як згода, і наступіў другі падзел Рэчы Паспалітай.

Вячаслаў
ШАЛЬКЕВІЧ



# НЯВЕСТА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

# МАРЫЯ ЯМАНТ



Адным з самых блізкіх да Кастуся Каліноўскага людзей на заключным этапе паўстання (можа, нават самым блізкім) была яго нявеста Марыя Ямант. Парадаксальна, але да гэтага часу асоба Марыі Ямант з'яўляецца і самай забытай. Дарма будзем шукаць якія-небудзь звесткі пра яе ў даследаваннях, прысвечаных паўстанню 1863—1864 гг. на Беларусі і ў Літве або дзейнасці беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, у даведніках, што выйшлі апошнім часам.

Марыя Ямант нарадзілася ў Вільні каля 1843 года ў шматдзетнай сям'і (у яе было тры сястры і два браты). Бацька Марыі Тадэвуш Ямант служыў у адміністрацыі маёнткаў князя Вітгенштайна, што былі на тэрыторыі Беларусі і Літвы, і добра ведаў бяду і клопат беларускіх і літоўскіх сялян. Таму няма нічога дзіўнага, што ўсе дзеці Ямантаў, апроч старэйшага сына, які служыў у Пецярбурзе, бралі ўдзел у вызваленчым руху і заплацілі за гэта шматгадовай ссылкай у Сібір.

Юзаф Ямант, таварыш Кастуся Каліноўскага па Пецярбургскім універсітэце, паводле Я. Гейштара, «быў вельмі карысны» ў час паўстання. На заключным этапе барацьбы ён займаў пасаду рэвалюцыйнага камісара Мінскай губерні. Усе сёстры Ямант — Марыя, Галена, непаўналетняя Схаластыка, а таксама старэйшая Людвіка, якая была замужам за Л. Родзевічам і жыла асобна ад бацькоў,— уваходзілі ў склад Жаночага камітэта ў Вільні. Характарызуючы дзейнасць гэтага камітэта, Людвіка ў сваіх успамінах пісала: «Было ў нас тады шмат жанчын здзіўляючай сілы духу і незвычайнай мужнасці. Некаторыя, з выгляду ціхія і рахманыя, у момант небяспекі неаднаразова дэманстравалі сапраўдны гераізм і бясстрашнасць». Да ліку такіх жанчын належалі і сёстры Ямант. Яны хавалі і распаўсюджвалі нелегальную літаратуру, нарыхтоўвалі правіянт, амуніцыю і зброю для будучых паўстанцаў, хавалі паўстанцкія друкарні і г. д.

Бацькі Ямантаў, ужо пажылыя людзі, непасрэднага ўдзелу ні ў падрыхтоўцы паўстання, ні ў самім паўстанні не бралі, аднак яны ведалі пра дзейнасць дзяцей і ўхвалялі яе. З лета 1863 года ў доме гэтай патрыятычнай сям'і ў Вільні была адна з галоўных канспіратыўных кватэр К. Каліноўскага. Ён тут жыў і прымаў найбольш блізкіх і праверaных людзей.

Найбольш каштоўныя звесткі пра сувязі К. Каліноўскага з сям'ёй Ямантаў мы знаходзім у паказаннях Юзафа Каліноўскага (ён не быў сваяком К. Каліноўскага) Віленскай асобай следчай камісіі. Паколькі ягоныя ўспаміны і лісты будуць цытавацца часта, нагадаю каротка яго жыццёвы шлях. Юзаф Каліноўскі (1835—1907) нарадзіўся ў Вільні ў сям'і дырэктара Дваранскага інстытута, які і скончыў з залатым медалём. Вучобу працягваў у Пецярбурзе ў Ваенна-інжынернай акадэміі, а да гэтага два гады вучыўся ў Горы-Горацкім агранамічным інстытуце. З 1860 года быў на вайсковай службе ў Брэсцкай крэпасці. Пасля пачатку паўстання выйшаў у адстаўку ў чыне капітана, прыехаў у Вільню і ўзначаліў Ваенны аддзел рэвалюцыйнай арганізацыі Беларусі і Літвы. Легальна жыў у сваіх бацькоў, афіцыйна займаў пасаду настаўніка ў гімназіі.

Нягледзячы на адрозненні ў поглядах, Ю. Каліноўскі разам з К. Каліноўскім быў адным з кіраўнікоў вызваленчай барацьбы. Ён быў арыштаваны ўначы з 24 на 25 сакавіка 1864 года і асуджаны на пакаранне смерцю, але потым яму далі 10 гадоў катаргі. Ягоныя ўспаміны, паказанні і лісты з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі паўстання 1863—1864 гг. на Беларусі і ў Літве. Заўважым, што паказанні Юзафа Каліноўскага былі дадзены тады, калі Кастуся Каліноўскага ўжо не было сярод жывых, а пра дзейнасць сям'і Ямантаў следчая камісія была ўжо інфармавана. Тым не менш праз шмат гадоў ён напісаў, што ў дачыненні да гэтай сям'і яго даймаюць згрызоты сумлення.

Вось што паведаміў Ю. Каліноўскі Віленскай асобай следчай камісіі пра сувязі Кастуся Каліноўскага з сям'ёй Ямантаў: «У канцы жніўня ці на пачатку верасня (1863 года) я з ім (Канстанцінам Каліноўскім) зноў сустрэўся на Нямецкай вуліцы, тады ён завёў (мяне) у кватэру, якая аказалася пазней кватэрай Ямантаў... З таго часу я сустракаўся з Каліноўскім... на той самай кватэры, а потым на яго ж кватэры ў доме гімназіі... Пры ўваходзе ў кватэру Ямантаў сапраўды трэба было пастукаць. У тых выпадках, калі я ў ёй бываў, дзверы адчыняў або сам Каліноўскі або Далеўскі...»

Менавіта на гэтай кватэры К. Каліноўскі праводзіў нарады з кіраўнікамі паўстання.

Магчыма, улетку 1863 года ў Вільні і нарадзілася вялікае і сапраўднае каханне паміж Марыяй і Канстанцінам. Ці была Марыя нявестай беларускага рэвалюцыянера - дэмакрата? Станоўчы адказ на гэтае пытанне мы знаходзім у рукапісных успамінах Людвікі Ямант (Родзевіч). На адной са старонак гэтага неапублікаванага рукапісу чытаем: «Старэйшая сястра Марыя была нявестай Канстанціна Каліноўскага». Трэба адзначыць, што старэйшай сястрою Марыя названа тут у дачыненні да Галены і Схаластыкі.

Марыю і Канстанціна аб'ядноўвалі ідэалы нацыянальна-вызваленчай барацьбы, мары аб народным шчасці, у імя якога яны змагаліся. Лёс будучай сям'і прадвызначыў арышт К. Каліноўскага ўначы на 29 студзеня 1864 года. Наколькі Марыя была дарагая Кастусю, сведчаць радкі з ягонага ліста-верша, напісанага ўжо ў зняволенні:

**Марыська чорнабровая, галубка мая,**
**Дзе ж падзелася шчасце, ясна доля Твая:**
**Усё прайшло,— прайшло як не бывала,**
**Адна страшэнна горыч у грудзях застала.**

**Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,**
**Но прымі цяжкую кару, Прадвечнага волю.**
**А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,**
**То я з таго свету Табе адзавуся...**

Ліст Кастуся Каліноўскага да Марыі Ямант — гэта несмяротны помнік каханню. Цяжка паверыць, што гэта прыклад з рэальнага жыцця, а не з мастацкай літаратуры: гэтак уражвае ў ім хараство, веліч і сіла пачуцця.

Апынуўшыся ў вязніцы, К. Каліноўскі спрабаваў адвесці бяду, што навісла над сям'ёй Ямантаў. Нягледзячы на неабвержныя факты, якія меліся ў распараджэнні Віленскай асобай следчай камісіі, ён мужна заявіў: «Пры гэтым станоўча сцвярджаю, што ў сям'і Ямантa ніколі не бываў (!) і прозвішча гэтае чуў толькі ў Пецярбургскім універсітэце, але з самім з такім прозвішчам знаёмы не быў і нават не ведаю яго ў твар». Аднак следчая камісія не прыняла да ўвагі заяву К. Каліноўскага. Уся сям'я Ямантаў (акрамя Людвікі, якая жыла асобна) была кінута ў астрог. Арышт сям'і дэталёва апісаны ва ўспамінах Людвікі: «Уначы зграя жандараў уварвалася ў дом да маіх бацькоў, і ўсіх, хто там быў, пачынаючы з брата Юзафа, арыштавалі, а дом апячаталі. Забралі бацьку і маці, людзей пажылых, вядомых і паважаных у горадзе, трох сясцёр: Марыю, Галену і Схаластыку (яшчэ непаўналетнюю), а таксама служанку Карусю».

Улетку 1864 года ўся сям'я Ямантаў (акрамя непаўналетняй Схаластыкі) была саслана: Юзаф — у Томск, а бацька, маці, Марыя і Галена — у Табольск. Яманты былі адпраўлены з Вільні ў Пецярбург, а адтуль — у Сібір. Праз Маскву да Ніжняга Ноўгарада ехалі па чыгунцы, потым на параходзе па Волзе і Каме плылі да Пермі, ад Пермі да Цюмені дабіраліся на конях, нарэшце з Цюмені да Табольска ішлі пешшу па звычайнай этапнай дарозе, дзе два дні дарогі чаргаваліся з днём адпачынку. Мабыць, толькі ў канцы 1864 года прыйшлі яны да месца сваёй ссылкі.

Асабліва цяжкі быў апошні адрэзак шляху — ад Цюмені да Табольска. Паперадзе партыі ссыльных ішлі, як звычайна, крымінальнікі, для якіх на этапах вызначаліся лепшыя месцы начлегу і адпачынку. У разе якой-небудзь незадаволенасці з боку палітычных ссыльных ахова клікала для іх уціхамірвання крымінальныя элементы.

Падрабязнасцяў жыцця Ямантаў у Табольску мы не ведаем. Юзаф Каліноўскі, больш дасведчаны пра іх вандроўнае жыццё, у адным з лістоў пісаў, што гэтая сям'я ў Сібіры «дужа пакутавала». Пакутавала перш за ўсё таму, што ў сям'і было двое старых і дзве пары пяшчотных дзявочых рук, якім было не пад сілу пераадолець тыя цяжкасці, якія ледзь адольвалі нават дужыя мужчынскія рукі. Адным з блізкіх сяброў сям'і быў лекар з Мінска Пётр Чакатоўскі, які асабіста ведаў Кастуся Каліноўскага і, як можна меркаваць па крыніцах, падзяляў ягоныя погляды. У рэвалюцыйнай арганізацыі Беларусі і Літвы ў час паўстання 1863—1864 гг. ён займаў пасаду начальніка горада Мінска. На жаль, хутка П. Чакатоўскі, які затрымаўся ў Табольску з прычыны жончынай хваробы, мусіў кіравацца далей — у Іркуцк.

Сям'я Ямантаў не разгубіла свае выдатныя чалавечыя якасці, не пала на духу. Больш таго, яна сама дапамагала і падтрымлівала іншых выгнаннікаў. Так, Яманты гасцінна прынялі пад свой табольскі дах жонку вядомага рускага рэвалюцыянера-землявольца Лонгіна Панцялеева, якая кіравалася ў ссылку праз Табольск.

У час следства ў 1864 годзе Л. Панцялееў знаходзіўся ў Вільні ў тым самым Дамініканскім кляштары, што і многія ўдзельнікі паўстання 1863—1864 гг. на Беларусі і ў Літве. Там ён пазнаёміўся з мужам Людвікі Ямант — Л. Родзевічам, а праз яго і з Людвікай. Калі жонка Л. Панцялеева з грудною дачкою прыехала наведаць мужа ў Віленскай турме, яна знайшла прыстанішча ў доме Людвікі Родзевіч. Рускі рэвалюцыянер, едучы з Вільні ў шматгадовую сібірскую ссылку, узяў з сабою «рэкамендацыйны ліст» да Ямантаў. Як пісаў у сваіх «Воспоминаниях» Л. Панцялееў, «Яманты адразу ж забралі жонку да сябе». (Сам Л. Панцялееў быў у той час у табольскай турме.)

Сям'я Ямантаў цёпла рэагавала на ўсякую спагаду, увагу да іх або да іх блізкіх. Вось што згадвае Юзаф Каліноўскі: «Калі я быў ужо ў Іркуцку, атрымаў ад тае сям'і (Ямантаў) ліст, у якім яна дзякавала за дапамогу, якую я аказаў іх малодшаму сыну (Юзафу). Справа была такая: партыю ссыльных, сярод якіх быў і малады Ямант, мы дагналі па дарозе, і меў магчымасць па-сяброўску пагутарыць з ім пару гадзін. Заўважыўшы гэта, начальнік партыі, так званы стараста (якога выбіраюць самі ссыльныя са сваіх шэрагаў для зносін з начальнікам канвою і г. д.), падышоў да мяне і спытаў, што я ведаю пра маладога Ямантa, якога абвінавачвалі ў тым, што на следчай камісіі ён паводзіў сябе не належным чынам. Я сказаў, што нічога кепскага пра яго не чуў, і гэта была праўда... Маё сведчанне змяніла спосаб абыходжання як самога старасты, гэтак і астатніх ссыльных з маладым Ямантам, з якім да гэтага абыходзіліся не самым лепшым чынам. Ліст гэты прынёс мне вялікую радасць».

Дзякуючы сваім маральным якасцям сям'я Ямантаў карысталася сярод выгнаннікаў асаблівай павагай. Паказальныя радкі з ліста Юзафа Каліноўскага, напісанага ўжо ў 1874 годзе, калі ён вярнуўся са ссылкі і наведаў у Смаленску доктара П. Чакатоўскага, які застаўся там жыць. Ліст быў адрасаваны паплечніку Канстанціна Каліноўскага Феліксу Зяновічу, які яшчэ заставаўся ў Сібіры. «Дарагі Фелікс! Учарашні вечар правёў у Чакатоўскіх... Ні пра каго са знаёмцаў не ўспамінае, толькі пра сям'ю Ямантаў...»

Усе дзесяць гадоў ссылкі Марыя берагла памяць пра Канстанціна. Трэба заўважыць, што маладыя дзяўчаты сярод ссыльных былі не такой частай з'явай і таму карысталіся вялікай увагай выгнаннікаў, абсалютную большасць якіх складалі маладыя мужчыны. Так, адзін са ссыльных згадваў, што аднаго разу ў Табольску на імянінах пані Казіміры Чакатоўскай сабралася «каля дзесяці выгнанніц і чатыры дзесяткі асоб мужчынскага полу». Зразумела, што шлюб сярод ссыльных быў даволі частай з'явай. Многія дзяўчаты — удзельніцы паўстання 1863—1864 гг.— выходзілі замуж. Гэтак зрабіла дачка класіка беларускай літаратуры Каміла Дунін-Марцінкевіч, Караліна Яцына, сястра Марыі Галена і іншыя. Марыя не хацела ствараць у Сібіры сям'ю, працягвала берагчы вернасць каханаму, які загінуў на царскай шыбеніцы. Пазбаўленая ў маладосці свайго шчасця, яна пакутавала ўдвая. Гэтую вялікую пакуту добра відаць на змешчаным тут фотаздымку, што быў зроблены ў Табольску.

Каля 1874 года сям'я Ямантаў вярнулася на радзіму. Бацькі атрымалі дазвол пасяліцца ў Літве, Галена з мужам і Марыя — у Варшаве. Тут на Марыю зноў абрынулася няшчасце. Памерлі сястра Галена і яе муж Антоні Віскоўскі, потым пайшлі з жыцця бацькі.

І вось толькі тады, калі перад Марыяй паўстаў прывід адзінокае старасці, яна дала згоду на шлюб з былым ссыльным, удзельнікам паўстання 1863—1864 гг. на Беларусі і ў Літве Войцехам Дмахоўскім.

Памерла Марыя Ямант, мусіць, у Варшаве.

Такі быў драматычны лёс гэтай выдатнай дзяўчыны, якая лепшыя гады свайго жыцця аддала вызваленчай барацьбе, а сэрца — палымянаму рэвалюцыянеру.



# МЯНЕ ТУТ НЕ БЫЛО

Алег МІНКІН



## ДЗЁННІК, ЗНОЙДЗЕНЫ НА ГАРЫШЧЫ

**27 кастрычніка**

Выходзіў учора з крамы і нечакана наляцеў на прахожага. Не ўтрымаўся на нагах, бразнуўся на асфальт. Пачуў толькі, як зазвінелі ў торбе пляшкі з кефірам. Ён быццам з неба зваліўся, гэты даўгяла ў выцвілым спартовым трыко і вялікіх, невераготнага памеру, кедах.

— Скуль ты толькі ўзяўся,— прабурчэў я, падымаючыся з тратуара.

— З Марса,— ненатуральна мілагучна азваўся даўгяла.

Пэўна, у хлопца бракуе клёпак, вырашыў я. А зірнуўшы ў фіялетавыя, з залацістымі бліскаўкамі вочы, здагадаўся: наркот! Моўчкі выцягнуў з торбы абліты кефірам бохан, вытрас у сметніцу пабітае шкло і пасунуўся дахаты.

Да вечара ляжаў на канапе. Не чыталася. У галаву лезлі дакучлівыя думкі. І было такое адчуванне, нібы жыццё маё замерзла, і я, як не сваімі нагамі, блукаю даўным-даўно ў агідным ліпучым тумане, ведаючы, што ніколі мне не выбрацца з гэтай бязвыйснай куламесы.

Я нават узрадаваўся, калі завітала суседка (яна займае другую палову хаты). Суседка паведаміла, што ўсчаўся дождж, а ў яе сапсаваўся тэлевізар. Потым паскардзілася, што ёй апошнім часам нядужыцца, і параіла мне ажаніцца. І неўзабаве так надакучыла мне, што я ледзь дачакаўся, пакуль яна сыдзе. Аднак на самоце мне зрабілася яшчэ ніякавацей і падумалася, што з суседкаю было ўсё ж крыху весялей.

Позняй позніцаю падняўся з канапы, падышоў да акна і прыціснуўся тварам да запацелай ад дажджу шыбіны. На супрацьлеглым баку вуліцы снаўдалася туды-сюды нейчая няўклюдная постаць. «Той самы даўгяла!» — пазнаў я. Накінуў пыльнік і выйшаў на двор...

Тулава ў Лійнга — так сябе кліча «марсіянін» — не большае ад майго, а вось ногі разы ў два большыя, хударлявыя, з агромністымі ступакамі. Рукі таксама даўжэзныя, кашчавыя. Усё гэта надае Лійнгу падабенства з нейкаю няскленістаю нетутэйшаю жамярынаю. Аднак болей за ўсё нетутэйшым робяць яго вочы: вялізныя, сумна-фіялетавыя, з залацістымі бліскаўкамі. Я пазбягаю глядзець яму ў твар — так мне адразу робіцца непамысна.

Лійнгу я паслаў на падлозе, бо ён нікуды не месціцца. Доўга не мог заснуць, прыслухоўваўся. Ды Лійнг не варушыўся, ціхамірна пасопваў у сваім кутку.

Заснуў я на досвітку. І мо праз якую гадзіну прахапіўся — нешта аглушальна загрукацела. Спярша падумалася, што гэта Лійнг, але грукацела недзе знадворку. Гляну ў акно і ў шэрым прыцемку згледзеў кампрэсар, а каля яго купку людзей, што засяроджана працавалі рыдлёўкамі і адбойнымі малаткамі. Наўзбоч працуючых стаяла суседка. Яна нешта крычала на вуха мужчыну ў пыльніку і капелюшы аднолькавага сталёвага колеру.

Мяне апанаваў гнятлівы неспакой. Я пацёгся на кухню, запаліў святло і, каб супакоіцца, занатаваў у сшытак падзеі ўчарашняга дня.

**28 кастрычніка**

Лійнг учора здзівіў мяне і збіў з тропу.

Апоўдні прыбегла суседка і доўга абуралася, што кампрэсар абудзіў яе на золку. Раптам яна змоўкла і няўцямна зірнула туды, дзе яшчэ дрыхнуў Лійнг.

— Хто гэта ў цябе начаваў?

— Начаваў? — не зразумеў я. Няўжо суседка не бачыла агромністыя ступакі, што тырчалі з-пад коўдры?

Знячэўку я адчуў, як па спіне ў мяне пабеглі мурашкі: і на правай, і на левай назе ў Лійнга было не пяць, а тры пальцы. Мне зрабілася няёмка. Так няёмка я пачуваў сябе ў анатамічцы, куды аднойчы выпадкова трапіў... Нават не заўважыў, калі сышла суседка.

А адзінаццатай паслаў Лійнга ў краму, а ў самога на душы кволілася спадзяванне, што Лійнг забудзецца на мяне і больш не вернецца.

Бачыў праз акно, як ён старанна абмінаў кампрэсар, як прапусціў у краму суседку з глячком, ды ў дзвярах твар да твару сутыкнуўся з чалавекам у пыльніку і капелюшы аднолькавага сталёвага колеру. Я чакаў усяго, толькі не гэткага: чапурысты мужчына ў вопратцы сталёвага колеру як нічога ніякага прайшоў **скрозь** Лійнга.

Лійнг вярнуўся.

Да змяркання перачытваў адну кнігу, сэнс якой па-ранейшаму не мог уцяміць. Лійнг тым часам знайшоў недзе матрунку і, лежачы на падлозе, разбіраў яе на асобныя лялькі, а затым зноў складваў іх у адну. «Яны ўсе на адзін капыл, як марсіяне»,— раз-пораз вуркатаў ён і спяваў нешта накшталт: «Аўэн млэр олаі іўнг»*.

Проці ночы Лійнг паведаміў:

— Ваня, я бачыў сёння ў дзвярах крамы дзіўны шэры капялюш, які рухаўся ў паветры сам па сабе.

Я зрабіў выгляд, што не пачуў яго слоў. Выходзіць, таго дзядзьку ў пыльніку і капелюшы, з якім Лійнг сутыкнуўся ў дзвярах крамы, ён не заўважыў? Адзін толькі капялюш разгледзеў? І тут мне здалося, быццам і сам Лійнг існуе толькі ў маім уяўленні, улуда зроку, быццам я пакрысе вар'яцею ад самоты.

— Лійнг! — выгукнуў я.— Ты — выдатны хлопец!

І штомоцы ляпнуў Лійнга па плячы, чакаючы, што рука мая вольна пройдзе скрозь ягонае цела. Лійнг аж прысеў.

— Ты што? — утаропіўся ён на мяне.

Значыцца, ён усё ж такі сапраўдны, з мяса і касцей...

На вуліцы па-ранейшаму тарахціць кампрэсар. Запалілі пражэктары і працуюць уначы.

**29 кастрычніка**

Адранку Лійнг сеў ля тэлевізара. Я схаваўся быў з кнігаю (той самаю) на кухні, ды ўсё адно было чутна, як за сцяною бубніць нешта назольна-гугнявы голас, які раз-пораз патанае то ў моцным плясканні ў ладкі, то ў спевах уражанага нечым Лійнга. У дадатак на вуліцы кляцае і кляцае несуцішны кампрэсар.

Не стрываў. Пайшоў выключаць тэлевізар. І спыніўся пасярод залы: мне здалося, што я ўжо дзесьці бачыў таго мужчыну ў пінжаку сталёвага колеру, які выступаў па тэлевізары.

— А ў вас тут любата! Не тое, што ў нас! — праспяваў Лійнг.

— Мабыць, так,— прамармытаў я, разважаючы, дзе я мог бачыць гэтага прамоўцу ў сталістым пінжаку. І нечакана ўцяміў: гэта ж той самы дзядзька, з якім Лійнг надоечы сутыкнуўся ў дзвярах крамы. Лухта нейкая.

— Ты што? — не зразумеў Лійнг, калі я выключыў тэлевізар.

— Галава штосьці баліць,— азваўся я.

Лійнг узяў у мяне з рук кнігу. Там пісалася, што жыццё — скрозь пакуты і роспач. А пакуты ў сваю чаргу — толькі рабізна на паверхні патаемнай нехапатлівай глыбіні, у якой знікае час, рух, адлегласць, боль, і нешта няўлоўнае ўсё ж застаецца. Што?

Лійнг пагартаў кнігу і ўздыхнуў:

— Лухта нейкая.

— Мабыць, так,— пагадзіўся я. А Лійнг зноўку пачаў разбіраць і складваць матрунку.

Прысніўся мне, нібы знарок, той самы прамоўца ў сталістым гарнітуры. Дакладней, цэлых два. Першы, на экране тэлевізара, пераконваў свайго двайніка, які драмаў на крэсле перад тэлевізарам, што ён, першы, дужэйшы ад яго, прыгажэйшы і, наогул, самы-самы. Тэлевізар стаяў на попельнашэрай роўнядзі, і нідзе, як вокам акінуць, не было ніводнай жывой душы. Таму сталёвага чалавека на экране не было з кім параўнаць апрача рыхт у рыхт да яго падобнага двайніка, які драмаў перад тэлевізарам. Аднак гэты, другі, раптам ускочыў з крэсла, склаў далоні рупарам і выгукнуў на ўсю моц:

— Гэта я — самы-самы!

І рэха азвалася:

— ...мы-ы-ы!



Так ён крычаў і слухаў рэха свайго ўласнага голасу, пакуль я не прачнуўся. За сцяною рыпіць ложак і енчыць скрозь сон суседка. Есць жа шчаслівыя людзі, якія спяць без сноў.

**31 кастрычніка**

Учора нічога цікавага не здарылася. Хіба што, як высветлілася, рабочыя выкапалі яміну не там, дзе трэба. Цяпер на яе месцы перад крамаю шарэе лужына, з якой тырчаць абломкі асфальту ды плавае ўсялякае смецце. А кампрэсар грукаціць недзе далей па вуліцы.

Зацягнуў суседцы тэлевізар. Можа, радзей будзе заходзіць.



Ранак быў сонечны, цёплы. Пайшлі з Лійнгам на шпацыр у парк. Паказаў яму лаўку пад старым берастам. На яе прыслоне, нефарбаваным, мусіць, гадоў сем, выразана: «Мяне тут не было. Ваня Б.»

Надпіс гэты я пакінуў тут акурат тады, калі дзяўчына, якую я кахаў, выйшла замуж за футбаліста вышэйшае лігі. Цяпер сэнс выразанага сцёрся ў маёй памяці, а некалі ж я плакаў тут і не хацеў жыць.

— Што ты гэтым хацеў сказаць? — спытаў урэшце Лійнг.

— І сам добра не ведаю,— прызнаўся я.

Крыху прайшліся па прысадах, абсыпаных апалым лісцем і шыльнікам. Слухалі, як шаргаціць пад нагамі жаўталіст, і дыхалі гаркавым ад дыму паветрам. (Мне заўсёды шкада, калі гэткую прыгажосць зграбаюць у кучы і паляць на прагалінах паміж дрэў.)

Спыніліся пад разгалаю ліпаю, да камля якой была прыхінутая зацвілая, знявечаная, з адбітымі рукамі скульптура, што колісь аздабляла цэнтральную браму парка.

— Я ўжо дзесьці яго бачыў! — прамовіў нечакана Лійнг.

Я мо ўпершыню прыгледзеўся да гэтае скульптуры і здрыгануўся: Сталёвы Чалавек! Лухта нейкая.

Калі падыходзілі да пралазіны ў плоце, якая вяла ў наш з суседкаю сад, Лійнг знянацку збіў мяне з ног і прыціснуў да зямлі.

— Яны мяне знайшлі. Яны тут...— прашаптаў ён.

— Хто? — спалохаўся я і пачаў прыглядацца да пралазіны.

— Лмелы.

— Што яшчэ за лмелы? — павярнуўся я да Лійнга, а яго і звання на тым месцы не было.

Пацёгся дахаты адзін. Падыходзячы да плота, убачыў, што пралазіна цалкам заплецена павуцінаю, на якой чырвона паблісквалі кропкі нейкае вадкасці. Прымроілася, мабыць.

Доўга ляжаў на канапе і перачытваў тую ж самую кнігу. І, хоць забі, аніяк не мог зразумець галоўнага. Калі смерць — гэта не поўнае знікненне, дык ці не горш ад поўнага знікнення далейшае існаванне ў дрымотнай прасторы, дзе заўсягды будзе адна толькі пакутлівая думка, дзе не будзе ні зроку, ні слыху, ні паху, ні болю. Атрымоўваўся поўны паралюш...

Сутонькавалася. Святла запальваць не хацелася. У шыбіне над дахам крамы ярчэла самотная зорка. Мусіць, Мілавіда ці Марс... І знячэўку зразумеў, што марсіянін Лійнг, мажліва, ніколі ўжо не вернецца. Непаразумелая туга апанавала мяне.

* «Так, жыццё працягваецца, га!» (мунгр.)







АПАВЯДАННЕ

— Лiўнг,— прашаптаў я.

Пачуў, як з крана на кухнi мерна крапае вада. Мне здалося, што гэтак, па кроплi, сплывае некуды ад мяне жыццё, i бліжэй i бліжэй насоўваецца тое самае непазбежнае Нішто, пра якое я чытаў у кнізе.

— Лiўнг! — крыкнуў я.

— Ц-с-с... Яны дзесьцi побач. Яны сочаць за мною,— пачулася ў цемені.

Я запалiў святло. З-пад коўдры на мяне глядзелi спалохана фiялетавыя вочы Лiўнга.

Спытаў у яго пра лмелаў. Лiўнг прапанаваў падлiчыць блiскаўкi ў ягоных вачах. Я падлiчыў: дванаццаць у правым i трынаццаць у левым воку.

— Дык вось, у лмелаў усё наадварот,— растлумачыў Лiўнг, i больш я не выцягнуў з яго анi слова.

**3 лістапада**

Лiўнг два днi не выходзiў з хаты. Захутаўся з галавою ў коўдру, прыхiнуўся да сцяны i сядзеў, як мыш пад мятлою. Сёння ўранні ён, нарэшце, выбраўся са свайго берлагу, сумна ўсмiхнуўся.

— Жыццё працягваецца, га?

Апоўднi ён нават выйшаў на двор. Доўга хадзiў вакол растрэсканага дубовага пацурбалка, на якiм я калiсь сек дровы. Выцягнуў з пацурбалка ржавую сякеру i пачаў шалёна перыць па iм. Як высветлiлася потым, Лiўнг майстраваў помнiк.

— Каму? — здзiвiўся я.

— Табе, Ваня! — агламошыў мяне Лiўнг i зарагатаў.— Жыццё працягваецца, га?

А мне на душы зрабiлася сумна-сумна, хоць лажыся i памiрай.

**9 лістапада**

Так, жыццё працягваецца.

Даўно нiчога не занатоўваў. Не да таго.

Трэцяга лiстапада, увечары, зноў завiтала суседка. Спытала запалкi, села ў крэсла i запалiла цыгарэту. Я i не ведаў, што суседка палiць. Маўчала хвiлiн пяць. Я чытаў, дзiваваўся, што яна маўчыць, i краем вока паглядаў на яе. Разгледзеў, што яна яшчэ нiшто: прыгожая. Хацеў быў выцiснуць нейкi камплiмент, а яна прамовiла:

— А я й не ведала, што ты вершы пiшаш. Заходзiў тут адзiн... у шэрым пыльнiку, далiкатны такi, пытаўся пра цябе.

Ускапiлася з крэсла i хуценька сышла.

«Сталёвы Чалавек!» — сцяўся я. Згадаў, што некалi я сапраўды напiсаў адзiн верш i нават перапiсаў яго аднаму знаёмцу. Штосьцi пра жах: «Жыццё маё жахам атручана, праз жах я свой вечны гляджу, не вер мне — я жахам навучаны манiць, калi й праўду кажу...» Я занепакоiўся i да ўчарашняга праляжаў на канапе, бяздумна гледзячы ў столь.

Лiўнг тым часам навучыўся гатаваць па кнiзе «О вкусной и здоровой пище», якая засталася мне ад мацi. Так што я не галадаваў, хаця есцi асаблiва не хацелася.

Ды ўчора ўранні прачнуўся ад дуротнага смуроду. Тхнула аднекуль знiзу, з-пад падлогi. Падняў масніцыну i доўга свяцiў лiхтарыкам. Лiўнг угледзеў нарэшце здохлага пацука. Закапалi яго ў садзе пад самай агароджай.

— Жыццё працягваецца, га? — спытаўся я ў Лiўнга, калi вярталiся з пацучыных пахаванняў.

А Лiўнг задумлiва прамовiў:

— Я заставаўся апошнi з мунграў. Забiўся на гарышча ратушы i трохся там, як гэты пацук, баючыся нават выглянуць у акно. Па сталi скакалi водблiскi — гэта лмелы палiлi нашыя кнiгi. Чулiся выбухi — гэта лмелы ўзнiмалi ў паветра нашыя храмы. Даносiлiся хвосткiя ўдары бiзуноў — гэта лмелы вучылi маленькiх мунграў спяваць па-iхняму... Я так доўга сядзеў упоцемках, што мне пачало блюзнiцца, быццам на Марсе, апрача гэтых волкiх муроў, няма нiчога: нi лмелаў, нi мунграў, нi жыцця, нi смерцi... Чаму я не загiнуў разам з усiмi?

Спытаўся сёння ў Лiўнга, за што лмелы так ненавiдзяць мунграў.

— За вочы. У лмела ў правым воку на адну блiскаўку болей, чым у левым. У мунгра ўсё наадварот.

— Ну i што? — здзiвiўся я.

— Табе, Ваня, не зразумець,— уздыхнуў Лiўнг i надоўга змоўк. Ляжыць на падлозе i глядзiць у столь.

**10 лістапада**

Плакаў у сне па здохлым пацуку — i скуль гэткая шкадоба? Прачнуўся ад голаду. У халадзiльнiку пуста. На вулiцы золка. Збiраўся быў нанова заснуць, ды тут з вулiцы павеяла такiм смачным, ажно слiнка пацякла.

Убачыў за акном на месцы крамы стромы пагорак, якi нагадваў сваiмi абрысамi матрунку, а на патылiцы пагоркаматрункi — Сталёвага Чалавека перад вялiзным закурадымленым чопам. Сталёвы апалонiкам памешваў у чопе нейкае смачнае варыва, а да яго па коўзкай матрунцы караскаюцца, як мурашы, рабочыя з кампрэсарам, суседка i нейкiя дзядзькi ў сталiстых гарнiтурах — усе на адзiн твар са Сталёвым, толькi малюпасенькiя.

Абудзiў Лiўнга. Выйшлi на вулку i палезлi на вяршыню пагорка-матрункi разам з усёю грамадою. У спадзяваннi падсiлкавацца. Доўга лезлi, нагавiцы да дзiрак папрацiралi i есцi сахвоцiлiся. Прыпынiлiся. Зiрнуў угору, а да таго чопа яшчэ паўзцi ды паўзцi. Плюнулi мы, леглi на спiны i пачалi глядзець у чыстае блакiтнае неба.

Бачу раптам — лунаюць у блакiце папяровыя самалёцiкi. Зiрнуў убок, а гэта дзядзькi ў сталiстых гарнiтурах усе, як адзiн, палеглi, майструюць папяровыя самалёцiкi i запускаюць iх, хто вышэй. А знiзу рабочыя напiраюць, пхнуць пакрысе ўсiх нас угору, ды яшчэ кампрэсар за сабою цягнуць. I здаецца, уся наша грамада вось-вось абрынецца долу.

Сорамна мне стала. Паспрабаваў раскатурхаць Лiўнга, ды ён i вухам не павёў: пускае сабе самалёцiкi, спаборнiчае з суседкаю, хто вышэй. Папоўз адзiн.

Праз колькi часу, абадраны, знясiлены, убачыў на глянцаватай матрунчынай паверхнi адбiтак свайго твару: ажно ўвесь я сiвы. Выпрастаўся i бачу, што шлях ад мяне да Сталёвага суздром засланы цi то касцьмi, цi то пустымi пляшкамi. А тут музыка аднекуль загучала, светлая, шчымлiвая, нетутэйшая. I зрабiлася мне шкада чагосьцi, а чаго, анiяк не мог даўмецца...

Зiрнуў долу, а пад матрункаю сядзiць нябожчык-пацук, грызе кнiгу «О вкусной и здоровой пище» i пасмiхаецца.

Тады я зразумеў, што гэта зноў сон, i ўрэшце прачнуўся. У халодным поце. I анiяк не мог дапяць, скуль гучала тая дзiвосная музыка i аб чым я так шкадаваў у сне. Пацёгся на кухню, каб выпiць кроплю гарэлкi. Праходзiў каля люстэрка i нечакана заўважыў на скронях сiвыя падпалiны. Няўжо за адну ноч пасiвеў?

Распавёў Лiўнгу пра сон.

— Яна ў мяне выйграла,— паскардзiўся Лiўнг.

— Хто?

— Суседка. Яна вышэй ад мяне кiнула самалёцiк.

Выходзiць, нам снiўся адзiн i той самы сон. I знянацку я зразумеў, што яшчэ не прачнуўся, што i сам я, i Лiўнг, i ўсё наваколльнае толькi снiцца мне, мажлiва i сам я, i ўсё маё жыццё — нечы страхаморлiвы сон...

На змярканнi Лiўнг сказаў, што яму нядужыцца. Я хацеў быў схадзiць у аптэку па пiгулкi, ды Лiўнг адмовiўся, маўляў, у яго алергiя на зямное жыццё, яму трэ вярнуцца на Марс.

Сярод ночы я прахапiўся ад спеваў Лiўнга. Ён плача i спявае:

Нэуа рэлм iало нгул,*
Нэуа рэлм iало нгул...

Нiяк не магу раскатурхаць яго. I вады не прымае. Божа, што з iм?

**14 лістапада**

У Лiўнга нейкая дзiўная хвароба. Ён неўпрыкмет растае, памяншаецца. Толькi вочы па-ранейшаму вялiкiя, сумна-фiялетавыя. Я ўжо не разумею, як i ў чым лiпiць ягонае жыццё. На ўсе мае клопаты адказвае: «Мне трэба вярнуцца».

Учора перанёс Лiўнга з падлогi на канапу — такi ён зрабiўся маленькi. А сёння ён загаварыў. Я спярша думаў, што Лiўнг зноў пачаў трызнiць, ды ён не трызнiў, ён апавядаў мне пра Марс. Вось што мне запомнiлася.

Калiсь у марсiян было адносна спакойна. Яны множацца пачкаваннем i падобныя адно на адно, што тыя кроплi вады. Таму, верагодна, iм i свварыцца не было праз што.

Аднак, на вялiкi жаль, сярод марсiян знайшоўся нейкi Вiўнг, Першасвятар. Ён абвясцiў аднойчы, што скура жыхароў паўночнага паўшар'я, мунграў, крыху цямнейшая ад скуры жыхароў паўднёвага паўшар'я, лмелаў. I хаця Вiўнг нiчога кепскага сказаць гэтым не хацеў, ды пасля нядоўгiх тэарэтычных спрэчак памiж мунграмi i лмеламi распачалася тысячагадовая Свяшчэнная вайна. У час гэтай жорсткай вайны мунгры здымалi з пабiтых iмi лмелаў скуру i абабiвалi ёю муры сваiх малiтоўных дамоў. Лмелы ў гэтым дачыненнi мала чым адрознiвалiся ад сваiх супернiкаў.

Спярша, здаецца, перамаглi лмелы. Потым мунгры. Потым зноў лмелы. Цi, можа, наадварот. Урэшце другi марсiянскi Святар з мунграў, Нонг, навукова даказаў, што скура ў мунгра нiчым не адрознiваецца ад скуры лмела. I хаця мунгры за гэтае адкрыццё садралi з Нонга ягоную ўласную скуру — у пакутнiцкай гiсторыi марсiян усталявалася кароткае адхланне, так званы Цiхi час.

На сыходзе Цiхага часу трэцi Вялiкi Святар з лмелаў Аiл падлiчыў, што ў правым воку мунгра на адну блiскаўку меней, чым у лмела, i наадварот. Усчалася новая Справядлiвая вайна. Яна адрознiвалася ад Свяшчэннай, бадай, толькi тым, што цяпер зацятыя ворагi выколвалi адзiн другому вочы, а не здзiралi скуры, як тое рабiлася даўней. Праўда, у час Справядлiвай вайны сярод марсiян узнiкла даволi шматлiкая секта нгру, роўных. Гэтыя нгру добраахвотна выколвалi сабе вочы, пратэстуючы тым самым супраць жорсткасцей як лмелаў, гэтак i мунграў, за што iм i тыя i другiя добра давалi ў косцi i вынiшчвалi, бы самую страшэнную пошасць. (Лiўнг ганарыўся, што нейкi ягоны продак належыў да нгру.)

Лмелы ў рэшце рэшт перамаглi, i Лiўнг быў, верагодна, апошнi дарослы мунгр, якi яшчэ ацалеў. «Яны на гэтым не спыняцца»,— заключыў сваю споведзь Лiўнг i сцiх. Я так i не дапяў, што ён мае на ўвазе: цi тое, што лмелы i тут, на Зямлi, знойдуць яго, цi тое, што на Марсе будзе доўжыцца вайна. Хутчэй — усё разам.

**16 лістапада**

Да суседкi зноў заходзiў Сталёвы. Ён праходзiў пад акном i нечакана зiркнуў на мяне. Нiколi не даводзiлася бачыць такiх пустых i халодных, бы ў мерцвяка, вачэй. Зрабiлася страшна i няўтульна, быццам слiмаку, якога раптоўна выцягнулi з ракаўкi-хаткi. А тут яшчэ Лiўнг заспяваў сваё: «Мне трэба вярнуцца... Усё роўна яны адшукалi мяне». Небарака Лiўнг — зноўку пачаў трызнiць.

Апоўднi на горад напалi лмелы. Усе яны былi як i Лiўнг, толькi вочы мелi не фiялетавыя з блiскаўкамi, а халодныя i пустыя, бы ў Сталёвага Чалавека. I да Сталёвага, у ягоны палац-матрунку, усё цягнулi i цягнулi, каб папярэдзiць пра небяспеку.

Доўга бегаў па даўжэзным калiдоры, абапал якога блiшчэлi шкляныя дзверы. Аднак за дзвярыма былi толькi матрункi, адна за адну большыя, а Сталёвага нiдзе не было.

Хацеў я ўжо плюнуць на марную беганiну, ды ўбачыў на калiдоры Лiўнга, якога лмелы цягнулi за ногi. На вачах у Лiўнга была счырванелая ад крывi павязка, а галава ягоная бездапаможна i без жыцця матлялася па падлозе.

Я кiнуўся яшчэ ў адны дзверы, а там i сядзеў Сталёвы.

— Лмелы! Лмелы! — закрычаў я.

Сталёвы скасавурыўся, надзьмуўся на мяне, як мыш на крупы, i прасiпеў:

— Матрунка, зачынiся!

Нябачныя рукi схапiлi мяне за каўнер, кiнулi ў нiжнюю палавiнку самай меншай матрункi i верхняй палавiнкаю накрылi. Мяне пачало круцiць, бiць, штурхаць, i я ўцямiў, што маю матрунку паставiлi ў большую матрунку, а тую — у яшчэ большую... Я страцiў прытомнасць.

Ачомаўся ад тузанiны. Лiўнг тузаў мяне i крычаў:

— Лмелы! Лмелы!

Я азiрнуўся i ў iмглiстым свiтальным акне ўбачыў карункi павуцiны, густа абсыпанай крывавымi кроплямi нейкае вадкасцi...

Грукаюць у дзверы. Лiўнг цягне мяне на гарышча. Кажа, адтуль можна трапiць на Марс.

Бывай, Зямля! Мяне тут не... (На гэтым дзённiк Ванi Б. абрываецца.)

* * *

Гэты дзённiк я знайшоў на гарышчы. Ён належыў нейкаму хлопцу, якi жыў у маёй хаце да мяне. Жонка распавяла, што, сапраўды, некалi палову хаты займаў Ваня, цiхi такi, вады не замуцiць. Усё маўчаў i чытаў адну i тую ж кнiгу. Жонка пасля паспрабавала чытаць тую кнiгу, але i двух слоў не зразумела. Лухта нейкая.

Аднойчы ўвосень, на досвiтку, у яе не знайшлося ў хаце запалак — яна тады палiла,— i мая будучая сужэнка пайшла па iх да суседа Ванi. Доўга грукала ў дзверы, ды нiхто не адгукнуўся. Яна першая i заявiла ў мiлiцыю.

Я занёс Ваняў дзённiк участковаму. Той вярнуў яго мне i толькi рукою махнуў, маўляў, трызненне вар'ята. На фанерным шчыце перад уваходам у мiлiцыю ўчастковы паказаў мне фотаздымак Ванi. Вось што я прачытаў пад фотаздымкам: «У канцы лiстапада 1981 года з дома нумар шэсць па вулiцы Iндустрыяльнай пры невядомых абставiнах знiк грамадзянiн Беленькi Iван Iльiч, 1948 года нараджэння. Прыкметы знiкшага: апрануты ў шэры пыльнiк i капялюш. У акулярах. Вочы шэрыя, валасы бялёсыя. Пры хадзе прыпадае на левую нагу i моцна сутулiцца. Просiм усiх, хто ведае пра месцазнаходжанне грамадзянiна Беленькага I. I., паведамiць у блiжэйшае аддзяленне мiлiцыi».

Я ўжо забыўся быў на гэты дзённiк, ды натрапiў аднойчы на дубовы пацурбалак. Пацурбалак ляжаў пасярод двара i нагадваў чалавечую фiгуру. I зноўку прыгадаўся Ваня.

А зусiм нядаўна я знайшоў у парку пад старым берастам збуцвелую лаўку. На яе прыслоне яшчэ можна прачытаць: «Мяне тут не было. Ваня Б.»



* Мяне тут не было (мунгр.)

АДКРЫТЫ ЎРОК

# ЧАМУ Я ЛЯНУЮСЯ ВУЧЫЦЦА Ў ШКОЛЕ?

Выдатны дзень першае верасня. Шчаслівыя першакласнікі з непадробнай дзіцячай шчырасцю чытаюць на ўрачыстай лінейцы вершы пра школу, а побач натоўп старшакласнікаў саркастычна ўхмыляецца ў адказ на заклікі авалодваць Ведамі. Відовішча, на жаль, звычнае. І чым старэйшы клас, тым больш у ім нежадання вучыцца ў школе. І так — да самага вупускнога балю, дзе, як нядаўна шчыра прызналася мне знаёмая выпускніца: «Я плакала і нічога не магла зрабіць з сабою, хоць потым сама дзівілася, з чаго гэта я раптам. Бо ў старшых класах ніякіх сімпатый да школы не адчувала і не адчуваю цяпер, гледзячы на пройдзеныя дзесяць гадоў». Але, сапраўды, чаму? Мне здаецца, не варта думаць, што, маўляў, сабраліся адны гультаі і абібокі — вось і лянуюцца вучыцца, і школу не любяць, і такія яны благія. Не, справа ў іншым. Правёўшы ў класе апытанне з адзінай мэтаю — выявіць прычыны гэтае ляноты і гэтага нежадання, і абапіраючыся на думкі маіх знаёмых з розных школ, а таксама людзей, якія ўжо скончылі школу, вось што я падсумаваў:

— Многія прадметы, якія мы вывучаем, нам ніколі ў жыцці не спатрэбяцца. Я нядаўна чытала «Новый мир», дзе быў артыкул Ю. Азорава, вядомага спецыяліста, які лічыць, што да 80 працэнтаў ведаў, атрыманых у школе, не маюць ніякага практычнага прымянення. А далей размовы пра спецыялізацыю хоць бы ў старшых класах справа пакуль не ідзе,— такая думка дзесяцікласніцы, якую падтрымала большасць хлопцаў і дзяўчат.

— Пра якую дэмакратыю ў школе можа ісці гаворка, калі вучань не мае элементарнай свабоды выбару прадметаў, якія адпавядаюць ягоным схільнасцям і інтарэсам? Што кажуць праціўнікі спецыялізацыі: «Трэба, каб кожны меў сярэднюю адукацыю». А па сутнасці нас стрыгуць усіх пад адзін грабеньчык, нівелююць.

— Асабіста мяне цікавяць усе прадметы, але ні для каго не сакрэт, што нават самы цікавы прадмет можа ператварыцца ў нудны і цягамотны, калі якасць ягонага выкладання будзе на нізкім узроўні. А паверце, настаўнікаў, якія не любяць свой прадмет, мне прыйшлося пабачыць — і не раз.

— Ды нас проста развучваюць думаць самастойна ўжо з самых дзіцячых гадоў. Узяць хоць бы літаратуру, дзе ўжо ўсё раскладзена па палічках, усё на сваім месцы, і адступленне ад крытыкі дужа непажаданае. Вось самы просты прыклад. Я дагэтуль памятаю, як мы ў дзяцінстве вывучалі байку Крылова «Страказа і мураш». Мы старанна зубрылі запісаны ў сшытку так званы афіцыйны пункт гледжання. А калі паглядзець з другога боку, дык страказа танцуе і спявае на радасць усім, яна напаўняе лета асаблівай пекнасцю, яна, можна сказаць, артыстка. А мураш — звычайны жмінда. Увогуле, плюралізмам у школе і не пахне.

— Усё было б добра, калі б ацэньвалі толькі мае веды, а сімпатыі ці антыпатыі настаўніка не мелі ніякага ўплыву на адзнакі. Я сёлета ўжо скончыў школу. У мяне да дзевятага класа па літаратуры чацвёрка была рэдкасцю, атрымліваў пераважна пяцёркі. У той год да нас прыйшоў новы настаўнік. За ўвесь час я вышэй тройкі не падняўся. Воляю лёсу ў дзесятым класе апынуўся ў іншай школе з іншым настаўнікам — канчатковая адзнака была зноў «пяць».

— Ці вось яшчэ прыклад. На адным уроку нам кажуць: «Вы павінны паважаць сябе, павінны перш за ўсё быць асобаю, развіваць у сабе пачуццё чалавечае годнасці», карацей, «па кроплі выціскаць з сябе раба». З гэтага ўрока ідзеш акрылены і адчуваеш сябе Чалавекам. Але прыходзіш на другі ўрок, дзе цябе за невыкананне хатняга задання могуць назваць любым словам, нават дэбілам, дзе пастаянна ўбіваюць у галаву, што ты — нішто, што клас — гэта статак, дзе за спробу не згадзіцца з настаўнікам адразу навешваюць ярлык «хама», і справа канчаецца званком ці лістом бацькам на працу. Чаму такія дзейсныя словы: «Вось настане час экзаменаў, вы ў мяне паскачаце!»? Чаму такая папулярная згадка пра характарыстыку, адмоўную, вядома? Да якое ж пары?!

Погляды, як бачыце, неадназначныя, вельмі розныя. Не будзем «абвысакароджваць» сябе і рабіць выгляд, быццам ва ўсім вінаватыя настаўнікі. Але ўсё ж горка чуць словы чалавека, які правучыўся ў школе дзесяць гадоў і толькі і сказаў: «У мяне было шмат настаўнікаў, але не было ніводнага педагога». Я быў бы вельмі рады, калі б хто-небудзь, прачытаўшы гэта, спытаўся ў сябе і сказаў нам: «Цікава, а чаму я не лянуюся вучыцца ў школе?»

**Аляксандр ДАРОШКА,**
**дзесяцікласнік**

**Фота Аляксандра ЦІХАНОВІЧА**

ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

**Ірына МІХАЙЛАВА-СТАНЮТА,**
**доктар эканамічных навук**

# ЯКІЯ «ПРОДКІ»—ТАКІЯ І ДЗЕТКІ?

Я звярнула ўвагу на новы маладзёжны часопіс «Крыніца». Прызнаюся, ён мне падабаецца. Тут публікацыі на любы густ: пра гісторыю, камсамольскую работу, моду, маральнае выхаванне, здароўе, футбол, музыку, жывапіс... Пакуль не прадстаўлена шырока толькі эканоміка. Можа, таму, што яна нудная і ёю цяжка прывабіць чытача? А мы ўсё стараемся забаўляць моладзь і гэтым ёй спадабацца. Ці не таму самыя вялікія праблемы звязаны ў нас з адпачынкам маладых: дзе ім сабрацца, патанцаваць і пад якую музыку? Гэтае пытанне цяпер самае надзённае. Ну а сацыяльная сталасць? Як яна фарміруецца, як мы вучым моладзь працаваць?

Сёння мы разумеем, што лозунгі і заклікі да працы як да першай жыццёвай і духоўнай патрэбы чалавека пры сацыялізме не спрацавалі. Рэальнае жыццё агаліла непрацоўныя даходы: хабарніцтва, крадзеж, несуноў і бракаробаў. Чужыя прыродзе сацыялізму з'явы множыліся пад заклікі да павелічэння грамадскага багацця. На словах усе былі за ўдарную працу, а на справе выходзіла: «І так сыдзе».

Што зрабілі мы, так званыя «продкі», для развіцця сталасці, самастойнасці і адказнасці моладзі? Якое пасля нас застаецца пакаленне? А раптам яно таксама будзе адміністраваць, загладжваць, замоўчваць і рэтушыраваць? Яно, гледзячы на нас, многае з гэтага ўжо пераняло. І такога нельга не заўважыць. Запрашаюць мяне, напрыклад, на тэлебачанне за круглы стол па безадходных тэхналогіях, кажуць, што перад гаворкаю пойдзе навукова-папулярны фільм. Цікаўлюся, бачу, што фільм — пра апрацоўку металаў рэзаннем, інакш кажучы, «антыфільм», які ідзе ўразрэз з тэмаю нашай гутаркі. Прашу замяніць і чую адказ маладых сімпатычных хлопцаў: «Другога мы не знайшлі». А можа, не захацелі знайсці?

А вось які выпадак быў у майго калегі па рабоце. Выходзіць яе кніга па дэмаграфіі, дзе даказваецца, што сям'я з трох чалавек, інакш кажучы, з адным дзіцёнкам, не можа лічыцца прадуктыўнай у сэнсе ўзнаўлення насельніцтва, патрэбныя двое дзяцей. А на вокладцы замест чацвярых намаляваны трое. Аўтарка стала прасіць маладога мастака падмаляваць яшчэ аднаго дзіцёнка. Але мастак адказаў, што ўсё ўжо падпісана і зменена быць не можа.

Такія прыклады гавораць не толькі пра гультайства, але і пра адсутнасць прафесійнай добрасумленнасці, неспакою за свой прэстыж.

Цяпер паўстала пытанне аб радыкальнай рэформе ў эканоміцы. Барацьба ідзе супраць адміністратыўных метадаў, якія перашкаджаюць рэалізацыі добрых задум. Прайшлі два гады пяцігодкі, але перайсці ад пераважна адміністратыўнага да пераважна эканамічнага кіравання не ўдалося, гэтаксама ж як і зрабіць істотны прагрэс у гэтым напрамку. Рух ёсць, але голым вокам яго не ўбачыш. Многія лічаць, што радыкальныя змены магчымыя толькі пры змене кіраўніцкага пакалення. Але аўтаматычна гэта не адбудзецца. Трэба гэтую змену рыхтаваць.

Я працую ў навуцы, шмат кантактую з моладдзю. Яна мне падабаецца. Але відавочна і тое, што ў некаторых вельмі моцныя прыстасавальніцкія настроі. Напрыклад, чытаю працы двух маладых навуковых супрацоўнікаў нашага інстытута: адзін — «цанавік»— заяўляе, што цэны на мяса падняць неабходна, інакш кажучы, падтрымлівае ўжо відавочна пазначаны афіцыйны курс, але пераканаўчых аргументаў не знаходзіць. Другі — аграрнік — прыводзіць масу сапраўдных навуковых доказаў, якія сведчаць пра тое, што трэба не павышаць цэны, а зніжаць затраты, і падказвае, як гэта можна зрабіць. Пытаюся ў «цанавіка», ці чытаў ён працу аграрніка. Выяўляецца, не. Раю прачытаць. Праз нейкі час цікаўлюся. Дык ён так і не прачытаў, але ўжо падбірае аргументы, каб адстойваць сваю пазіцыю. Аднак у навуцы неабходна не толькі ведаць тэорыю сваіх апанентаў, але і дасканала яе вывучыць. І не варта баяцца сваіх памылак, хаця прызнанне іх вымагае пэўнае мужнасці.

Доўгія гады мы ізалявалі моладзь ад грошай, не дазвалялі ім не толькі зарабляць, але і лічыць грошы ці проста імі цікавіцца: дурны тон, можам развіць меркантылізм, абывацельства і г. д. Ну і які вынік? Самы вялікі конкурс абітурыентаў — на гандлёва-эканамічным факультэце ў інстытуце народнай гаспадаркі. Значыцца, яны зарыентаваліся самі, без нас. Пры дэфіцыце тапарнай масы лепш быць бліжэй да дэфіцыту. А чаму такі натоўп жадаючых паступіць на юрфак ва універсітэт? Пэўна, і тут можна чым-небудзь пажывіцца? Я гэтага не ведаю, але моладзь ужо ведае ўсё. І называе сваіх «продкаў» звышнаіўнымі.

Вядома, я наўмысна згусціла фарбы. І станоўчага ў моладзі шмат. Але дзе гарантыя, што «станоўчымі» не будуць кіраваць «адмоўныя»? Яны ж хутчэй зарыентаваліся. А гісторыя, на жаль, гэта пацвярджае. І як пазбегнуць падобнай сітуацыі? На маю думку, трэба змяніць крытэрыі ацэнак тых, каго прызначаем кіраваць. Не так заглядваць у паслужны спіс пасад, грамат і ўзнагарод, як правяраць маральную сталасць чалавека і яго прафесіяналізм.

Але вернемся да эканомікі. Прапаную развіваць эканамічнае мысленне са школьнай парты, не толькі пісьменна і цікава чытаючы курс па грамадазнаўстве (гэта таксама важна), але і арганізуючы адпачынак на базе працы.

Прапанова не зусім зразумелая, бо ўзяты антыподы. А думка такая: арганізуем выхад на работу, а пасля яе патанцуем, пасядзім за самаварам, паслухаем музыку. А на заробленыя грошы разам з'ездзім на экскурсію ў другі горад. Суботнік таксама трэба рыхтаваць прафесійна: разлічыць аб'ём работ, іх кошт, забяспечыць інструмент, прадумаць арганізацыю працы, каб не стаялі, не чакалі, не стваралі бачнасць работы. На плакатах паказаць, куды пойдуць заробленыя грошы (калі за працу не заплацяць) ці колькі атрымае група за такую працу.

Не трэба саромецца атрымліваць грошы за сапраўдную, цяжкую працу, маладым яны патрэбныя, і лепей, калі хлопцы і дзяўчаты самі іх заробяць. Трэба знайсці арганізацыі, якія маюць патрэбу ў выкананні пэўных работ і якія здольныя іх аплаціць. Гаворка ідзе пра аднадзённы, двухдзённы ці нават пагадзінны падрад. У краіне такіх работ пры жаданні можна знайсці багата. Зарабляць грошы не сорамна. Сорамна атрымліваць незаробленыя ці ўсё жыццё залежаць ад бацькоў — «продкаў». Але праца павінна быць сапраўднаю, а не нагадваць яе толькі знешнімі атрыбутамі. І аплачвацца павінна таксама пасапраўднаму, а не сімвалічна.

Адзін мой знаёмы, які прыехаў з Чэхаславакіі, з захапленнем расказваў, што на заводзе толькі дырэктар ходзіць у касцюме з гальштукам. А ўсе астатнія — у спецадзежы, у тым ліку і галоўны інжынер. А ў нас нават начальнік участка працуе часам у цывільным касцюме. Але пры чым тут адзежа? А пры тым, што любы кіраўнік у ЧССР (а гэта ж зусім побач) можа паказаць любому рабочаму не ў чарцяжы, а на справе, як трэба выканаць тую ці іншую аперацыю. Пры абмежаванасці ў колькасці працуючых (курс у іх узяты на гэта, інакш цяжка павысіць зарплату) начальнік ці інжынер не саромеецца падмяніць любога рабочага. А ці здолее паказаць рабочаму тыя ці іншыя прыёмы наш інжынер ці кіраўнік? Пра падмену рабочага і гаворкі не можа быць. Гэта ў нас не прынята, як не прынята на Усходзе жанчыне сядзець за сталом з мужчынамі. І можа, ужо тут вытокі таго «камчванства», пра якое казаў У. І. Ленін? Усё ж пачынаецца з малога.

Каб гэта пераадолець, у ВНУ трэба вучыць не толькі тэорыі. Інакш пачнём ствараць, калі ўжо не стварылі, клас кіраўнікоўпрафесіяналаў. А адсутнасць прафесіяналізму ў кіраўніцтве больш небяспечная за ягоную адсутнасць на працоўным месцы. Абсалютна згодная з доктарам эканамічных навук Г. Паповым, які, выступаючы па тэлебачанні, сказаў, што эканамічную самастойнасць прадпрыемстваў блакіруюць адміністратары, што сядзяць у дзяржпланах і міністэрствах, бо гэтая самастойнасць пазбаўляе іх работы (выдзяляць, спускаць, «даводзіць») — бо іншага яны рабіць не ўмеюць. Вось дзеля таго, каб наша моладзь умела ўсё, давайце прышчапляць ёй патрэбныя навыкі з маленства.

Са старонак часопіса мне хацелася б папрасіць маладых: напішыце, што вы ўмееце, а галоўнае — што хочаце зрабіць зараз, калі грамадству трэба выйсці з застою. Якую працу і нагрузку вы маглі б дадаткова на сябе ўзяць і ў якой форме? Ці хацелі б вы зарабіць сапраўднай працаю свае ўласныя грошы? Упэўнена, што, паставіўшы гэтыя пытанні, мы атрымаем масу цікавых адказаў, якія характарызуюць моладзь з аднаго вельмі прывабнага боку.

## АБАРЫГЕН ТУСОЎКІ

**Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар. вокладкі.**

**ры трыбуны для гледачоў, чатырохпавярховы будынак з прэсцэнтрам, спецыяльнай ЭВМ, якая рыхтуе пратаколы, друкуе і выводзіць даныя на экраны тэлевізараў. Ёсць там і апёкавы, і рэанімацыйны цэнтры, якія, на шчасце, бяздзейнічаюць. Вялікія затраты, але ўсё гэта акупаецца.**

**— У іх гэта акупаецца. А ў нас!**

**— І ў нас бы гэта акупілася.**

**— Давай марыць. Пад Мінскам ёсць вартая жалю траса аўтагонак «Баравая». Як ты думаеш, Саша, ці збіраліся б мінчане глядзець спаборніцтвы, калі б на месцы Баравой пабудаваць нешта падобнае Хунгарорынгу!**

**Саша загараецца: тэма гэтая хвалюе яго ўжо даўно.**

**— Яшчэ як. І не толькі нашыя, але і з-за мяжы павалілі б. Мінск досыць удала размешчаны геаграфічна — на прыблізна аднолькавай адлегласці ад Прыбалтыкі, Украіны і Масквы. І да мяжы трыста кіламетраў. Другое: у такой трасе маглі б быць зацікаўленыя і наш аўтазавод, і мотавелазавод — для выпрабаванняў. Можна стварыць цэлы комплекс — праводзіць і спаборніцтвы па картынгу, матацыклаў, багі. А гэта ўжо інтарэсы ДТСААФ. Я думаю, зацікаўленыя арганізацыі маглі б скінуцца па мільёнчыку,— падсумоўвае Сянкевіч, названая сума ўспрымаецца ім натуральна. Потым дадае: — Венграм, дарэчы, траса абышлася ў 50 мільёнаў долараў. І нічога, акупаецца...**

**На «дэсерт» я пакінуў апошняе «зубадрабільнае» пытанне:**

**— Вось ты гаворыш, што хацелася б вывесці МАЗ на сусветны ўзровень, пра справу, якую ты вельмі любіш. Але, можа, усё ўпіраецца ў магчымасць ездзіць за мяжу, і не больш...**

**— Як ні дзіўна гэта гучыць, любоў да аўтамабіля — гэта першае. А пабыць за мяжою — гэта другое, дакладней, нават трэцяе.**

**— А што другое! — спытаўся я на развітанне.**

**І тут ён адпомсціў разам за ўсе мае, скажам так, подлыя пытанні — павярнуў рукі далонямі ўверх і сказаў:**

**— Вось гэта. Такія мазалі не купіш... Не крыўдуй, але тут цябе знакамітая журналісцкая назіральнасць трохі падвяла,— закончыў ён, сумленна і спакойна гледзячы мне ў вочы.**

**Але я на яго і праўда не крыўдую.**

## КАБ НЕ ПРАПАСЦІ Ў АДЗІНОЦЕ...

Чула, што ваш часопіс вырашыў адкрыць пастаянную рубрыку пра наш клуб «Карчагінец». Дзякуй! Вартая гэтая справа. Але спачатку колькі слоў пра сябе. Я Чарняўская Галіна Мікалаеўна, мне 27 гадоў, інвалід 1-й групы з дзяцінства. Практычна нерухомая. У клубе «Сябры па перапісцы» (у самым пачатку яго стварэння ён называўся менавіта так) я з сакавіка 1984 года. Уступіла ў клуб не таму, што я адзінокая, у мяне шмат сяброў, а таму, што хацелася даведацца пра яго як мага болей, прынесці хаця б невялікую карысць, дапамагчы хаця б словам тым, каму нашмат цяжэй. Наш клуб усесаюзны, завочны, у ім каля пяцісот інвалідаў, розных па характары і па нацыянальнасці, але блізкіх па лёсе. Мы не толькі вядзём перапіску, але і актыўна працуем. Старшыня клуба — Буркова Вольга Уладзіміраўна са Свярдлоўска, але, паколькі наш клуб расце, вымушаныя былі стварыць яго мясцовыя аддзяленні, у кожным з іх свой старшыня, які падтрымлівае сувязь з Бурковай. І гэта яшчэ не ўсё. Кожнае мясцовае аддзяленне разбіта на звёны. Я — звеннявая па Беларусі і падтрымліваю сувязь са старшынёю нашага мясцовага аддзялення Пранчам Юрыем Янавічам з Прыбалтыкі. Тры гады запар наш клуб выпускаў вельмі маляўнічы і цікавы рукапісны часопіс «Факел». Але, на жаль, ён перастаў існаваць, бо стала проста нерэальна яго выпускаць, паколькі многія члены клуба практычна не маглі з ім азнаёміцца. Вырашана было ў кожным мясцовым аддзяленні выпускаць свой часопіс. І вось у нашым аддзяленні з'явіліся часопісы «Балтика» (рэдактар Салдацёнак Яўген з Даўгаўпілса) — паэтычны і «Диалог» (рэдактар Емяльянава Ніна з Віцебскай вобласці), часова яе замяняе Варапаева Любоў з Магілёўскай вобласці). У гэтым часопісе мы знаёмімся з членамі клуба, даведваемся пра новае ў яго справах і г. д. За пяць гадоў, што мы існуем, праведзена і разыграна клубная латарэя. Нашыя мастакі малявалі білеты коштам у 50 капеек, а тыя карчагінцы, якія маглі нешта зрабіць сваімі рукамі, пасылалі свае работы і заказвалі білеты. Вырučаныя ад латарэі грошы пералічаны ў Фонд міру, на XXVII з'езд КПСС. Ад апошняга розыгрышу грошы пералічаны ў дзіцячы дом-інтэрнат для дзяцей-інвалідаў. Туды ж адаслалі і сувеніры. Выпушчаны фотаальбомы як па клубу, так і па нашым аддзяленні. Такім чынам, мы можам убачыць адно аднаго. Выпускаецца клубная газета «Зеркало» (рэдактар Аляксандр Ткачэнка з Данецка). У ёй Аляксандр расказвае пра ўсё клубныя справы, пра нашы планы, прапановы. Амаль кожны член клуба адказвае за канкрэтную справу. Філатаў Сяргей — член цэнтральнага праўлення з Арэнбурга — за службу знаёмстваў. Ён разам са сваім намеснікам, Цвятковай Ірынаю з Ленінграда, дапамагае сустрэцца дзяўчатам і хлопцам. Дзякуючы ім многія члены клуба знайшлі сабе блізкіх сяброў, знайшлі сямейнае шчасце — пажаніліся. Існуюць у нас розныя гурткі па інтарэсах. Напрыклад, Рабава Вольга з Растоўскай вобласці адказвае за інфармацыю пра вынайдзеныя трэнажоры, інвалідныя каляскі, розныя прыстасаванні для інваліда. Існуе ў клубе «Прамень ведаў», які дапамагае тым, у каго адукацыя меншая, чым восем класаў. Жадаючым прапануецца паспрабаваць свае сілы ў мастацкіх, літаратурных і іншых гуртках. Ёсць у нас і падшэфны — Малюга Дзіма з Харкава, для яго выпускаем рукапісны часопіс «Солнышко». Перапісваемся з Дзімавымі бацькамі... Можна пра нашыя клубныя справы гаварыць бясконца, але не гэта галоўнае. А галоўнае тое, што наш клуб існуе, працуе, дапамагае жыць. Ёсць у нас, вядома, і цяжкасці, але мы іх спрабуем пераадольваць. А на заканчэнне свайго ліста коратка хачу расказаць пра нашае Магілёўскае таварыства інвалідаў. Існуем мы паўгода. За гэты час нашая ініцыятыўная група нястомна працавала, праводзіліся сходы, рассылаліся лісты. Перад рэспубліканскай канферэнцыяй Беларускага таварыства інвалідаў сабесы выдавалі спісы інвалідаў нашай групе. У суме было разаслана каля пяцісот лістоў-запрашэнняў уступіць у нашае таварыства, але адказала ўсяго каля трыццаці чалавек. І то мы не ўпэўнены, што гэтыя таварышы будуць актыўна працаваць, прыносіць хоць нейкую карысць таварыству. Такая пазіцыя нам зразумелая. Яны чакаюць, што́ зменіцца ў грамадстве, што́ яно дасць. А дасць яно многае, патрэбныя толькі жаданне і актыўнасць, трэба згуртавацца і ўсім разам увасабляць нашыя планы і надзеі ў жыццё. Дзеля гэтага мы і стварылі таварыства інвалідаў. Мы першыя, таму будуць і памылкі, і расчараванні, і перашкоды. Але, дарагія таварышы, на памылках вучацца! Трэба ж калі-небудзь пачынаць. Інакш дзеля чаго ўсё гэта? Няўжо для «птушачкі» ў справаздачах? Нельга гэтага дапусціць. Але адна наша група проста не можа змагацца з бюракратызмам, сквапнасцю, ханжаствам. Перыяд застою мінуў. Усё цяпер будзе залежыць ад нас саміх. Трэба паверыць у сябе, у свае сілы. А працы хопіць усім. Было б жаданне. Планы ў нас вялікія. Прайшла і абласная канферэнцыя Таварыства інвалідаў. На ёй выбралі старшыню, яго намесніка, праўленне і рэвізійную камісію. Цяпер нам і карты ў рукі!

Мы маем вялікую патрэбу ў працаўладкаванні, у лячэбна-аздараўляльных комплексах, патрэбная і санаторна-курортная база. Хвалююць нас і жыллёва-бытавыя праблемы. Паверце, вельмі цяжка жыць інваліду ў неўпарадкаваным доме, дзе ні прыбіральні, ні ваннай, ні нават лазні на вуліцы, а яшчэ цяжэй, калі жыве інвалід на высокім паверсе. Па прыступках на калясцы не спусціцца, дый у звычайны ліфт каляска не пройдзе. І прыходзіцца такому інваліду ў лепшым выпадку бачыць свет з балкона. І вымушаны гэтыя людзі знаходзіцца адзін на адзін са сваёй бядою, замыкацца ў чатырох сценах, а кожны ж інвалід перш за ўсё чалавек, яму неабходны кантакт з людзьмі.

Хочацца, каб палепшылі інвалідныя каляскі, каб яны былі лёгкія і практычныя ў эксплуатацыі, каб выдаваліся два віды калясак — як пакаёвая, так і дарожная, а не адна з іх, як цяпер. І каб выдаваліся не на такі вялікі тэрмін — 7 гадоў.

Хочам, каб выпускалі ў масавай вытворчасці каляскі «Мураш» канструктара Жытомірскага з Масквы. Яны малагабарытныя, практычныя, ходзяць па лесвіцах, з іх хворы можа адносна лёгка апусціцца ў ванну. Маюць яны і іншыя важныя якасці, якія дапамаглі б у побыце інваліду самастойна даглядаць сябе. Але гэта дзяржаве, відаць, не выгадна. А чаму?

І потым, мы маем вялікую патрэбу ў паляпшэнні пратэзна-артапедычнага абутку. Каб ён стаў ёмкі і разнастайны па фасоне і колеры. А то выходзіць: чаравікі жаночыя цёмнакарычневыя, мужчынскія — чорныя. І яшчэ: патрэбныя розныя прыстасаванні, якія палепшылі б побыт кожнага інваліда. Плануем адкрыць кааператывы. Марым пра сваё прадпрыемства. А чаму б не адкрыць вучэбна-вытворчыя камбінаты, дзе маглі б набыць спецыяльнасць інваліды I i II груп? І яшчэ: людзі з вышэйшай адукацыяй педагога, юрыста, медыка вымушаны выконваць прымітыўную, малааплачваемую работу. А чаму б ім не працаваць па спецыяльнасці? Яны б атрымлівалі задавальненне ад любімай работы і прыносілі б большую карысць грамадству. Плануем адкрыць жаночыя саветы, бацькоўскія камітэты, гурткі. Карыстаючыся магчымасцю, хачу звярнуцца праз ваш часопіс да ўсіх магілёўскіх інвалідаў. Таварышы, уступайце ў нашае таварыства, у гурткі, у клубы па інтарэсах, збірайцеся групамі па месцы жыхарства, прымайце актыўны ўдзел у дзейнасці таварыства. Каб стаць ягоным членам, трэба на асобным аркушы адказаць на наступныя пытанні: прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, група інваліднасці, дыягназ захворвання, рухомасць, адукацыя, працуеце ці не, дзе, хатні адрас, тэлефон. Для гуртка паведаміць, чым хацелі б займацца: шыць, фатаграфаваць, вязаць, перакладаць з замежнай мовы (якой?), выпальваць, канструяваць, сталярнічаць, цяслярыць і г. д. Якія матэрыялы вам для гэтай працы спатрэбяцца? Мы паставім вам абсталяванне, машыны, будзем даваць сыравіну і забіраць яе. Плануем надбаўкі да пенсій — да сярэдняга заработку і г. д. Прапануйце і вы нешта сваё, дасылайце якія-небудзь свае чарцяжы, усё гэта спатрэбіцца ў нашай далейшай працы. Запомніце, усё гэта плануецца толькі па Магілёве. Адгукніцеся, калі ласка, бацькі, у каго ёсць дзеці-інваліды. Сумеснымі намаганнямі будзем старацца зрабіць лягчэйшым жыццё вам і вашаму сыну, дачцэ. Паведамляю, куды можна пісьмова ці па тэлефоне звярнуцца жадаючым уступіць у Таварыства інвалідаў або завочны клуб «Карчагінец»: **212020, г. Магілёў, вул. Бетховена, 39, тэл. 3-45-95. ЧАРНЯЎСКАЙ Галіне Мікалаеўне.**




**Фота Яўгена СКУРАТОВІЧА**

**(ПАШТОВАЯ СКРЫНКА КЛУБА ІНВАЛІДАЎ «КАРЧАГІНЕЦ»)**

# «МЕТАЛІЧНЫЯ» ПЛАСЦІНКІ



Нягледзячы на тое, што многія музычныя крытыкі вось ужо некалькі гадоў упарта сцвярджаюць, што «хэві-мэтал» перажывае крызіс, «металічныя» групы па-ранейшаму граюць «крутую» музыку, карыстаюцца поспехам у моладзі і, што ўжо зусім ні ў якія вароты не лезе, не звяртаюць ніякае ўвагі на злавесныя прадказанні некаторых прадстаўнікоў прэсы. Сведчанне таму — цэлы паток пласцінак, выпушчаных летась «цяжкімі» групамі. У нашым невялікім аглядзе мы, вядома, не можам ахапіць іх у поўным аб'ёме, а таму абмяжуемся толькі некаторымі, пераважна тымі, якія змаглі прабіцца ў першую дзесятку замежных хіт-парадаў.

Пачаць хочацца з пласцінкі Інгві Мальмстына «Адысей». І справа нават не ў тым, што «Адысей» трывала затрымаўся ў спісах газеты «Саўндз» і часопіса «Керанк», доўгі час балансіруючы паміж другім і трэцім месцамі разам з пласцінкаю «Дзікая забава» заходнегерманскіх «Скарпіёнаў». Мальмстын стаў сапраўдным адкрыццём года для савецкіх слухачоў. Праўда, знаёмства з гэтым знакамітым шведскім гітарыстам пачалося трохі раней. Узімку 1987 года ягоны дыск «Трылогія» стаў у нас самым дарагім з тых, што прадаваліся з рук. У Ленінградзе, напрыклад, ён каштаваў тады 160 рублёў. Мяркуйце самі, аб якім масавым знаёмстве магла ісці гаворка пры такіх цэнах. Цяпер іншая справа: «Трылогію» выпусціла фірма «Мелодия», і яна з'явілася ў свабодным продажы на прылаўках нашых магазінаў.

Тым часам за мяжою імя Мальмстына вядомае ўжо даўно. І гэта пры тым, што самому Мальмстыну, прызнанаму першым гітарыстам свету, усяго 25 гадоў. Ён нарадзіўся 30 чэрвеня 1963 года ў сталіцы Швецыі Стакгольме. З сямі гадоў ўжо граў на фартэпіяна, трубе, а затым на акустычнай гітары. Ён быў удзельнікам «Стылера», «Алькатраза», а з 1984 года пачынае працаваць са сваёй групаю. Першы сольны альбом, выпушчаны фірмаю «Палідор», прынёс яму званне «лепшага новага таленту». Потым былі «Маршыроўкі», «Трылогія»— і вось цяпер «Адысей».

На маю думку, гэтая пласцінка — новы этап у творчасці гітарыста. «Адысей» больш разнастайны, чым папярэднія работы, у кампазіцыях вельмі ўдала спалучаюцца хард-рокавы напор і лірычнасць, а сам Мальмстын зайграў яшчэ больш віртуозна. Нельга не заўважыць і больш выразнага выкладу. Гэта тлумачыцца тым, што на апошняй пласцінцы замест Марка Боўлза, голас у якога не надта моцны, спявае былы вакаліст «Рэйнбоў» Джо Цёрнэр. Мальмстын заключыў з ім гадавы кантракт, і пасля поспеху «Адысея» можна меркаваць, што кантракт будзе прадоўжаны.

Але калі «Адысей» быў то на другой, то на трэцяй пазіцыі, дык на вяршыні хіт-парадаў «металічных» часопісаў падымаліся добра вядомыя нам «АС/ДС» («Узарві сваё відэа»), «Айран Мэйдэн» («Сёмы сын сёмага неба»), «Джудас Прыст» («Закалаці!»), «Металіка» («Правасуддзе для ўсіх») і «Слэер» («На поўдзень ад нябёсаў»).

Па чарзе «выжывалі» адзін аднаго з першага месца «Айран Мэйдэн» і «Джудас Прыст».

Альбом «Джудас Прыст» быў сустрэты з асаблівым энтузіязмам яшчэ і таму, што ад папярэдняй работы групы яго аддзяляюць доўгія чатыры гады. «Джудас Прыст» дэбютавалі ў 1973 годзе і за сваю пятнаццацігадовую гісторыю выпусцілі трынаццаць доўгаграючых пласцінак. Група досыць кансерватыўная: адночы выбраўшы для сябе «хэві-мэтал», яна развівалася толькі ў гэтым накірунку. Прычым працягвала «грымець жалезам» нават тады, калі іншыя «цяжкія» групы, апынуўшыся ў канцы 70-х у глыбокім крызісе, распадаліся ці шукалі выратавання ў іншых музычных сферах. Новая пласцінка «прыстаў», хоць і стала адной з лепшых іхніх работ, пабудавана, аднак, паводле старых канонаў, і таму гаварыць пра яе, напэўна, няма сэнсу.

Цікавае становішча ў «Айран Мэйдэн». Адразу дзве пласцінкі гэтае групы ўваходзяць у першую дзесятку спіса газеты «Саўндз». Відавочна лепшы — новы дыск з незвычайнай назваю «Сёмы сын сёмага неба». Не такі яркі — альбом «Недзе ў часе», які музыканты выпусцілі яшчэ ў 1986 годзе, але і ён атрымаў высокую ацэнку спецыялістаў.

І калі ўжо мы загаварылі пра жыццяздольнасць работ мінулых гадоў, то нельга не сказаць пра такіх ветэранаў року, як «Флітвуд Мэк». Іхні альбом «Танга ўначы», які выйшаў паўтара года назад, па-ранейшаму «гастралюе» па хіт-парадах розных музычных выданняў, стаў за гэты час у Велікабрытаніі плацінавым пяць разоў!

У іншай старой групы «Дып Пёрпл», якую музычныя крытыкі ўжо даўно называюць няйначай як дыназаўрамі року, здаецца з'явілася другое дыханне. У 1987 годзе выйшаў іхні альбом «Дом блакітнага святла» (яго выпусціла па ліцэнзіі фірма «Мелодия»). Летась яны выпусцілі двайны канцэртны дыск «Ва ўсіх ёсць недахопы», які адразу ж быў заўважаны музычнай крытыкаю. На альбоме пераважна прадстаўлены старыя песні групы, такія, як «Дым над вадою», «Дзіўная жанчына», «Дзіця ў часе» і іншыя. Але, відаць, прыхільнікам групы не надакучыла «класіка». Дый атмасфера на кожным новым канцэрце «Дып Пёрпл» свая, асаблівая, не такая, як на папярэднім, а гэта заўсёды цікава. Тым больш нельга параўноўваць канцэртны альбом са студыйным. Можа, таму тонкія знаўцы року зноў і зноў купляюць чарговыя канцэртныя работы групы, нават маючы ў сваёй фанатэцы ўсе яе студыйныя альбомы.

Некалькі месяцаў назад, на пачатку года, выйшаў сумесны альбом Гілана і Гловэра. Паводле свайго зместу, ён не павінен быць аднесены да «металічнай» прадукцыі. Але ўжо раз гаворка зайшла пра «Дып Пёрпл», то не лішне згадаць і пра творчасць некаторых удзельнікаў групы. Альбом гэты зусім не вынік пераходу Гілана і Гловэра да сольнай працы. Усё тлумачыцца вельмі проста. Зноў аб'яднаўшыся ў 1984 годзе, Лорд, Блэкмар і Пэйс былі «вольнымі птушкамі», у той час як Гілан меў яшчэ перад сваёй фірмаю нявыкананыя абавязкі. І вось пласцінка «Выпадкова наўмысна» і была данінаю гэтай запазычанасці. У тым, што ў яе запісе прымаў удзел і Гловэр, таксама няма нічога дзіўнага. Тым, хто добра знаёмы з гісторыяй групы, напэўна, вядома, што ў «Дып Пёрпл» Гілан і Гловэр прыйшлі з групы «Шосты эпізод», дзе яны пачалі граць разам. Менавіта адтуль і бярэ пачатак іхняе шчырае сяброўства, якое яны здолелі захаваць. Што ж да альбома «Выпадкова наўмысна», дык ён даволі рознастылёвы: тут і рок-н-рол, і блюз, і лірыка,— і толькі адна-дзве кампазіцыі з другога боку альбома пераконваюць нас, што перад намі сапраўды хард-рокер Гілан. Пласцінка цікавая тым, што дапамагла нам убачыць даволі «шорсткага» Гілана з другога, нязвыклага боку. Цікава і тое, што пры запісе дыска амаль зусім не выкарыстоўваліся электронныя інструменты.












Апроч названых пласцінак у першую дзесятку спецыялізаваных хіт-парадаў уваходзілі альбом «Не ў сабе» групы «Мэрыліян», другая пласцінка амерыканскага квартэта «Сіндэрэла» «Доўгая халодная зіма» (першы іхні дыск «Начныя песні» таксама карыстаўся поспехам і стаў у ЗША плацінавым), чацвёртая па ліку работа групы «Антракс» «У стане эйфарыі», а таксама «Істэрыя», альбом групы «Дэф Лепард». Вылучылася і група «Пісталеты і ружы» з пласцінкаю «Прага разбурэнняў» (пакуль гэта самы буйны поспех гэтага гурта, які хутка набірае сілу). Высокую ацэнку атрымалі таксама «Аўтрайдэр» Джымі Пэйджа і апошняя пласцінка заходнегерманскай групы «Хэлоўін». Новы дыск «Хэлоўін» называецца «Ахоўнік сямі ключоў. Частка другая» — папярэдні альбом называўся гэтаксама ж, толькі быў часткай першай. Калі ў першай частцы цэнтральнай была кампазіцыя пад той самай назваю, якую носіць група, дык у другой своеасаблівым сэрцам дыска стала песня пад назваю, якую атрымаў альбом,— «Ахоўнік сямі ключоў». Тэксты «Хэлоўіна» напоўнены сярэдневяковымі паданнямі і казачнай рамантыкаю. А унікальны па тэмбры і манеры падачы голас Мішэля Кіскі яшчэ больш афарбоўвае іх духам таямнічасці і загадкавасці.

Аглядаючы пласцінкі «металічных» груп, не магу ўтрымацца, каб не параўнаць англійскія і амерыканскія хіт-парады. У Англіі, як вядома, «метал» не карыстаецца вялікай папулярнасцю. У агульным хіт-парадзе «металічныя» групы досыць рэдкія госці, таму і прыходзіцца гаварыць пра хіт-парады тых, хто спецыялізуецца на «жалезе». Тым часам у Амерыцы нярэдка можна назіраць сітуацыю, калі ўсе тры першыя месцы займаюць імёны хард-рокавага гучання. Нядаўна на вяршыні амерыканскага хіт-парада знаходзіўся альбом «Істэрыя» англійскай групы «Дэф Лепард». Услед за ім адпаведна размясціліся пласцінкі «Прага разбурэнняў» і «0 У 812» «цяжкіх» груп «Пісталеты і ружы» і «Ван Хэйлен». Між тым у сябе на радзіме пласцінка «Дэф Лепард» у агульным хіт-парадзе паднялася толькі да 23 месца, што пры сённяшнім становішчы «хэві-мэтала» ў Велікабрытаніі не так ужо і дрэнна.

І закончыць агляд хочацца пласцінкаю Джымі Пэйджа «Аўтрайдэр», якая мела велізарны поспех як у ЗША, так і ў Англіі. «Аўтрайдэр» — гэта першая сольная работа гітарыста, былога кіраўніка «Лэд Зэпэлін». Запісана яна была ў ягонай хатняй студыі, і восем з дзевяці песень «Аўтрайдэра» напісаны самім Пэйджам. У запісе пласцінкі ўдзельнічалі таксама вакалісты Роберт Плант, Джон Майлз, Крыс Фэрлоў, барабаншчыкі Бэрымор Фэрлоў і Джэйсан Бонэм, басісты Фелікс Крыш, Дурбан Лаверда і Тоні Франклін.

Два бакі пласцінкі істотна адрозніваюцца па характары. На першым баку гучыць тэмпавы рок, на другім — павольны блюз і лірыка.

Здаецца, Пэйдж вырашыў усур'ёз напомніць пра сябе. Нядаўна ён вярнуўся з амерыканскіх гастроляў, дзе яго «Аўтрайдэр» разышоўся больш чым мільённым тыражом. Цяпер Джымі Пэйдж пачынае свае першыя сольныя выступленні на радзіме, у Велікабрытаніі.

Ігар ГУКОЎСКІ











**Алесь ТАРАНОВІЧ**

# ЗАБІЦЬ У САБЕ ЦЭНЗАРА

Шмат цяпер пішуць пра «некаторую частку нашай моладзі». Якая ўсё дзівачыць. Старэйшых не слухае. Шукае нечага, спрабуе, мітусіцца. Захапляецца чымсьці неверагодным. Носіць штосьці ненармальнае. Увогуле нейкая не такая, як хацелася б. Добра было б адсцябаць яе як след, каб не адрознівалася ад астатніх.

А згадаліся мне гэтыя меркаванні пра моладзь на восеньскай рэспубліканскай выставе плаката. Згадаліся і словы Андрэя Шалюты, сказаныя ў другім нумары «Крыніцы»: «Каб змяніць сітуацыю, што склалася ў нашым жанры, неабходна стварыць творчае асяроддзе, якое, на жаль, пакуль што адсутнічае... плакатысты нібыта таўкуцца на ўскрайку вялікага мастацтва».

Незвычайная была гэтая выстава. Арганізатары яе зрабілі экспазіцыю палярнай, усё роўна як супаставілі плакат гадоў застою з ягонай бязмежнасцю і нейтральнасцю з плакатам дня сённяшняга, з энергіяй моцнага пачуцця і моцнае думкі, якою гэты плакат патыхае.

Плакатысты, як і акцёры, могуць быць трагікамі, лірыкамі, сатырыкамі. Цяпер, маючы мажлівасць параўнаць два перыяды ў мастацтве, бачыш: нас доўга кармілі маннай кашкаю. Мастакі-акцёры тых гадоў рабілі плакаты-дэкарацыі да спектакляў, дзе рэжысёрамі былі чыноўнікі. Мы напоўніцу перасыціліся вобразамі няісных у прыродзе акрыленых юнакоў і дзяўчат, адкрытых усім вятрам і з песнямі на вуснах, прасякнутымі аптымізмам рабочымі ў чысцюткіх камбінезонах і іншымі персанажамі, выкананымі ў стылі псеўдагераічнае ідыліі. Дарэчы, фотакарэспандэнты газет і дагэтуль падаюць да сваіх перадавіц герояў працы, якія абавязкова ўсміхаюцца. Тагачасныя плакаты палаюць морам колеру, і, нягледзячы на гэта, яны шэрыя, але мы так прызвычаіліся да дзяжурнае тэматыкі, што не зважалі на гэта. Вось ён, непазбежны вынік шматгадовае нормы, калі самабытнасць засланялася пасрэднасцю і бясколерным ура-патрыятызмам, калі, у атмасферы ўсеагульнае абыякавасці, пачуцці драмалі, а многімі мастакамі кіравалі разлік і меркантыльнасць. Праўда, крытыкавалася тады і зло. Аднак барацьба вялася з вынікам, а пра прычыны гаварыць завядзёнкі не было. Вось і глядзяць на нас легіёны п'яніц, браканьераў і бракаробаў, хуліганаў і несуноў, усё роўна як прыкрываючы сабою віноўнікаў буйнейшых.

Вялікі шэраг плакатаў на выставе моцна сапсаваны іржой застою, перапоўнены парадная траскатнёю і нястрымнай эйфарыяй у сумесі з фальшывым праўдалюбствам. І праз гэта няма жывога дыялога з гледачом.






Мы, масавая аўдыторыя, адвыклі ці ўвогуле не прывыкалі ніколі да дыялога з мастаком, у якога, як сказаў М. Жванецкі, «адрэзалі ўсё вострае, пакінулі ўсё прэснае». Я бачыў розную рэакцыю людзей на выставе, іншы раз абсалютна негатыўную. Што ж, у раздзеле плаката нашых дзён некаторыя работы былі аголеныя, як правады пад напружаннем, якое нясе праўду. Пачалося збліжэнне мастацтва з чалавекам, з кожным паасобку, а гэта значыць з усімі разам. Відавочная змена духоўных каштоўнасцей, востракрытычны погляд на мінулае і сённяшняе. Дэмакратыя вымагае праўды жыцця, праўды дня цяперашняга, праўды мастацкага і грамадзянскага выказвання. Маладыя мастакі больш, чым іхнія старэйшыя калегі, залежаць ад рэальнага парадку рэчаў. Таму вастрэй рэагуюць на яго.









Гэтая выстава — факт перабудовы, які сфарміравала атмасфера нашага жыцця. Выстава парадавала шматколернасцю, арганічнай патрэбаю эстэтычнага плюралізму, здольнасцю і праграмным імкненнем мастакоў з самымі рознымі творчымі манерамі быць разам. Прадстаўленыя стылёвыя тэндэнцыі не ўзаемавыключалі, а ўзаемадапаўнялі адна адну. Гэта расказ пра наш час, наш дом, нашую гісторыю і будучыню.

На маю думку, адным з самых значных дасягненняў гэтае выставы было тое, што на ёй з'явіўся шэраг маладых мастакоў, якія змаглі пазбавіцца ад двух сваіх цэнзараў адразу — ад знешняга і ад унутранага, якога кожны стварае сабе сам. Рэдкая і каштоўная рэч — індывідуальнасць ды яшчэ ў маладых, якія не заявілі пакуль пра сябе напоўніцу. Сярод такіх мастакоў я вылучыў бы ў першую чаргу Сяргея Яўлампіева і Міхаіла Анемпадзістава. У іхніх работах адчуваецца роднасць зошчанкаўскаму погляду на свет, толькі тут вопыт іншых часоў і іншых праблем.

Работы Яўлампіева, такія, як «СНІД», «Прастытуцыя», выкананы з віртуознай вытанчанасцю, адзначаны своеасаблівым шармам і іроніяй «з хітрынкаю». Яны ўносяць прысмак эротыкі з мераю такту і гэтым усё роўна як рассоўваюць рамкі пурытанізму, які дзесяцігоддзямі панаваў у нашым плакаце. Адраджэнне жыцця ў яго рэвалюцыйным развіцці немагчымае ў старых, закасцянелых формах. Дзеля гэтага неабходна дзёрзкае і патрабавальнае пераасэнсаванне рэчаіснасці. Нямала мастакоў, такіх, як В. Лосеў, В. Васюк, адмовіліся ад правераных дарог, узяліся за тэму высокага грамадзянскага гучання. Спрабуючы па-новаму асэнсаваць гісторыю, яны стварылі плакаты, адэкватныя па драматызме і складанасці часоў сталіншчыны і Брэжнева. Выкрываюць бескультурнасць і бездухоўнасць В. Ярасько, У. Шчарбін, крытыкуе мяшчанства і спажывецкія інтарэсы Л. Кальмаева. Прываблівацюць духам вольнага мыслення, жывымі прыкметамі мастацкае і жыццёвае навізны работы К. Хацяноўскага, Дз. Сурыновіча, Вольгі і Аляксандра Даманавых.

Учарашні дагматызм таму і перакрываў дарогу творчаму самавыяўленню, што баяўся яго. Маладыя трымаюць руку на пульсе часу. А інакш і немагчыма. Няхай трымаюцца за сваё, за любімае, за важнае, калі трэба — прымаюць бой. Запрашаюць нас да сур'ёзнага дыялога. Інакш немата, безаблічча, павярхоўны рух міма часу. Інакш няма гісторыі. Інакш можна стаць падобнымі да горкаўскіх дачнікаў, і злепяць з нас фігуркі без твараў і імёнаў, як бывала ўжо не раз.

Несумненна адно. Беларускі плакат уступіў на прынцыпова новы, эўрыстычны, а не эпігонскі віток свайго развіцця.

# ДЗЕНЬ У «КІНО»

**АСНОЎНЫ СКЛАД:**

**Віктар ЦОЙ — вакал, гітара;**
**Юрый ГУР'ЯНАЎ (ГУСТАЎ) — барабаны;**
**Юрый КАСПАРАН — гітара;**
**Ігар ЦІХАМІРАЎ — бас.**



Фота Сяргея БАРЫСАВА

Што да фактаў — вы іх, напэўна, ведаеце. Можа, і лепей за мяне. Я магу напісаць, што ў 1982 годзе малады чалавек, якога звалі Віктар Цой... І гэтак далей. Але гэта называецца — адбываць нумар. Таму для абавязковай праграмы адводжу асобныя абзацы. А зараз — настальгічныя ўспаміны пра два інтэрв'ю з каментарыямі. «Кіно» — якім я яго заспеў.

Позняя восень 1987 года. Ленінград. Снег. Жудасны холад. Я ўваходжу ў пад'езд стандартнага дома на самай ускраіне горада, званю ў дзверы. Адчыняе малады хлопец ў джынсах, чорнай майцы з белым трафарэтам — «спасем мир» — велізарнымі літарамі. Такія майкі носяць многія хлопцы з ленінградскага рок-клуба. Паўднёвы твар, кароткія валасы. Ён аглядвае мяне з галавы да ног — што за тып завітаў? Размова з гітарыстам «Кіно» Юрыем Каспаранам пачынаецца на кухні.

— Хто цябе цікавіць? «Аліса»? «Аўкцыён» і мы? Дзіўная кампанія. Якое мы маем да іх дачыненне? Мы — элітарная група.

Каспаран усміхаецца. Увесь ён — дзіўны сплаў іроніі, нейкай флегматычнай энергіі і абаяльнай коснаязыкасці. Ён не прывык даваць інтэрв'ю. Праўда, аднойчы, расказваюць, жартаўнік Курохін выдаў яго наіўным журналістам за Барыса Грабеншчыкова пасля аднаго з прыбалтыйскіх канцэртаў «Папулярнай механікі». Каспаран напусціў на сябе дужа важны выгляд і прамаўляў раз-пораз сакраментальную фразу, якую прыпісваюць Пятру Мамонаву: «Я абяцаў сваім хлопцам тысячы і тысячы».

Цяпер Цоя ў горадзе няма, жыве ён на чыёйсьці кватэры ў Алма-Аце, здымаецца ў «Іголцы», фільме Рашыда Нугманава. Даваць інтэрв'ю за яго прыходзіцца Юрыю.

Здароўкаюся з ягонымі бацькамі. Праходзім у пакой. Тахта, столік, касеты, калонкі і карціны.

— Вось гэтую Боб, Грабеншчыкоў, напісаў. А гэтую — Джаана. Праўда, добра?

Юрый ставіць касету.

— Ты чуў «Саюз кампазітараў»? Можна сказаць, даччыная група «Кіно». Вядома, галоўныя там не мы, ёсць пару хлопцаў, «новыя кампазітары». Збіраюць сінтэзатарныя гукі. Але мы ўсе ім дапамагаем, апроч Віці, і другі склад таксама. Выдатная дыскатэка, га?

Вось я ўжо ведаю, што ў «Кіно» ёсць «дублёры». Слухаю «поп» з касеты. Тэксты— пакладзеныя на клавішнае вышчё перамовы Гагарына з Каралёвым перад запускам «Усходу-1» плюс адрывістае знакамітае «да» Капіцы-малодшага, спісанае з «Відавочнага — неверагоднага», лонданскія ўрокі англійскай мовы. Чарнавыя запісы чарговага альбома «Саюза кампазітараў» нагадваюць справаздачу аб выпрабаваннях новага сінтэзатара — зрэшты, так яно, напэўна, і ёсць. Юра з дзіцячым захапленнем рэкламуе новую цацку.

— Добры сінтэзатар. Вось хор дзяўчат,— гэта на радыё і тэлебачанне не прапусцяць... Шкада, дрэнныя ў нас застаўкі.

Я слухаю ўздыхі пад бойкі шолах рытм-камп'ютэра і раблю выгляд, што мне гэта вельмі цікава. Юра перабірае пальцамі паветра, паказваючы на ўяўнай сола-гітары сваю партыю. Ён сапраўды гітарыст.

Я ўключаю дыктафон.

— Што ты можаш сказаць пра Цоя? — пытаюся. Юрава коснаязыкасць выяўляецца ўмомант.

— М-м-м, э-э, угм,— кажа Каспаран, потым прымае максімальна ўрачысты выгляд і выдае:

— Я думаю, Цой ужо цяпер вялікі чалавек. Але ў будучым, веру, ён стане яшчэ больш вялікі.

— А як табе яго тэксты?

— Яны мне заўсёды падабаліся. Але ўвогуле я ў тэкстах нічога не разумею. Ведаеш, часам Цой паказвае песню — і мне не падабаецца. Думаю, ну што тут іграць — тры акорды. А потым пайграю — кайф.

— У «Кіно» ёсць праблемы?

— Ну... (далейшае мычанне я апускаю) ... у нас няма залы. І не будзе, хіба што мы яе купім. Нам патрэбная зала, дзе можна працаваць. Мы не згодныя на любыя ўмовы любой арганізацыі. А проста так залы ніхто не дасць. Мы рэпетыруем дома. Суседзі? Прывыклі, мабыць. (Згадвою — «соседи приходят домой, им слышится стук копыт».) І потым, хіба ў зале пасці? А дома можна адпачыць, папіць гарбаты.

Далей Каспаран гаворыць пра яшчэ адну бяду «Кіно» — вялікую паўзу ў студыйнай рабоце. На той час ударны альбом «Група крыві» не быў яшчэ запісаны, хоць хіты ўжо прагрымелі на Ленінградскім гарадскім фестывалі.

— Песні старэюць, не запісваюцца, іх ужо не хочацца граць. Але група паступова прыходзіць у стан нацягнутага лука,— кажа Юрый,— вось Віця вернецца, будзе альбом, будзе цэлая серыя канцэртаў. Мы тут без Цоя сёе-тое звялі, накідалі. Хочаш паслухаць?

Я слухаю накіды да «Групы крыві» і адчуваю: альбом выйдзе адмысловы. Цой, здаецца, канчаткова саўладаў з больш чым незвычайным тэмбрам свайго голасу, лаканічная, як заўсёды, рытміка стала свежая і адметная, а скупыя каспаранаўскія сола — неабходныя і дастатковыя. Дакладныя, яркія тэксты, трохі больш гераічныя, чым раней.

— Віця — малайчына. Адчуваеш, як спяваць стаў? Вось толькі больш з'едліва трэба,— уздыхае Каспаран,— з сябе трэба іранізаваць, інакш няма кайфу.

Вось і не так. Кайф ёсць. Рух несумненны. Цой, які знайшоў свой імідж яшчэ ў пазастылявым «Транквілізатары» («Метеоролог сказал, дождь будет недолго, я закрываю свой зонт, я экспериментатор»), здаецца, робіцца трохі іншы. І гэты іншы мне падабаецца. Хвосткая поўха ў адрас «Аліcы» — «все говорят, мы вместе, но немногие знают, в каком», з'едлівае пажаданне «тем, кто ложится спать, спокойного сна, спокойная ночь» суседнічае тут з патаемным «а жизнь — только слово, есть лишь любовь и есть смерть».

— А як табе альбом «Гэта не каханне»? — пытаюся я.

— Мне падабаецца. Пасмяяцца з дзяўчат — гэта ўжо цудоўна,— кажа Каспаран.

— Якія ў вас адносіны з Грабеншчыковым?

— Ну... Маю гонар іншы раз трохі з ім выпіць... Давай лепш пра Курохіна, пра нашага генія, пра сучасніка нашага... гм... вялікага. Поўны склад «Кіно» ўдзельнічае ў канцэртах «Поп-механікі». Гэта добры знак.

Дадам: «Кіно» змяніла на гэтым пасту «Акварыум» пасля разрыву паміж Грабеншчыковым і Курохіным.

Далей — асабістае жыццё.

— Цяжка з англійскай мовай,— скардзіцца Каспаран,— спачатку нічога не разумеў. Цяпер ужо лягчэй. Выклік вось — у госці. Калі пусцяць, вядома.

Юра паказвае мне афіцыйныя паперы. Ягоная жонка — амерыканская журналістка, прадзюсер, рок-выканаўца Джаана Стынгрэй, якой мы абавязаныя двайным зборнікам ленінградскага року «Чырвоная хваля», які выйшаў у ЗША. Памятаю, «Камсамолка» ўмомант адрэагавала «выкрывальным» артыкулам. Потым раптам стала ясна, што выкрываць культурныя абмены, няхай і неафіцыйныя, не варта, і на ленінградскім ТБ быў нават зняты «Музычны рынг» з удзелам сужэнцаў Каспарана і Стынгрэй і Курохіна, анансаваны «Літаратуркаю», але чамусьці так нідзе і не паказаны.

— Цярпець не магу, калі пра мяне гавораць — муж Джааны,— выяўляе раптам Юра паўднёвы тэмперамент,— так трэба граць, каб пра яе гаварылі — Каспаранава жонка. Да мяне многія пад'язджалі,— згадвае ён,— трэба тое, трэба гэта. Думалі, я разбагацею. Потым казалі, вось, маўляў, Каспаран стаў буржуа, зазнаўся, усё сам грабе. Нічога я не нагроб. Няблага б, вядома, арганізаваць савецка-амерыканскую фірму па культурным абмене, ды не ведаю, як пройдзе. Паўгода ўжо нідзе не працую.

Недарэчная сітуацыя! Гітарыст групы, якую слухаюць сотні тысяч, калі не мільёны, павінен, выяўляецца, недзе «лічыцца». Хоць вартаўніком. Нібыта тое, што ён робіць у «Кіно», не праца, якая да таго ж часта проста выматвае.

— А ў клубе я не надта з кім гаманю. Нават не ўсіх ведаю, асабліва маладых. Трохі ўбаку мы, ці што,— кажа Каспаран на развітанне.

І, паколькі запалкі ў мяне кончыліся, дорыць мне чорны пачак адрыўных запалак з белым каліграфічным надпісам па-англійску — «Каспаран энд Стынгрэй». Рэклама!

У Штаты ён, дарэчы, усётакі з'ездзіў, выклікаўшы тым самым яшчэ адзін перапынак у працы «Кіно». Кажуць, больш за ўсё ў Амерыцы яму спадабалася лётаць на спартыўным самалёце.

А зараз — абяцаныя абавязковыя абзацы.

Група «Кіно» заснавана Віктарам Цоем, карэйцам па паходжанні, у Ленінградзе ў 1982 годзе. У першы паўакустычны альбом «Сорак пяць» уваходзілі такія сістэмныя хіты, як «Калісьці ты быў бітнікам», «Алюмініевыя агуркі».

Я сажаю алюминиевые огурцы
На брезентовом поле.

Дзіўныя пасеў даў цікавыя парасткі. Прыклад Цоя паказаў, як рокер з задаткамі мастака вырастае з кароткіх штонікаў ідэалогіі свайго акружэння. Нерамантычны альбом «Начальнік Камчаткі», у запісе якога прыняў удзел сам «вялікі Боб», далёкі ад прафесійнае дасканаласці, ва ўдалым «Тралейбусе», які ідзе на Усход», «Камчатцы», «Генерале» адчуваецца ўплыў «Акварыума» — але ўсё-такі... Абаяльнасць юнацтва, невынішчальная і загадкавая энергія шчырага «Начальніка» прымушаюць слухаць гэты немудрагелісты «пэтэвэшны» рок з не такімі ўжо, праўда, і простымі тэкстамі.

Заканчэнне на стар. 27.





# Майкл ДЖЭКСАН

**Усевалад КРАМУШЧАНКА**

Майкл Джэксан нарадзіўся 29 жніўня 1958 года, пад знакам Дзевы, у Гары, штат Індыяна. Заступнік ягонага сузор'я — Меркурый. Любімы дзень тыдня — серада, колер — цёмна-зялёны. Розум ясны. Сціплы, працалюбівы. Не церпіць перабольшванняў, эксцэнтрычнасці, любіць ва ўсім абсалютны парадак.

Любімыя артысты: выканаўцы соўл-музыкі — Джэкі Уілсан, Джэймс Браўн, Смокі Робінсан. Негрыцянская спявачка — Даяна Рос. Кінаакцёр — Чарлі Чаплін, актрыса — Джэйн Фонда. З танцораў — папулярны ў трыццатыя гады стэп-мен Фрэд Астайр, фігурыстка — Катарына Віт.

Сам Майкл пачынае выступаць у музычных knайпах з пяцігадовага ўзросту. У восем ён — саліст сямейнага квінтэта. У 1967 годзе ў Дэтройце «Джэксан 5» падпісалі кантракт з фірмаю «Тамла-Мантаўн». Праз год іхняя песенька, разышоўшыся мільённым тыражом, становіцца бестселерам. У 1971 годзе Джэксаны мелі ў сваім арсенале ўжо шэсць пласцінак.

У 1972 годзе Майкл, спрабуючы ўласныя сілы, запісвае сольную «саракапятку». Але сярод слухачоў і крытыкаў яна засталася незаўважанай. І гэты факт ажно на сем гадоў адбіў у яго ахвоту да самастойнасці. Толькі ў 1979 годзе Джэксан вырашаецца выпусціць свой першы «лонгплэй», доўгаіграючую пласцінку, якая называлася «За сцяною». У 1982 годзе выходзіць сенсацыйны «Трылер». Рэкордную колькасць музычных Оскараў — восем — атрымаў за яго Джэксан. Хоць варта адзначыць, што ў запісе альбома Джэксану дапамагалі больш вопытныя Пол Макартні і Эдзі ван Хэйлен. Колькасць прададзеных экземпляраў «Трылера» склала сорак мільёнаў. (За кожны экземпляр аўтару адлічваецца 42 % ад кошту.) Найбольш папулярным відэаклiпам усіх часоў таксама становіцца «Трылер» — прададзена больш за 10 мільёнаў штук. І пакуль што дыскаграфія заканчваецца выпушчаным у 1987 годзе альбомам «Дрэнны». Дарэчы, на запіс 10 песень гэтага альбома пайшло два гады. Што ж, як і ў кожнага выканаўцы экстра-класа, якасць гучання — гэта самае галоўнае. А тут яшчэ і прыродны педантызм сказваецца!

У амерыканскім парадзе самых папулярных выканаўцаў Майкл Джэксан займае шостую пазіцыю. Лідзіруе тут Элвіс Прэслі, затым ідуць «Бітлз», «Ролінг Стоўнз», Брус Спрынгстын і Джон Ленан. Але і тое, што Джэксану ўвогуле ўдалося трапіць у гэты спіс, само па сабе — сенсацыя. Сваёй славаю ён дасягнуў таго, што было не пад сілу нават кандыдату на пост прэзідэнта ЗША Джэсі Джэксану. Як першы чарнаскуры выканаўца, Майкл займеў велізарную армію прыхільнікаў сярод «белай» аўдыторыі. І гэтым, можна сказаць, зламаў расісцкі бар'ер. Мне могуць запярэчыць, што Джэксан не першы негрыцянскі спявак, які стаў папулярны. Былі ж калісь такія знакамітасці, як Луі Армстронг, Рэй Чарлз, Чак Бэры і многія іншыя. Так, былі. І ніхто не адмаўляе таго, што любы чарнаскуры музыкант заўсёды мае шанц падняцца ў «белым» шоу-бізнесе да ўзроўню добрааплачваемага спевака ці танцора — негра. Але суперзоркаю яму ніколі не стаць. А Джэксан дасягнуў фенаменальнай прызнанасці дзякуючы кампрамісу — цалкам змяніўшы сваю знешнасць. Восем пластычных аперацый перанёс наш герой. Мастацтва, а тым больш шоу-бізнес, патрабуе ахвяр! Спярша з-пад шчок быў выдалены слой тлусту і была зроблена перасадка скуры. Затым зменена структура і колер валасоў. «Адточаны» прыплюснуты нос. Вытанчаны пульхныя вусны. На свае зубы прыйшлося забыцца: фарфоравыя выглядаюць нашмат больш прывабна. На падбароддзі з'явілася сімпатычная ямачка. І вось у выніку ўсіх гэтых змен Майкл Джэксан, у якога некалі быў круглы, з бакенбардамі твар звычайнага негра, паводле слоў адных, стаў падобны на ... Даяну Рос, а калі верыць іншым, дык на прыгожую ляльку з музея мадам Цюсо.

Паспяхова складваюцца справы ў поп-куміра на ніве кінабізнесу. Дваццаць мільёнаў долараў атрымаў Майкл Джэксан за ролю бясстрашнага капітана касмічнага карабля ў семнаццаціхвілінным фільме «Капітан ЕО», знятым спецыяльна для Дзіснейлэнда на тэму зорных войнаў, з элементамі стэрэаскапіі і галаграфіі, вядомым амерыканскім рэжысёрам Фрэнсісам Фордам Каполаю. Няблага зарабляе спявак і на рэкламе. Самую вялікую ў свеце суму — пятнаццаць мільёнаў долараў за дзвюххвілінны ролік — выплаціў яму канцэрн «Пепсі-Кола». Але сам Джэксан «пепсі» не п'е. Не п'е ён і канкурэнтку «пепсі» — «колу», як і кавы, чаю, спіртнога. Наталяе смагу толькі мінеральнай вадою, якая дастаўляецца яму спецыяльна з Францыі. Зацяты прыхільнік усходняй кухні. Таіландскі кухар уключае ў ягоны рацыён толькі раслінную ежу. Увогуле вегетарыянцам Майкл стаў не з-за якіх-небудзь рэлігійных меркаванняў: «Мяса можа паслужыць прычынаю ракавай пухліны, а я хачу дажыць да ста пяцідзесяці гадоў!» — заявіў ён неяк журналістам. Ягоным дзівацтвам звычайна лічаць таксама і літаральна дзіцячую любоў знакамітага артыста да жывёл. У ягоным хатнім заапарку жывуць ручная лама, пяціметровы ўдаў і ядавіты павук-тарантул. А лепшым Майклавым сябрам стала шымпанзэ па мянушцы Баблз — Бурбалка.

Майкл Джэксан, даход якога ў 1987 годзе, паводле самых сціплых падлікаў, дасягнуў 200 мільёнаў долараў, з'яўляецца ўладальнікам дзвюх гіганцкіх віл. (Першая знаходзіцца ў Энцына ў раёне Лос-Анжэлеса, другая — пад Санта-Барбараю, па суседстве з маёнткам Рональда і Нэнсі Рэйганаў.) Ягоная адзінота спарадзіла мноства слыхаў. Пагаворваюць, што ў свае трыццаць Майкл усё яшчэ «цнатнік». Але тлумачыцца гэта хутчэй за ўсё не ягонай нездольнасцю быць мужчынам, а велізарнай занятасцю. Кожны дзень артыста строга распісаны, літаральна па хвілінах: уранку прабежка на гадзіну, сняданак. Затым заняткі харэаграфіяй, абед. Потым праца ў студыі, аздараўляльныя працэдуры, сон. А калі падлічыць час, які адымаюць шматлікія канцэртныя выступленні, гастролі, дык ні пра якое асабістае жыццё ўвогуле марыць не прыходзіцца. А пакуль ён ужо ўсынавіў трох сірот, акружыўшы іх непадробнай цеплынёю. Але не толькі гэтым актам міласэрнасці вычэрпваюцца добрыя намеры чарнаскурага выканаўцы. На ягоныя грошы быў пабудаваны дзіцячы шпіталь, штогод калегі-пачаткоўцы атрымліваюць па 600 тысяч долараў.

Вядома, можна было б не расказваць так падрабязна пра Джэксана-чалавека, а абмежавацца крытычным аналізам аднаго з ягоных альбомаў. Але баюся, што зрабіць гэта будзе вельмі цяжка, бо аб прызнанні амерыканскага спевака самі за сябе гавораць перапоўненыя на ягоных выступленнях стадыёны і мільёны прададзеных пласцінак. Так што, на маю думку, падыход да творчасці гэтага чалавека можа быць толькі адзін: падабаецца — глядзі і слухай на здароўе. Не — выключы магнітафон!





# ДЗЕНЬ У «КІНО»

Заканчэнне. Пачатак на стар. 24.

Где твой мундир,
генерал,
Твои ордена?
Спина как струна...

Споведзь дзёрзкага падлетка многім прыйшлася даспадобы. «Мы павінны запоўніць усе часткі спектра»,— сказаў Грабеншчыкоў. Цой угадаў са спектрам адразу ж.

Магнітафонны альбом «Ноч» са спазненнем на два гады выпусціла «Мелодия», спазніўшыся перад гэтым на пяць гадоў з выпускам сінгла з «Начальніка». Ад прымітыўнага «телефон и твой номер тянут меня, как магнит» да «ты пойдешь рубить лес, но увидишь лишь пни», ад «Анархии», сарамліва названай пародыяй на заходнія панк-групы, да амаль папсовай «Мы хочам танцаваць» — размах «Ночы». Простая музыка, найпрасцейшыя аранжыроўкі. І пастаяннае адчуванне чагосьці большага. Але Цой, які быў раскрыўся, зноў хаваецца за прывычную ўжо сцяну іроніі.

Папярэдняя «Ночы» праграма «Гэта не каханне», вядома, дужа развесяліла публіку. Усе гэтыя «уходи, я тебя не люблю», «я не могу больше ждать, я могу умереть» былі вельмі мілыя, але... Шлях Цоя ляжаў зусім у іншыя месцы, праз ударныя канцэртныя нумары «Бяз'ядзерная зона», «Далей дзейнічаць будзем мы», «Хачу перамен» наблiжаўся ён да «Групы крыві». «Вайна паміж зямлёю і небам» абавязкова павінна была адбыцца.

Паколькі самога «начальніка Камчаткі» ў Піцеры не было, я зрабіў кароткую экскурсію па «цоеўскіх мясцінах», пабываўшы ў абклеенай экстравагантнымі лозунгамі і плакатамі кацельнай — па месцы працы, так сказаць.

Высветліўшы па тэлефоне ў рашуча настроенай Віктаравай жонкі, Марыяны, што без інтэрв'ю з Цоем ніякага матэрыялу пра «Кіно» даваць нельга, я набраўся нахабнасці і пазваніў у Алма-Ату.

— А можа, давайце заўтра? — флегматычна прапанаваў Віктар у першы вечар,— я стаміўся, у нас ноч.

Што ж. «Это его право — любить ночь».

Назаўтра ўвечары мы ўсё-такі коратка пагаварылі.

— Я не магу меркаваць пра тое, што змянілася. З боку лепш відаць,— ухіліўся Цой ад адказу на пытанне пра дынаміку стылю.— Увогуле мяне не цікавіць, падабаюцца песні ці не. Мы робім што хочам. Інакш увогуле нічога не атрымаецца. Вядома, тым, хто старэйшы, не будзе цікавая «Васьмікласніца». Але ўсё-такі цяпер і тэмы тэкстаў шырэйшыя, здаецца, і група гучыць лепей.

— Як збіраўся склад?

— Я збіраў не музыкантаў. Перш за ўсё — сяброу. А як жа інакш? Навучыцца граць можна. Каспаран, напрыклад, спачатку мала што мог, а цяпер «здымае» з гітары нашмат больш за мяне.

(Па-мойму, такі спосаб арганізацыі групы ўсур'ёз магчымы толькі ў Савецкім Саюзе. У Ленінградзе.)

— Што вы робіце ў кіно?

— Мне падабаецца здымацца. Вядома, у фільме будуць песні. Але я стараюся не несці ў кіно нічога з таго, што я раблю ў «Кіно». Гэта розныя рэчы.

— Ці супадаюць «я» ў вашых песнях і вашае ўласнае «я»?

— Часам цалкам, часам часткова, іншы раз не супадаюць зусім. Кожны раз пасвойму.

— Вы можаце што-небудзь пажадаць слухачам? — чамусьці пытаюся я і адразу ж разумею, што задаў найдурнейшае пытанне.

— Не ведаю,— кажа Віктар,— не ведаю. Ну што ім жадаць? Нічога, напэўна.

Мы развіталіся. Цой перадаў прывітанне рэдактару «Роксі» Старцаву, з кватэры якога я тады тэлефанаваў, і далёкая Алма-Ата знікла ў ленінградскай ночы.

Вось, уласна, і ўсё. Такім я ўбачыў і пачуў «Кіно» ў асобе Каспарана і Цоя ў лістападзе 1987-га. Мусіць, цяпер штосьці змянілася. Але, нягледзячы на не надта вясёлую канцоўку апошняга альбома — «...как смеялось небо, а потом прикусило язык», я спадзяюся, што Віктар Цой і ягоныя сябры ўсё ж не прайграюць вайны паміж небам і зямлёю, і камерцыйная ліхаманка, якая раз'ядае цяпер большасць савецкіх груп, не закране «Кіно» — адзін з апошніх фарпостаў сумленнага року. Будзем чакаць новых канцэртаў, пласцінак. Дарэчы, калі «Група крыві» запісана не Андрэем Трапілам, гэта зусім не значыць, што «Мелодия» павінна затрымліваць выхад пласцінкі — прынамсі, альбом відавочна мацнейшы за «Ноч» і на галаву вышэйшы за дзевяноста працэнтаў айчыннае рок-прадукцыі, якую выпускае наша адзіная фірма грамзапісу. Шкада, што новыя запісы «Кіно» па-ранейшаму распаўсюджваюцца на касетах і стужках — такім архаічным у канцы 80-х гадоў спосабам.



На фота: вяселле Юрыя Каспарана і Джааны Стынгрэй. Справа — Віктар Цой.
Фота Наташы ВАСІЛЬЕВАЙ (Ленінград).

**Фелікс АКСЁНЦАЎ**

Андрэй КІШТЫМАЎ





# АЛАТАЯ КУЛЯ З МІНУЛАГА СТАГОДДЗЯ



стафета сусветных выставак пачалася яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Ужо тады яны здзіўлялі сучаснікаў размахам, універсальнасцю, колькасцю экспанатаў і наведнікаў. У другой палове XIX стагоддзя адбылося дзевяць сусветных выставак: чатыры ў Парыжы, дзве ў Лондане, па адной у Вене, Філадэльфіі і Чыкага. Вынік тэхнічнай думкі дзевятнаццатага стагоддзя падвяла сусветная выстаўка 1900 года ў Парыжы. І на ўсіх тагачасных сусветных выстаўках, акрамя выстаўкі 1855 года [1], Расія, а ў складзе асобных павільёнаў і Беларусь, прымала актыўны ўдзел.

Выстаўкі — гэта заўсёды рэклама. Менавіта таму вядучую ролю там ігралі экспанаты прамысловай вытворчасці. Ад выстаўкі да выстаўкі колькасць фабрык і заводаў Беларусі, якія пасылалі ўзоры сваёй прадукцыі, расла.

Першым буйным беларускім прадпрыемствам, прадстаўленым на сусветнай выстаўцы, быў Чачэрскі шклозавод графа Чарнышова. Гэта здарылася на лонданскай выстаўцы 1862 г. У дзвюх печах гэтага завода штогод выраблялася аконнага шкла розных сартоў на суму 38 000 рублёў.

Услед за гэтым шырока стала дэманстравацца прадукцыя двух буйнейшых прадпрыемстваў шарсцяной прамысловасці — Парэцкай і Альберцінскай суконных фабрык. Сукно Парэцкай фабрыкі (Пінскі павет) атрымала ўзнагароды сусветных выставак 1867, 1873 і 1878 гг. Альберцінская суконная фабрыка (Слонімскі павет) узнагароджана «медалём заслугі» венскай сусветнай выстаўкі.

Уладальнікам узнагарод трох сусветных выставак быў і Парэцкі цукровы завод. З пяццю паравымі машынамі і дзевяццю дыфузійнымі апаратамі завод, заснаваны ў 1861 годзе, адразу стаў магутным прадпрыемствам гэтай галіны на Беларусі. Штогод завод выробляў да 15 000 пудоў патакі і рафінаду на суму каля 100 000 рублёў. Яго ўладальнік А. Скірмунт меў дзяржаўны прывілей на ўдасканальванні ў галіне цукровай вытворчасці.

Тэхнічныя дасягненні XIX стагоддзя ў нашага сучасніка могуць выклікаць толькі спачувальную ўсмешку — не тыя маштабы, не тыя хуткасці, не тыя аб'ёмы вытворчасці. Але ўсё ж нават ва ўмовах царскай Расіі тэхнічны прагрэс прабіваў сабе дарогу. Яскравым сведчаннем тэхнічнага пераўзбраення шэрага галін гаспадаркі Беларусі з'яўляецца змена характару экспанатаў. І калі на першых сусветных выстаўках традыцыйная для Беларусі лясная прамысловасць ілюстравалася толькі ўзорамі драўніны з Гродзенскай і Мінскай губерняў ды цыноўкамі сялянскай работы, то ў канцы XIX стагоддзя Беларусь была прадстаўлена выключна прадукцыяй фабрычна-заводскай прамысловасці — запалкавых фабрык у маёнтку Уна Аршанскага павета і «Маланка» ў Мінскай губерні, Адэлінскага лесахімічнага завода ў Магілёўскай губерні, Гродзенскай аловачнай фабрыкі.

Можна ўпэўнена сказаць, што ўдзел шэрага фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў Беларусі ў сусветных выстаўках, прысуджэнне ім узнагарод сведчаць аб адпаведнасці іхняга абсталявання і тэхналогіі тагачаснаму сусветнаму ўзроўню.

Што прываблівае мільёны наведнікаў на сусветных выстаўках! Магчымасць убачыць «увесь свет» у мініяцюры, паглядзець на своеасаблівы гіганцкі зрэз сусветнай эканомікі, палітыкі, культуры! Безумоўна, так.

Адзіным экспанентам ад Расіі па класу «Гадзіннікавыя механізмы» на лонданскай выстаўцы 1862 г. быў «гадзіннікавых спраў майстар» Г. Сон з Магілёва. Яго гадзіннік з вынайдзеным ім самім механізмам быў адзначаны спецыяльным прызам. Яшчэ больш цікавыя гадзіннікавыя механізмы падрыхтаваў ён да наступнай, парыжскай, выстаўкі 1867 г. Гэта быў гадзіннік з гадавым заводам, а таксама маленькі сферычны гадзіннік у выглядзе бірулькі ў форме невялікай залатой кулі. Асаблівасцю іх механізма было размяшчэнне гадзіннікавых шасцерняў не ў дзвюх, як звычайна, а ў пяці плоскасцях адна над адною, што і дазволіла зменшыць памеры гадзіннікаў у некалькі разоў. Нягледзячы на тое, што на гэты раз Расію прадстаўлялі шэсць экспанентаў, а таксама моцную канкурэнцыю з боку майстроў з такіх прызнаных цэнтраў гадзіннікавай справы, як Швейцарыя, Англія і Францыя, магілёўскі ўмелец зноў заваяваў узнагароду.

Несумненным дасягненнем з'яўляецца залаты медаль у класе «Дакладныя інструменты», прысуджаны ў 1889 г. фізічным і механічным апаратам з Ашмянаў.

Высокую адзнаку на міжнароднай арэне атрымала чыгуначная справа Беларусі. Вынайдзены начальнікам тэлеграфа Палескай чыгункі К. К. Андэрсам «семафорапаўтаральнік» атрымаў «Гран-пры» — вышэйшую ўзнагароду парыжскай выстаўкі 1900 г. Ганаровымі дыпломамі на гэтай выстаўцы былі ўзнагароджаны начальнік участка службы дарог станцыі «Баранавічы» М. І. Зарэмба-Уладычанскі, які паказаў чарцёж і мадэль аўтаматычнай стрэлкі для чыгункі, і начальнік Галоўных майстэрняў Палескай чыгункі С. І. Міхін.

Традыцыйны быў паказ лясных багаццяў Беларусі. Наведнікі многіх сусветных выставак знаёміліся з жыццём Белавежскай пушчы. Яны маглі бачыць узоры драўняных парод, калекцыі шкоднікаў драўніны, фатаграфіі лясных насаджэнняў.

Павільён Расіі на парыжскай сусветнай выстаўцы 1900 г. упрыгожвала чучала зубра з Белавежы, а экспанаты з пушчы склалі аснову ляснога аддзела. Нягледзячы на тое, што яны былі аб'яўлены няконкурснымі, Вярхоўны савет экспертаў, уражаны «сапраўды ўзорнай якасцю выстаўленага лесу, паўнатою і сістэматычнасцю сабраных калекцый», прысудзіў ім дзве вышэйшыя ўзнагароды. Сярэбраным медалём «за адмыслова зробленае чучала зубра» быў узнагароджаны прэпаратар Акадэміі навук Г. Прыходзька.

Аднак удзел Беларусі ў сусветных выстаўках не абмяжоўваўся толькі пасылкаю экспанатаў. Прафесар Горы-Горацкага земляробскага інстытута І. А. Сцебут на лонданскай сусветнай выстаўцы ў 1862 г. быў назначаны членам міжнароднага журы па падкласу «рэчываў жывёльнага паходжання, якія выкарыстоўваюцца ў тэхніцы». Дадаткова яму даручалася вывучэнне вучэбнага і сельскагаспадарчага аддзелаў выстаўкі, складанне справаздачы па аддзелу паляводства і жывёлагадоўлі, а таксама набыццё розных прадметаў для папаўнення калекцый і кабінетаў Горы-Горацкага земляробскага інстытута. На сусветнай выстаўцы ім былі закуплены найноўшыя сельскагаспадарчыя машыны і інструменты, навуковыя прыборы, у тым ліку спектраскоп Спенсера, ганіёметр Адэльмана, трайны мікраскоп Нашэ, фотаэлектрычны мікраскоп Дзю Боска. Агульная іх вага склала амаль 360 пудоў.

Усяго ў сусветных выстаўках XIX стагоддзя па розных аддзелах і класах прынялі ўдзел каля ста экспанентаў з Беларусі. Вядома, па іх можна меркаваць толькі пра вышэйшыя дасягненні эканомікі і культуры.

XX стагоддзе падхапіла эстафету сусветных выставак.

---

[1] У гэтай выстаўцы Расія не ўдзельнічала, бо яе падрыхтоўка і правядзенне супалі з ходам Крымскай вайны.



# ПАГАВОРЫМ ПРА МАФІЮ?!




Перш чым зайсці да Міхаіла Барысавіча ў невялікі кабінет на чацвёртым паверсе вядомага ўсім мінчанам дома па вуліцы Урыцкага, 5, я дастаў з асабістага архіва аб'ёмісты канверт з надпісам «Тэхналагічны тэхнікум». З гэтым тэхнікумам у мяне была цэлая гісторыя. Некалькі гадоў назад за хабар пасадзілі дырэктара, я напісаў пра гэтую сумную падзею фельетон і, як гэта нярэдка здараецца, апынуўся ў становішчы футбольнага варатара, на якога адначасова «выйшлі» з мячом і без мяча некалькі агрэсіўных форвардаў. Асабліва старалася адна нападніца, якая звярнулася са скаргамі ў самыя высокія інстанцыі, дзе, паводле яе думкі, даецца «ўкарот» задужа няўрымслівым журналістам. Тое, што яе дырэктар браў хабар, нізвяргальніцу фельетона зусім не абражала. Яе, выявілася, абурала маё асцярожнае меркаванне, што ў гэтым плане тэхналагічны тэхнікум мала чым адрозніваецца ад іншых навучальных устаноў. «Хто даў яму права чарніць нашую сістэму вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі,— патэтычна і гнеўна ўсклікала яна,— як педагог і камуніст патрабую прыняць у адносінах да ачарніцеля меры». Улічваючы, што ўсё гэта адбывалася ў дні, якія мы цяпер далікатна называем застойнымі, такая жалезная аргументацыя, прыпраўленая сакрушальнай дэмагогіяй, таіла для мяне ў сабе небяспечныя вынікі... Пачаліся разборы, камісіі. Словам, папсавала «прынцыповая педагагіня» мне шмат крыві і ўвогуле невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б на чарговы «разбор» не прыбыў М. Уласаў. Некалькі яго важкіх слоў крута змянілі пазіцыю нападніцы і далі камісіі ўяўленне пра рэальнае, а не параднае становішча ў сістэме тагачаснага Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

Вось з гэтага малапрыемнага ўспаміну і пачалася наша гутарка.

— Памятаю, памятаю,— заўсміхаўся Міхаіл Барысавіч,— ты думаеш, мне не дасталося ад «дружнага і з'яднанага калектыву» тэхнікума! Яшчэ як! І імёнамі моцных людзей палохалі і пісалі куды толькі можна. А адна выкрытая ў процізаконных дзеяннях дама, Русакова, увогуле заявіла ў судзе, што я вёў допыт з прымяненнем электратоку. Так што твае перажыванні да маіх ніяк не дацягваюць. Публіка, з якою мне прыходзіцца працаваць, гэта не дробныя кішэннікі з тэлесерыялу «Месца сустрэчы змяніць нельга», у кепцы-«лонданцы» і з фіксаю. Мае кліенты рэспектабельныя і ведаюць не толькі закон, але і досыць блізка знаёмыя з тымі, хто не супраць таго, каб з закону рабіць дышла. Я маю на ўвазе тых, хто самі хабар не бяруць, затое праз нетаропкія гамонкі ў сауне, трэніроўкі на тэнісным корце здольныя націснуць на такую кнопку, што падпалкоўніку міліцыі Уласаву і ў сне не прысніцца. Але нічога, працуем. Тым больш што ў апошнія гады сілавы ціск выкарыстаць не так проста. Парыпяць высокія апекуны хабарнікаў зубамі дый развядуць рукамі— маўляў, што зробіш, калі час такі...

— А ўсё-такі давай вернемся да тае «тэхнікумаўскай» справы. Мне здаецца, што ты сутыкнуўся тады з праблемамі, якія пасля сталі дамінаваць і ў гучнейшых справах.

— Бадай што. Але спачатку адна заўвага. З лёгкай рукі вашага брата журналіста работнікаў службы барацьбы з крадзяжом сацыялістычнай маёмасці разглядаюць як нашчадкаў пінкертонаў, якія высочваюць злодзеяў, што разгарнулі сваю дзейнасць на ніве эканомікі. Я з гэтым катэгарычна нязгодны. Нашыя супрацоўнікі не вышукнікі, а хутчэй даследчыкі, у пэўным сэнсе разведчыкі эканамічных і сацыяльных працэсаў, якія ўзнікаюць у грамадстве. Таму для мяне, вядома, важна выкрыць злачынца, але разам з гэтым не менш важна выявіць тэндэнцыю, вызначыць, чаму дадзенае проціпраўнае дзеянне стала магчымым менавіта сёння. А потым я павінен адказаць сабе на пытанне: выпадковае выкрытае злачынства ці заканамернае, ці можа яно выліцца ў «статыстычны выбух» заўтра. Вось у чым сутнасць нашай работы. Дык вось пра тэхнікум. Дзесяць гадоў назад наўрад ці хто-небудзь мог падумаць, што для паступлення на факультэт, дзе рыхтуюць кіраўнікоў цырульняў, спатрэбіцца хабар. Непапулярная была прафесія, працаёмкая. А потым на авансцэну раптам высунуліся модныя цырульнікі, модныя закройшчыкі і стала праві-

лам, што за гонар «абслужыцца» ў іх трэба плаціць звыш прэйскуранта. Так што мама, якая давала хабар дырэктару, была ўпэўненая, што яе дачка верне затраты з лішкам. Выб'ецца ў людзі і абкладзе данінаю жадаючых зрабіць «прэстыжную» фрызуру ці пашыць «па фірме» спадніцу. Вось вам мікрадаслед нораваў на ўзроўні побыту. Зараз возьмем прыступку вышэйшую. Медыцына. Хіба сакрэт, што ў нас сёння зашмат кепскіх дактароў і задужа многае вырашаецца ў клініках па блату! А як загадаеце паводзіць сябе некаторым дактарам, калі яны цвёрда, на аснове свайго жыццёвага вопыту засвоілі, што клятва Гіпакрата — пусты гук, а шляхі да поспеху вядуць праз банальны хабар. Я маю на ўвазе тых, хто паступіў у Мінскі мединстытут па пратэкцыі былога прарэктара Касько. Скажам, Андрэй і Аляксандр Лапко. За паступленне першага бацькі заплацілі тысячу рублёў, а другога — тысячу дзвесце. Дый дзеці некаторых адказных работнікаў, якія, дарэчы, багата папоўнілі рады Гіпакратавых слуг, але паступілі ў інстытут несумленна, за грошы, па пратэкцыі, хіба могуць яны быць сапраўднымі, а не па дыпломе дактарамі! Увогуле міласэрнымі людзьмі! Вядома, усё можа быць... Але мне не хацелася б апынуцца на стале ў хірурга, які паступіў у інстытут па блату... Натуральна, што да такога «майстра» без падарунка і не сунешся, дый трэба думаць, што такі спецыяліст з маленства зразумеў розніцу паміж звычайным хворым, якім-небудзь слесарам трактарнага завода, і тым, хто зможа «аддзячыць». Таму часта замест пытанняў пра тое, што ў вас баліць, у нас у клініках спачатку пытаюцца, дзе вы працуеце. У мяне на гэтую справу, па хабары ў мединстытуце, пайшлі тры гады жыцця. Сам разумееш, зусім не ўсе кіраўнікі рэспубліканскай медыцыны ўзрадаваліся, калі мы арыштавалі Касько. Бо, з аднаго боку, па паперах выходзіла, што ў нас з аховай здароўя народа ўсё ў ажуры, а з другога — вымалёўвалася досыць непрывабная карціна карупцыі, з усімі яе вынікамі. А многія ж начальнікі атрымалі за «ўзорнасць» і ордэны, і высокія званні. Многае прыйшлося пераацэньваць... У дадзеным выпадку мяне радуе, што мы не толькі выкрылі злачынцаў, але і раскрылі грамадскасці вочы на сапраўдны стан медыцыны і якасць падрыхтоўкі дактароў. Думаю, што ў многім сітуацыя аздаравілася. Так ці інакш, але той, хто хоча стаць педыятрам, сёння старанна вучыцца ў школе, а не паглядвае з надзеяй на мамін кашалёк. Дый па высокім званку цяпер ніхто не разгоніцца залічыць у студэнты радавітага абітурыента.

— Будзем лічыць, што з медыцынаю, дзякуючы міліцыі, усё больш-менш ясна. А ў іншых накірунках патрэбная ваша дапамога!

— Ты намякаеш на «Крымінальную справу № 246388»!

— Ой як мудрагеліста. Скажу прасцей. Хацелася б даведацца пра тое, ці можна ў нас за хабар стаць настаўнікам!

— На жаль, можна. І гэта можа пацвердзіць гісторыя С. А. Трафімавай. Яна курыравала педагагічныя вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі. Як вынікае з матэрыялаў расследвання, С. Трафімава злоўжывала службовым становішчам, і гэтым карысталася група злачынцаў-хабарнікаў...

— Неверагодна!

— Што ж, скажу табе сумленна, што да нядаўняга часу наўрад ці я асмеліўся б пачаць якія-небудзь дзеянні ў дачыненні да такой высокапастаўленай асобы. У лепшым выпадку, праінфармавалі б каго трэба — і ўсё... Але цяпер вось не толькі «асмеліўся», але і разам са следствам Пракуратуры рэспублікі давялі справу да суда. Прадбачу натуральнае пытанне: ці не было ціску з боку, як мы кажам, дырэктыўных органаў! Не. Наадварот, партыйныя работнікі зрабілі ўсё, каб перамог закон.

— Але чым жа, апроч такіх незвычайных дзейных асоб, цікавая гэтая справа!

— Я сказаў бы інакш: чаму вучыць гэтая справа! Перш за ўсё яна гаворыць пра адсутнасць грамадзянскасці, сапраўднага клопату аб працвітанні сваёй «галіны» з боку кіраўнікоў некаторых нашых падінстытутаў. Не злічыць, колькі разоў рэктары публічна білі сябе ў грудзі і кляліся, што іх галоўная задача — падрыхтоўка сапраўднага народнага настаўніка. Але чаго вартыя гэтыя словы, калі матэрыялы справы паказваюць, што варта было Трафімавай зняць трубку службовага тэлефона і патэлефанаваць альбо ў Брэст, альбо ў Віцебск, альбо рэктару Мінскага педінстытута, як пытанне аб прыёме патрэбнага чалавека адразу ж вырашалася! У выніку Трафімава і яе кампаньёны атрымлівалі грошы, а на будучай ніве народнай асветы ўтрамбоўвалася чарговае пустазелле. Ці шмат карысці маглі прынесці такія вось настаўнікі! Нават думаць пра гэта не хочацца. Дарэчы, некаторыя «блатныя» студэнты так і не змаглі закончыць інстытут, надта ўжо ўбогія былі ў іх веды. А тыя, хто хацеў паступіць, хто спіць і бачыць сябе настаўнікам, тыя не прайшлі па конкурсе. Рэспубліка недалічылася сапраўдных, па душэўнай схільнасці, настаўнікаў, зламаны лёс маладых людзей. Няма чаго і сказаць — адмысловы конкурс, арганізаваны паводле прынцыпу «хто болей»...

— Ну што ж, будзем лічыць, што і для народнай асветы ўпраўленне БКСМ таксама зрабіла сёе-тое пазітыўнае. А чым вы займаецеся цяпер! Якой галіне дапамагаеце!

— Калі табе хочацца працягваць нашую гутарку ў такім трохі іранічным ключы, то адкрыю невялікі сакрэт: актыўна дапамагаю нашай радыёэлектроннай прамысловасці. Разам са следчымі Пракуратуры рэспублікі вывучаем пытанне аб хабарніцтве ў Мінскім радыётэхнічным інстытуце. Пакуль скажу толькі адно: арыштаваны прарэктар А. Жук, і вымалёўваецца досыць непрывабная і, на жаль, тыповая карціна. Зноў пакуль адны не праходзяць па конкурсе, для другіх залатым ключыкам робяцца грошы. Думаю, што інжынер-электроншчык, які паступіў у РТІ па блату, не менш амаральны і небяспечны для грамадства, чым доктар ці настаўнік.

— Аднак, калі памяць мяне не падводзіць, гэта не першае тваё «ўмяшанне» ў РТІ!

— Ды гэта нейкае зачараванае месца. Лічы: у 1969 годзе тут асудзілі групу злачынцаў — Пазнякова, Ермалаеву і Ганчарову. За ўзяцце хабару ў буйных памерах. Праз пяць гадоў на лаве падсудных апынуўся дацэнт кафедры філасофіі РТІ Лапцёнак. Таксама хабар. А ўжо праз два гады мы расследуем справу старшага выкладчыка Дамінікана і яго-най кампаніі. Зноў за арганізацыю злачыннай групы, якая атрымлівала хабар пры правядзенні ўступных экзаменаў. І што, як кажуць, характэрна. Гучныя ж былі справы, у газетах пісалі, потым прымаліся сур'ёзныя партыйныя і адміністратыўныя рашэнні. Здаецца, трэба ж засвоіць нейкія ўрокі. Але вось прайшло некалькі гадоў і зноў выкрыт хабарнік — і зноў сярод кіраўніцтва інстытута. Хіба гэтая сумная заканамернасць не пацвярджае прыказку: «Рыба гніе з галавы»! Хіба неправамерна ў дні перабудовы пасапраўднаму, а не на словах узмацніць патрабавальнасць да маральнага аблічча тых, каму даверана кіраваць! Інакш забалбочам мы перабудову. Бо ў такіх, як Жук, знешне ўсё ў парадку: і анкета, і іншыя наменклатурныя паперы, і выступіць на сходзе такія могуць, так сказаўшы пра перабудову, што заплачаш ад замілавання. А на справе — адна гніль. Думаю, што толькі міліцэйскімі мерамі многага мы ўсё ж не дасягнем. Трэба ўсім нам нарэшце ўцяміць, што зусім не добра падвешаны язык, не здольнасць быць флюгерам у любой сітуацыі і не добрая анкета забяспечваюць поспех. Сёння як ніколі неабходныя Грамадзяне, людзі з высокімі маральнымі якасцямі. На ўсіх пасадах і асабліва ў ВНУ, там, дзе

куюцца кадры для будучага.

— Усё гэта слушна, але як практычна вызначыць, дзе сумленны чалавек, а дзе Жук!

— Ты ведаеш, вопыт маёй працы ўсё больш пераконвае, што без сапраўднай, а не дазіраванай галоснасці мы нічога ў выніку не даб'емся. Пакуль нехта прыгожа разважае пра дэмакратызацыю, а сам ходзіць лячыцца ў спецпаліклініку, адпачывае ў спецсанаторыі і карыстаецца прывілеямі, далёкімі ад сацыяльнай справядлівасці, перабудова будзе буксаваць, як паравоз, у якога ўся пара пайшла на свісток. Тым больш што самахоць згадзіцца са стратаю гэтых прывілеяў наўрад ці хто з «перабудоўшчыкаў» захоча. Наадварот. Аб'яднаецца з такімі ж і зойме кругавую абарону.

— Так што паўстае такая рэальнасць, як з'яўленне мафіі!

— Дваццаць чатыры гады назад, калі я, выпускнік політэхнічнага інстытута, атрымаў лейтэнанцкія пагоны, мы ў Мінску ўзбуджалі не больш пяці крымінальных спраў аб хабарніцтве. Сёння каля ста. І справа не толькі ў беспрэцэдэнтным росце гэтага небяспечнага злачынства. Праблема і ў тым, што сёння хабарнікі — гэта зазвычай людзі, якія знаходзяцца на ключавых участках размеркавання. Нам вядомыя факты, калі за хабар лечаць, набываюць дэфіцытныя рэчы, уладкоўваюцца на вучобу і на працу. Але крымінальныя справы, якія мы ўзбуджаем,— гэта толькі бачная частка айсберга. «Пад вадою» знаходзяцца буйныя «рыбы». Часта яны застаюцца па-за нашай сеткаю, няспынна багацеюць і, што самае страшнае, расстаўляюць усюды сваіх людзей. Адсутнасць дэмакратызацыі ў кадравай дзейнасці гэта дазваляе. Са з'яўленнем нуварышаў-кааператараў растуць памеры хабару, пашыраецца кола карумпіраваных элементаў. Рэспубліка адчувае дэфіцыт цукру — кааператыўшчыкі набываюць яго мяшкамі. Дзе вы знойдзеце каву? У іх ёсць. За кошт чаго? Плацяць дырэктарам магазінаў, загадчыкам баз, мяснікам. У арбіту хцівасці ўцягваецца ўсё большая колькасць людзей. Часта маладых, якія не займелі яшчэ імунітэту ад улады грошай, але ўжо адчулі смак да «прыгожага жыцця». На гэтай аснове і рэкруціруецца мафія. Ля падножжа яе пірамiды народ дробны, хаця і з воўчым апетытам, затое наверсе — людзі ўплывовыя. У мафіі ёсць «прадстаўнікі» ў розных арганізацыях, здараецца, яны бяруць на «кручок» і работнікаў праваахоўчых органаў з няўстойлівай душою. Згадваю факты па Бабруйску, ёсць яны і па Мінску... Я не хачу, каб ты ці хто-небудзь іншы ўспрыняў гэтыя словы як нагнятанне панікі. Але быць падобнымі да страуса нам таксама нельга. Вядома, мясцоваму, сваёй гадоўлі мафіёзі далёка да хлопкавых верхаводаў. Але яны ёсць, гэта факт, як і тое, што яны актыўна ўплываюць на нашае жыццё. Калі супраць арганізаванай злачыннасці не будуць прынятыя рашучыя меры, то мафія ў недалёкай будучыні стане ўплываць на палітыку.

— Як у Сіцыліі!

— У нас іншая спецыфіка. Дастаткова, калі выпускнік РТІ, які паступаў туды за хабар, зможа прабрацца ў старшыні прафкома цэха. Запэўніваю цябе, што ён будзе праводзіць у гэтым цэху сацыяльную палітыку адпаведна свайму разуменню. Увогуле такія пытанні чамусьці не прынята абмяркоўваць, але палітыка робіцца не на нябёсах, яе робяць рэальныя людзі. А рэальнасць надта ўжо неадназначная. Пуцёўкі «патрэбным» людзям — гэта палітыка, кватэра мінуючы чаргу — таксама. І гэта для людзей не менш важна, чым некаторыя буйныя акцыі Міністэрства замежных спраў...

— Так, яшчэ зусім нядаўна паспрабаваў бы хто-небудзь з нас вымавіць уголас экзатычнае слова «мафія», дык і следу таго смельчака, як кажуць, не знайшлося б. Вось пра «іхнюю» мафію можна гаварыць колькі хочаш, а ў нас — гэта ачарненне. З такім «класавым падыходам» да ацэнкі з'яў жыцця мы дакаціліся да ўласнай, настолькі добра арганізаванай злачыннасці, што «хросныя бацькі» павінны здымаць капялюш перад нашымі днепрапятроўскімі або маскоўскімі мафіёзі. Выяўляецца, і ў нас ёсць прафесіяналы рэкету, якія не толькі крадуць за велізарны выкуп дзяцей, але і абкладваюць данінаю кааператыўшчыкаў, музычныя ансамблі ў рэстаранах, таксістаў-аматараў. Не так даўно ў нашым ціхім Мінску дзве гангстэрскія групоўкі-суперніцы абстралялі адна адну з пісталетаў. Чым не Чыкага! Не хачу ўдавацца ў дэталі арганізацыі злачынцаў. Гэта добра зрабіў у «Литературной газете» адзін з нямногіх спецыялістаў па крымінальнай мафіі Л. Дураў. Мяне турбуе іншае. Як ні могуць напалохаць «рэкеціры» тых, хто толькі цяпер даведаўся пра іх існаванне ў нас, усё роўна гэта задужа дробныя тыпы ў параўнанні з іншай, нашмат больш небяспечнай мафіяй. Калі оперы з крымінальнага вышуку сяк-так выяўляюць скааператаваных крымінальнікаў, дык хто і што можа зрабіць супраць пратэкцыянізму! Прайдзіце па нашых акадэмічных інстытутах, пацікаўцеся ў кадравікоў. Упэўнены, вы знойдзеце багата знаёмых прозвішчаў. Мала ў якога таты — доктара навук сын ці дачка не ходзяць у кандыдатах. Так што прырода не заўсёды адпачывае на дзецях геніяў. «Куды ні глянь, усюды клан»,— сёння гэты афарызм проста ўражвае сваёй актуальнасцю. Кланы сапраўды ўсюды. Пераязджае работнік з райцэнтра ў вобласць — праз два-тры гады два ягоныя землякі ў ягоным апараце, пераводзіцца ён у Мінск — знаёмыя твары зноў побач. Гэта называецца на бюракратычным слэнзе «абоймай», на самай справе гэта ёсць мафія. «Свае хлопцы», будзьце ўпэўнены, шырока разгарнуліся.

— Ты сказаў пра неабходнасць строгіх мер. Што гэта значыць!

— Улічваючы патэнцыяльную небяспеку арганізаванай злачыннасці, тэндэнцыю да яе росту, бачу неабходнасць у стварэнні асобых органаў, куды б увайшлі і міліцэйскія прафесіяналы самай высокай кваліфікацыі. Разам з сацыёлагамі, спецыялістамі па грамадскім «клімаце», эканамістамі. Сёння ў нас процьма кандыдатаў філасофскіх навук, якія бэсцяць рок і мадэрнізм. Але пра сур'ёзныя рэчы яны не думаюць! Не могуць! Не хочуць! Не ведаю.

Дарэчы, мае патрэбу ў рэформе і нашая служба БКСМ. Сёння крытэрыі работы такія, што аднолькава вылучаюць і супрацоўніка, які выкрыў буфетчыцу, што не даліла грамадзянам піва, і оперработніка, які выкрыў замаскіраванае злачынства «на мільён». У абодвух выпадках — «птушачка». Але каб выкрыць падпольнага мільянера, трэба мець не толькі майстэрства, але і мужнасць. У 99 выпадках падпольны дзялок акружыў сябе высокапастаўленымі апекунамі ды камандаю трэніраваных целаахоўнікаў, гатовых зрабіць дзеля гаспадара ўсё. Вось і не імкнуцца рызыкаваць некаторыя калегі, плывуць па ціхай хвалі. Робяць рэйды па сталовых, затрымліваюць перакупшчыкаў яблыкаў. Таксама важна, але часам за кустоўем лесу не бачым.

— А ты рызыкуеш!

Уласаў смяецца:

— Вось і дайшлі нарэшце да «малінкі». Зараз мне, паводле законаў жанру, трэба ўспамінаць аб перастрэлках, прыёмах самба. На шчасце, нічога такога няма. Я больш канторскі работнік, чым вышукнік. Гэта ў крымінальным вышуку навалам рамантыкі. А мая стыхія — дакументы. Хаця, шчыра кажучы, сумаваць таксама няма калі.

І з гэтым я згодны. Не толькі таму, што М. Б. Уласаў узнагароджаны вельмі паважаным і рэдкім у міліцыі медалём «За баявыя заслугі». Не так даўно ў рэдакцыю прыйшоў ананімны ліст з аднаго інстытута АН БССР. Там здарыліся нейкія непрыемнасці, павінны былі з'явіцца работнікі міліцыі, і тыя, хто спалохаўся, нанеслі прэвентыўны ўдар: разаслалі па ўсіх рэдакцыях лісты, якія «кампраметуюць» Уласава. Чаго толькі ні было ў тых лістах! Напэўна, іх аўтары ведалі, што калі за справу возьмецца гэты ціхі, сур'ёзны чалавек з добрымі манерамі, у акулярах з тонкай прафесарскай аправаю, ім будзе нялёгка. Вось і «стрэлілі».

Не ведаю, чым закончылася тая справа ў інстытуце. Ва ўсякім разе, Уласаў ёю не займаўся. Таму я тады і не расказаў яму пра той ліст. Цяпер вось расказваю. Усё-такі не такая ўжо ў яго канторская работа. Небяспечная работа. Хоць і без перастрэлак і рукапашнага бою.



# «КАМСАМОЛЬСКАЯ ЎДАРНАЯ»

## З АДВАРОТНАГА БОКУ

### РЭПАРТАЖ ЗДАЛЁКУ

Алена АНКУНДЗІНАВА

Я зноў ляцела на Далёкі Усход. Гэтым разам з Унукава і на «ІЛ-86». Памяняўся толькі аэрапорт, ды самалёт быў больш камфартабельны — двухпалубны, 350-месны, паветраная махіна. Нязменным заставалася тое братэрства людзей, якое і ў маўчанні адчуваеш на далёкаўсходніх рэйсах.

Зразумела гэта параўнальна нядаўна. Тады ж, два гады назад, у маі 86-га, калі я ўпершыню перасекла краіну з захаду на ўсход — гэтага не адчувала і не разумела. Можа, таму, што ляцела не дамоў, як цяпер, а ў складзе беларускага атрада будаваць Новы горад на Амуры. Мы былі ў аднолькавай будатрадаўскай форме, шчаслівыя, залішне ўзбуджаныя, нават трохі ігралі на публіку: у рознамоўным і стракатым Дамадзедаве наш атрад прыкметна вылучаўся. З-за гэтага ўзбуджэння і імкнення як мага хутчэй пазнаёміцца, зведаць адно аднаго, з-за пералёту з дня ў ноч і з начы ў дзень (з Масквы вылецелі ў 15.20, у Хабараўску былі ў 23.00, але гэта па маскоўскім часе, а па мясцовым — у 6 раніцы) я не адразу звярнула тады ўвагу на тую асаблівую атмасферу ў самалёце. Два з паловаю гады мне прыходзілася шмат лятаць і ездзіць і па Хабараўскім краі, і па Прымор'і, і з кожнай такой паездкаю я пераконвалася, што Далёкі Усход і яго карэнныя жыхары рэзка адрозніваюцца ад жыхароў нашых заходніх раёнаў. Тут сапраўды іншы свет, іншы рытм, іншае жыццё. І зразумець гэта можна не наскокам, а пажыўшы ў гэтых мясцінах, зблізіўшыся з гэтымі людзьмі.

Маё жыццё крута перамянілася літаральна за адзін дзень: як толькі я пераступіла парог абкома камсамола з мэтаю...

У кожнага чалавека, напэўна, бывае такі стан, калі ён разумее, што бяжыць на адным месцы, а дыстанцыя доўгая і, каб прыбегчы да фінішу з прыстойным вынікам, нельга працаваць ухаластую. Вось так было і ў мяне. Школа, універсітэт, захапленне тэатрам, літаратураю — першыя поспехі і памылкі, настаўнічанне — тры гады ў якасці маладога спецыяліста. А потым застапарылася. Амаль год не пісалася, не думалася, не дыхалася. Заядала мітусня. І раптам, як прасвятленне — думка: а што калі пачаць нанова!

Камсамольская ўдарная мне здавалася тады самым правільным рашэннем, а там ужо засталося ўгаварыць хлопцаў у абкоме — з вышэйшай адукацыяй, выяўляецца, не палажана ісці ў тынкоўшчыкі. Прайшла медкамісію, сабрала рэчы, выслухала адгаворы родных, недаўменныя рэплікі сяброў, надзела форму з камсамольскай пуцёўкаю ў нагруднай кішэні і ў 28 гадоў нырнула ў новае жыццё, як у вір галавою, без аглядкі і сумненняў. Будаўніцтва Новага горада на Амуры я выбрала па дзвюх прычынах (выбар будоўляў быў досыць вялікі і разнастайны). Па-першае, далей па карце ніякіх будоўляў не было. Па-другое, там трэба было пачынаць з нуля, з расчысткі будаўнічай пляцоўкі.

Я хацела б расказаць вам пра гэты дзіўны край, ягоных людзей, аб праблемах, якія хвалююць моладзь, пра тыя прыгоды, якія перажыла ў час сваіх вандраванняў. Мне хочацца зрабіць гэта яшчэ і таму, што за два з лішкам гады па рэакцыі сваіх сяброў зразумела, што мы лепш ведаем гісторыю, геаграфію, літаратуру і мастацтва Францыі, Італіі, чым сваёй краіны.

Невыпадкова адзін мой універсітэцкі прыяцель, вялікі эрудыт і разумнік, калі я прыйшла да яго развітацца, пляснуў далонямі і трагічна прамовіў:

— Алена, ты сябе пагубіш, там жа цынга...

Дык вось!..

### МАЙ 1986 ГОДА, КАМСАМОЛЬСК-НА-АМУРЫ

Па ўсім горадзе прадаюць ананасы. Іх рабрыстыя аранжавыя бакі тырчаць з велізарных скрыняў, размешчаных на тратуарах. Не абышлося і без камічных сітуацый. Дзве дзяўчыны з атрада, якія дагэтуль бачылі ананасы толькі на карцінках, не паслухаліся мяне — не есці адразу шмат — і праз паўгадзіны рыдалі, не могучы паварушыць ні языком, ні вуснамі.

Першыя ўражанні ад горада — па архітэктурным абліччы вельмі падоб-

ны на нашы абласныя гарады. Каб не сопкі з усіх бакоў, можна было б падумаць, што мы на Беларусі.

Наш атрад раздзяліўся. Мужчынская палова паляцела з Масквы на некалькі дзён раней і трапіла адразу на будоўлю — гэта кіламетраў за 150 ад Камсамольска ўніз па Амуры. Усіх дзяўчат — 13 чалавек — пакінулі на тры месяцы ў горадзе атрымліваць будаўнічую спецыяльнасць, тым больш што ніхто з нас раней на будоўлі не працаваў: былі і вадзіцель тралейбуса, і пекар, і культработнік, і бухгалтар, і нават філолаг у маёй асобе, а вось будаўнікоў, на жаль, не было.

На акліматызацыю, прапіску і ўладкаванне на працу нам адвялі некалькі дзён. Неяк увечары мы вырашылі павячэраць у якім-небудзь рэстаране. Выбар спынілі на «Брыганціне» — рэстаран знаходзіцца на рачным вакзале, за вокнамі цудоўны амурскі краявід, прытым рэстаран безалкагольны. Адправіліся мы ўсемярых, разам з Сашам Слабадчуком — прадстаўніком Мінскага абкома, які суправаджаў нас у паездцы на Усход.

Не буду спыняцца на асаблівасцях сервіроўкі і абслугі, каб не здацца каму-небудзь снобам, але той, хто будзе ці быў на Далёкім Усходзе, зразумее, пра што я гавару. Мы прызвычаіліся наракаць на свой сервіс, але не ведаем, які ж «ненавязлівы» можа ён быць у аддаленых раёнах нашае краіны...

Не буду казаць і пра тое, што граў ансамбль, бо ён, па-мойму, увогуле не граў, а толькі настройваў інструменты і шаптаў у мікрафон: «Раз, раз...» На гэта, зрэшты, ніхто не зважаў. Публіка весялілася відавочна не ад журавіннага морсу, які разносілі ў велізарных гранёных графінах. Хістаючыся, праходжваліся надта экзатычна адзетыя мужчыны з рукамі ў наколках, стаяў грукат і гул галасоў. Словам, усё гэта нагадвала чымсьці тыя салуны, якія мы прывыклі бачыць у фільмах паводле твораў Джэка Лондана. Здавалася, зараз хто-небудзь дастане з кішэні кольт і пальне ў столь. Зрэшты, магчыма, мне ўсё





гэта толькі здавалася. Побач быў жа пільны маладзенькі сяржант — спакойна праходжваўся ля ўвахода. Дужа быў пільны, бо пасля заканчэння вечара падышоў да нашага Сашы, галантна казырнуў і папрасіў прайсці разам з ім на пару хвілін. Чакалі мы Сашу ў апусцелым рэстаране досыць доўга. Калі ж ён вярнуўся зусім разгублены, мы даведаліся, што ў сяржанта выклікаў падазрэнне гальштук-матылёк, які надаваў яму тут нязвыклы каларыт. Інтэлігентны, элегантны, цвярозы малады чалавек, што бавіў час у кампаніі шасці абаяльных дзяўчат, быў прыняты за заезджага «гастралёра». Вось пільны сяржант і вырашыў, каб чаго не выйшла, праверыць дакументы.

Тады мне было і смешна і страшна: што ж гэта за норавы ў наш час! Потым, калі я бліжэй зведала гэты горад, папрацаваўшы на тамтэйшым тэлебачанні, зразумела многае з паводзін таго сяржанта.

### МАЛЕНЬКАЯ ДАВЕДКА

Паводле даных аддзела ўнутраных спраў Цэнтральнага раёна г. Камсамольска-на-Амуры на 1987 год, у раёне пражывае дзевяць тысяч раней судзімых, інакш кажучы — кожны дзесяты жыхар. Адсюль і каларыт у горадзе.

На жаль, такая выдатная ідэя, як будаўніцтва ў 1932 годзе Камсамольска, у многім была апошленая. «Як!» — можаце спытацца вы. Камсамольск жа — самы буйны прамысловы цэнтр Далёкага Усходу, горад з гіганцкімі прадпрыемствамі, які патрабуе дзесяткаў тысяч рабочых рук!

Але каб працаваць на заводах, іх трэба спачатку пабудаваць. Таму тут шырока распаўсюджаны аргнабор, з аднаго боку, і выкарыстанне спецкантынгенту, з другога. Хабараўскі край, які мае велізарную тэрыторыю, налічвае ўсяго каля двух мільёнаў насельніцтва. Сваімі сіламі нічога не пабудуеш і не асвоіш. Вось і адбываецца пераразмеркаванне працоўных рэсурсаў. Толькі якіх!

Колькі было выпадкаў, калі па той самай камсамольскай пуцёўцы прыязджалі і прыязджаюць людзі, якіх шукае міліцыя, якія не ладзяць з законам. Не буду далёка хадзіць па прыклады. У 1988 годзе ў складзе атрада з Казахстана па камсамольскіх пуцёўках прыехала шмат саракагадовых мужчын, раней судзімых. А ў маім атрадзе былі хлопцы з Віцебскай вобласці, адпраўленыя на камсамольскую будоўлю, як высветлілася, міліцыяй: абрыдла з імі ваяваць — упрасілі абком адправіць як мага далей, каб не псаваць паказчыкі. Цяпер большасць з іх раз'ехаліся, а лёс аднаго — Алега Міраша — склаўся трагічна. Праз чатыры месяцы пасля прыезду на Усход ён заснуў п'яны на вясковых могілках за чатырыста метраў ад нашае будоўлі і памёр ад пераахаладжвання.

А колькі тут людзей адбывае так званую «хімію»! Мы ж не можам сабе дазволіць, каб у цэнтральнай частцы нашае краіны працавалі такія элементы. Твар у краіны павінен быць чысты. Да таго ж на захадзе (так кажуць далёкаўсходнікі) рабочых рук лішак. Я зусім не хачу сказаць, што людзі, якія адбываюць тут пакаранне, усе закончаныя злачынцы. Не, цяпер, на шчасце, мы даведваемся і з прэсы, і з тэлевізійных перадач, колькі сумленных людзей трапілі за краты па сфабрыкаваных абвінавачваннях ці з-за непрафесійнасці работнікаў юстыцыі. Ёсць шмат маладых хлопцаў, якія трапілі на «хімію» па дурасці, з-за празмернай хлапечай, скажам так, гарэзлівасці. Але такіх менш. Так што Усход набывае танную рабочую сілу і... расплачваецца бойкамі, панакоўшчынай, крадзяжамі і рабаўніцтвам. Злачыннасць у горадзе досыць высокая. Калі ўлічыць, што большасць тых, хто адбыў пакаранне, застаюцца тут, заводзяць сем'і, раджаюць дзяцей і адразу ж на іх забываюцца, а тыя ў сваю чаргу ствараюць падлеткавую злачыннасць (14 працэнтаў падлеткаў ад 14 да 17 гадоў здзяйсняюць злачынствы, у 17 працэнтаў — рэцыдыў).

Так што сустрэць уранку на гарадскім транспарце босага чалавека, па пояс голага, у татуіроўцы, з бутэлькаю віна ў майцы,— не дзіва, як не дзіва і мамаевы пабоішчы ля крам, дзе прадаецца «барматуха» і гарэлка. Міліцэйскі «ўазік» ля такіх крам становішча не мяняе.

І вонкавы парадак у нашых буйных гарадах і сталіцах саюзных рэспублік у многім абумоўлены існаваннем такіх гарадоў, як Камсамольск. Але я адхілілася...

Мы атрымалі нарэшце спяцоўкі, прайшлі тэхніку бяспекі, і нас, абсалютна непадрыхтаваных, адправілі ў самае пекла — на будаўніцтва Новага горада. Тут я ўпершыню ўбачыла, што схавана пад шыльдаю «Усесаюзная ўдарная камсамольская будоўля». Побач тут працавалі «хімікі» і камсамольцы, і толькі нязначная частка кваліфікаваных спецыялістаў — танная рабочая сіла. З'ява дужа распаўсюджаная.

...На Перадзельным будаўніцтва набліжалася да свайго канца, дарагія работы закончыліся, асноўныя фонды выбраны, і нам, гора-будаўнікам, трэба было ці выпраўляць чужыя недахопы, ці выконваць другарадныя аперацыі. Дарэчы, перад самай здачаю, узімку, штурмаўшчына дасягнула такога напалу, што на будоўлю зцягнулі сілы практычна з усіх трэстаў і будаўнічых упраўленняў горада. Забяспечыць работаю ўсіх, ведама ж, не маглі, і брыгады мылі падлогу адна пасля другой.

Упершыню сутыкнуўшыся з будоўляю, прычым, такога маштабу, я ўбачыла, як мы не ўмеем будаваць: нерацыянальна выкарыстоўваем і матэрыялы, і людскія рэсурсы; многія лінейныя работнікі — прарабы і майстры — тэхнічна малапісьменныя, непрафесійныя. Накладвалася і «замотанасць» ад працы са спецкантынгентам. Мат тут не проста чуўся, тут на ім размаўлялі, зрэдку ўстаўляючы цэнзурныя словы. Так што «нашы універсітэты» праходзілі ў поўным кавардаку. Прыходзім уранку на працу — Міша Махненка, наш майстар, дае ўказанні пакрываць падлогу зцяжкаю. У перазменку другі майстар, Ісаеў, кажа: «Замазваць усю падлогу не трэба. Дурная работа. Затынкуйце ўпадзіны». Пытаемся ў таго ж Ісаева: «Паглядзіце, ці правільна мы робім!» «Вельмі правільна»,— адказвае ён, а сам стаіць метраў за 30 ад нашага ўчастка.

Ці такая сітуацыя. Махненка загадаў паліваць забетаніраваную падлогу, а ў ёй — адтуліны для мантажу абсталявання. На адзін паверх ніжэй працуе брыгада муляраў з іншага ўпраўлення, і нашая вада псуе чыста выбеленыя імі сцены, а столь дык увогуле ўздзьмулася бурбалкамі. Яны мацюкаюцца, равуць, а Махненка: «Ліце!» Прыбягае ганец знізу, счапіўся з нашым майстрам, гвалт, лямант. Разбегліся, а Махненка вус пакручвае: «Ліце!»

Цэменту няма, майстар раіць:

— У суседзяў цягайце. Вучыць вас усяму трэба...

Так і цягалі брыгады адна ў адной і цэмент, і пясок, і фарбу. Інструмент пакінеш на пару хвілін — і аглядзецца не паспееш, як знікне.

Цяпер думаю, як тады вытрымала, не зламалася, не плюнула на ўсё гэта і не паехала, як гэта зрабілі многія расчараваныя ў першыя ж дні і тыдні. Я ведала, што праз тры гады мяне чакае другая будоўля, мая будоўля — гэта дапамагала. І яшчэ... вершы. Спецыяльна прасіла работу пад самай столлю, караскалася на рыштаванні (неўзабаве я навучылася рабіць гэта не горш за якую малпу) і працавала ў адзіноце — рыштаванні пагойдваліся, а я ўсё чытала Блока, Ахматаву, Маякоўскага, Цютчава...

Побыт наш быў наладжаны вельмі цікаўна. Адна назва раёна, у якім знаходзіўся і наш інтэрнат, і дзесяткі іншых, чаго была вартая — Краіна дурняў. Але пра гэта — у наступным рэпартажы.

Пятро ВАСЮЧЭНКА

# БЭЗАВАЕ ВОБЛАЧКА




## I

За дзвярыма нешта затупацела, зашкрэблася, нарэшце лісліва прагугнявіла: «Адась, дай цыгарэту...» — «Сам учора высмаліў цэлы пачак»,— абурана ўсхапіўся Адась.

Яшчэ ўчора Мацук зганіў Адасеў верш, а ўранні ўжо прыплёўся пад дзверы паддобрывацца. А верш быў не абы-які, называўся «Карова з сумнымі вачыма». «Ні халеры не зразумеў,— заявіў Мацук паслухаўшы.— За якой хваробаю твая карова палезла ў возера? На пашы было ёй мала месца, ці што?» Другі слухач, Калабоўскі, доўга варушыў вусамі, перш чым вынесці прысуд, які быў даволі жорсткі: верш — суцэльны дэкаданс, і як Адась пойдзе гэтаю сцяжынаю, дык на добрае яна яго не выведзе. Да таго ж, твор песімістычны. «Ну скажы,— дапытваўся Калабоўскі,— адкуль у маладога сучасніка столькі змрочных асацыяцый?»

За дзвярыма зноў крокі, і стук на гэты раз кароткі, далікатны — гэта, напэўна, быў Калабоўскі. Але і з ім Адасю не хацелася гаварыць — крыўда яшчэ не прайшла. Ад дзвярэй адышліся, у пакой вярнулася цішыня.

Трэ было падымацца.

Побач з дзвярыма ўпала ўторкнутая ў шчыліну паперка. Адась падняў яе — і ўваччу замітусіліся літаркі, раскіданыя на паперы, бы птушкі па небе. «Ці можна гэтак доўга спаць?» — пыталіся літаркі сваім палётам. А ніжэй зліваліся ў знаёмае Адасю імя.



Адась падскочыў як апечаны і, як быў у споднiках, кінуўся ў калідор. «Што я раблю,— адумаўся ён,— трэба ж памыцца. Дый навошта спяшацца? Яе няма. Пакінула цыдулку ды пайшла. Што ёй рабіць у гэтым гадзючніку».

Яе прыезд сам па сабе быў цудам, на які Адась не меў аніякае надзеі месяц таму, калі размаўляў з ёю ў Маскве, дзе збіралі паэтаў-пачаткоўцаў. Адася запрасілі выступіць перад студэнтамі, ён сумленна адчытаў свае вершы і раздумваў ужо пра тое, дзе б гэта пасёрбаць гарачай капусты. Аднак у перапынку да яго падышла студэнтка і штосьці спытала па-беларуску, здаецца, пра Алеся Разанава. «Зямлячка?» — здзівіўся Адась. Яна была з Гарадоччыны, з вёскі, назва якой выветрылася з галавы, нейкае кароткае, усё адно як птушынае, слова. Дзяўчына была не па ім — замнога святла, ружовасці ў лёгкіх, быццам акварэллю вымаляваных рысах твару. Але вочы — цёмна-вішнёвыя — глядзелі прыязна і даверліва, як бы хацелі бачыць у Адасю абаронцу. Гэта ўсцешыла, і ён запрасіў дзяўчыну ў Мінск. Яна адказала, што прыедзе. Нязначныя, кінутыя ў паветра словы — і раптам гэтая паперка?

Унізе, здавалася, нікога не было апроч вахцёркі. Але ў кутку за шафаю ён убачыў блакітнае, белае з лілёвым — яно лёгка прыўзнялося з лавы і рушыла яму насустрач. Бэзавае Воблачка — адкуль яно ў шматлюдным горадзе, чаму прыблілася да іхняга старога інтэрната, населенага студэнтамі, міліцыяй ды старымі кавалерамі? А яна ўжо працягвала яму руку:

— Я прыехала. Чакаў? Чаму натапырыўся? Ты ж запрашаў.

«Жах»,— падумаў ён, калі Воблачка аглядалася ў ягоным пакоі. Вельмі ж красамоўна сведчылі шклянкі і рэшткі кілбасы пра ўчарашнюю паэтычную вячэру. Але Воблачка адно злёгку ўсміхнулася. Адась павесялеў і пабег па малако і хлеб, а па дарозе пастукаўся да Калабоўскага з Мацуком.

У пакоі панаваў аскетычны пах мужчынскіх шкарпэтак. Хлопцам ад учарашняга балелі галовы, таму сёння яны трымаліся паважна, рыхтаваліся да іспыту па замежнай літаратуры. Мацук якраз зачытваў з нейкага твора: «Знаменитый защитник университетской футбольной команды трахнул ее прямо в плывущем каноэ».

— Не можа быць, каб так і было надрукавана,— не паверыў Калабоўскі.— Гэта адкуль?

— Хелер, старонка восемдзесят сёмая.

— Той, што па праграме? Не можа гэтага быць!

— А як па праграме, дык ужо не трахаюць? — запярэчыў Мацук.

— Хлопцы, у мяне ў гасцях дзяўчына. З Масквы. Дык вы пры ёй папрыстойней,— папрасіў Адась.

— Нішто баба? — пацікавіўся Мацук.— Можа, сніданутая якая?

— Да нашага паэты не можа прыехаць сніданутая,— заступіўся Калабоўскі.

— Яшчэ, хлопцы, зрабіце ласку, згатуйце што на вячэру. Што-небудзь такое, каб не было сорамна.

— Не будзе сорамна,— паабяцаў Мацук.— Давай чырвонец.

— Толькі вы ўжо без мацюкоў,— папярэдзіў Адась.

— Ты абяцаў паказаць горад,— нагадвала Воблачка пасля таго, як яны паснедалі малаком, булкай і сочывам.

Яны абышлі Вайсковыя могілкі, Залатую горку, Верхні горад... Адась не думаў здзівіць яе чым-небудзь, але хацеў, каб госця глядзела на раскіданыя па горадзе куточкі даўніны ягонымі вачыма — як на сумна-прыгожыя выспы ў моры бетонных каробак. Могілкі ён любіў за тое, што на іх хораша і спакойна думалася. Тут не было натоўпу жывых, каб таўчы ў бакі і ў спіну, не было Калабоўскага, каб раскрытыкаваць вершы, што нараджаліся тут. Адась зірнуў на Воблачка: што адчувае? Дзяўчына адказала яму доўгім самотным позіркам, у якім быў жаль не толькі аб тых, хто спачывалі ў зямлі, а і яшчэ аб нечым, чаго Адась не мог зразумець.

У Верхнім горадзе ў Адася быў свой куток, дзе скрыжоўваліся заімшэлыя муры, хаваючы ад натоўпу маленькі пляц, на якім ужо буялі дзьмухаўцы, а ўгары ззяў блакітны прастакутнік неба. Уздоўж сцяны падымалася жалезная лесвіца, яна абрывалася перад жалезнымі дзвярыма.

— Хто жыве за імі? — спытала яна.

— Ніхто. Я ніколі не бачыў, каб хто адчыняў іх.

— Можа быць, гэта дзверы для нас,— раптам прамовіла Воблачка.

Яна ўзышла па сточаных іржою прыступках, паторгала за ручку. Пастукала. За дзвярыма стаяла цішыня.

Дзверы не хацелі прапускаць Бэзавае Воблачка. Як быццам прадчувалі, што ім не затрымаць яе болей, чым Воблачку захочацца.

Адась працягнуў ёй руку, яны пабрылі далей.

— Есці хочацца,— раптам прамовіла яна.

Адась не павёў яе ў студэнцкую харчэўню, дзе частуюць падсмажанымі падэшвамі. Яны ўбіліся ў вялікі рэстаран, дзе





сядзелі добра апранутыя людзі, перад імі ляжалі на талерках біфштэксы і кураняты, боўталася ў букачах пітво розных колераў. Грошай у Адася якраз хапіла на пару кураняткаў і паўпляшкі чорнага, бы смоль, лікёру.

Яна выйшла, сказала што на хвіліну, ды атрымалася нашмат даўжэй, як здалося Адасю, назаўсёды. Што магло затрымаць яе тут, паміж сытых, напітых, задаволеных жыццём і заробкам людзей?

Гэта было такім нечаканым і вялікім горам, што Адась не мог ужо глядзець на раскрыжаванае ў талерцы кураня і выйшаў у прымыльнік, дзе заўзята палілі дзяўчаты, надта дзябёлыя, такіх у вёсцы завуць цялушкамі. Праз дзверы ў бар Адась разгледзеў неверагодна шырокія плечы, на якіх, здавалася, трашчаў клятчасты імпартовы пінжак, коратка абстрыжаныя чорныя валасы на патыліцы. Воблачка амаль уся схавалася за квадратнай постаццю. Яна ўважліва слухала тое, што казаў ёй дзяцюк...

Праз хвіліну яна сядзела побач з Адасем, як нічога не адбылося.

— Свет цесны,— адно праказала яна.— Гэта майстар спорту па ралі. Уяўляеш, таксама з Масквы. Пагоніць новую машыну. Ты слухаеш?

Адась не здзівіўся, што свет цесны. У свеце, дзе жывуць Воблачкі, увесь час дзівосы, нечаканыя сустрэчы.

Але, апрача ўсяго іншага, яны абодва былі студэнтамі, і праз гадзіну ім зноў захацелася есці. Адзінае спадзяванне было на Мацука з Калабоўскім. І яны не падвялі.

Найперш яны прыбралі ў пакоі: схавалі некуды шкарпэткі, а смецце ссунулі пад ложкі. Вячэра была адмысловая, толькі гэтыя двое і маглі такую вымудрыць. Тоўста наскрыланае ружовае сала, чатыры вялізныя цыбуліны, соль у глыбокай місцы — ва ўсім адчуваўся далікатны густ Мацука. А Калабоўскі ўрачыста дастаў з стаўбура бутэльку шампанскага. Адась крыху занепакоіўся: як такое прыдасца госці? Але зусім няблага прыдалося: пайшло і сала, і шампанскае, якое ёй паднеслі ў слоіку ад смятаны (бо астатні посуд быў не вельмі чысты).

Калабоўскі з Мацуком са скуры вылузваліся, каб пакінуць аб сабе найлепшае ўражанне. Калабоўскі нейкім не сваім, драўляным, голасам праспяваў цыганскі раманс. Мацук не спяваў, затое спраўна падкладаў госці сала, а за яе спіной рабіў мудрагелістыя знакі — паказваў Адасю на мігах, што ён павінен будзе рабіць тады, як застанецца з Воблачкам удваіх. Адась ведаў, што такая хвіліна надыдзе, але ні Мацук, ні хто іншы не змог бы прадказаць, што адбудзецца тады. Адась больш страшыўся, чым чакаў канца гэтай няпэўнасці.

Ён зноў прачытаў верш пра карову. Калабоўскі ўжо рыхтаваўся дашчэнту спляжыць дэкадэнцкі твор, але Воблачка яго апярэдзіла:

— Шкада карову.

Калабоўскі не адважыўся з ёю спрачацца.

Настала і тая хвіліна, на якую намякаў Мацук. Дзяўчына, стомленая хадою па горадзе, сядзела на краі ложка, нібыта забыўшыся на тое, што яны сам-насам у Адасевым пакоі. Ён сеў побач з ёю, узяў яе рукі ў свае і адчуў у сябе на плячы яе валасы. Магчыма, далейшае залежала ад яго рашучасці, але Адася стрымлівала прыкрая згадка пра тое, што было ўжо з ім некалі: прачнуўся і побач з сабою ўбачыў чужую, непрыгожую жанчыну, мала падобную да мілай, зграбнай студэнтачкі, якою яна здавалася раней.

Воблачка нібы адчула змену ў ягоным настроі і прыўзняла галаву:

— Вунь там, у куце. Нібы чалавечая ўсмешка. Такая смешная трэшчына.

— Але,— ён амаль узрадаваўся, што можна не маўчаць.— А побач з ёю стары, у яго нос што глюга, ён нібыта чытае натацыю, як трэба жыць. А фаянсавая курка з адбітай дзюбкай — вунь на стале — таксама любіць павучаць, толькі як мая бабуля: не выпівай, добра еш, высыпайся...

— Трэба слухаць бабулю. Ідзі спі. Дзіцячы час. Я таксама стамілася,— прашаптала яна.

Ен паслухмяна перабраўся на пусты ложак.

— Выключы святло,— яшчэ цішэй прамовіла яна.

Ен слухаў, як лёгка і роўна яна дыхае. Яшчэ не позна было падысці да яе. Але яна заварушылася ў сне, жаласна папрасіла аб нечым. Яму стала шкада Воблачка, невядома за што.

На самым золку ён заснуў, а калі прахапіўся, сустрэў позірк цёмна-вішнёвых вачэй, якія глядзелі на яго так, нібыта бачылі ўпершыню,— здзіўлена і чамусьці вінавата. Воблачка жвава лётала па пакоі, бралася за розныя рэчы, якія ў яе руках рабіліся паслухмяныя: імбрычак спраўна выпускаў пару праз нос, бутэрброды цярпліва чакалі, пакуль іх з'ядуць.

— Я паеду,— паведаміла яна, паснедаўшы.

Адась баяўся гэтага кожную хвіліну, таму навіна агаломшыла яго, але не забіла дашчэнту. Адгаворваць яе не мела сэнсу — хто затрымае Воблачка? Ен моўчкі працягнуў ёй шматок паперы, на якім ноччу занатаваў новы верш.

— Развітаемся тут,— прапанавала яна каля інтэрнацкага ганка.— Так лягчэй — табе і мне. Ніколі не бачыў, якія гаротныя людзі на вакзалах? Не глядзі на мяне так, бо я заплачу. Я не магу, калі ў людзей такія вочы. Дзякуй табе. Ты добры. Бывай.

Ен яшчэ адчуваў на шчацэ дотык вуснаў, а белая з лілёвым постаць апошні раз мільганула і знікла за летачкай з марожаным. На тым месцы ўжо стаяў дзед з саламяным капелюшом на галаве і еў пламбір. На твары шчырая асалода, варушацца шчокі, барада, вусы.

У пакой да суседзяў Адась усунуўся белы, што здань. Мацук кінуўся да яго з роспытамі:

— Ну, кажы! Колькі?!

Адась цяжка апусціўся на крэсла.

— Ні разу?! — жахнуўся Мацук.

— Ты хочаш, каб адразу табе ўсё,— абсек яго Калабоўскі.— У іх, можа быць, высокае пачуццё.

— А як высокае, дык ужо і нельга?..— не супакойваўся Мацук.— Як гэта можна, каб за цэлую ноч ні разу не... Яшчэ ў рэстаран вадзіў.

Адась мутным позіркам абвёў пакой: шкарпэткі, што красаваліся на ранейшым месцы; водарасць, што вырасла ў букачы з вадой. Пайшоў да дзвярэй.

— Ды не бяры ты да галавы,— параіў Мацук.— Знайшоў па кім стагнаць. З шызою нейкая. Карову ёй шкада...

— Можа, табе галава баліць? Можа, таблетку б з'еў? — непакоіўся Калабоўскі. Ужо за дзвярыма Адась чуў, як бурчаў Мацук: «На ліха яму тая таблетка. Яму бабу трэба, а не таблетку, вось што».

А яму напраўду дык нічога не было трэба. Ужо ў сваім пакоі ён абыякава згадаў, што не папытаў у яе адраса. Нічым не дапаможа ні адрас, ні абяцанне новай сустрэчы. Воблачкі з'яўляюцца і знікаюць як ім захочацца.

Уначы ў дзверы пашкробся Мацук. Ен пытаўся, ці жывы яшчэ Адась, і параіў, калі ён надумае павесіцца, каб папярэдзіў сяброў. Яны скінуцца на памінкі. Гэта ў яго такі быў жарт. Але тою ноччу Адась быў блізкі да таго, каб паслухацца сяброўскае парады. Штораз ён пачынаў плакаць без слёз. На світанку ён занатаваў самы страшны свой верш — пра тое, як Свіслач выкінула на бераг тапельца, у якога рыбы паабгрызалі рукі, ногі, твар.

Раніцою ў пакоі зноў ажылі рэчы. Сцяна сумна ўсміхалася, як бы чытала схаваную ад людзей таямніцу. А курка з адбітаю дзюбкаю квактала нешта лагоднае і суцяшальнае.

## II

Яна не падманвала Адася. Сапраўды, так было лягчэй. Што б сталася з паэтам, каб ён зазірнуў па той бок летачкі з марожаным? Да ходніка падплыў аўтамабіль іншаземнай пароды, быццам высечаны з ружовага шпату. Здавалася, ён займаў паўвуліцы. Дзед, што прыхінуўся да летачкі, ледзьве не праглынуў увесь свой пламбір разам з абгорткаю. З машыны выйшаў рэстаранны знаёмы і загарадзіў сваёй постаццю астатнюю частку вуліцы. Дзяўчына адразу сама сабе здалася маленькай, кволай і, каб пазбавіцца гэтага адчування, працягнула руку чарняваму волату. Яна апынулася ў машынным чэраве, на мяккім шырокім сядзенні. Ей не надта верылася, што ўсё абарочваецца яваю — падарожжа ў шыкоўным аўтамабілі, якое абяцаў ёй учора майстар спорту. Надзвычай будзённа выглядала тое, што ўчора здавалася амаль казачным.

Шалёная хуткасць, з якой паглыналася шаша, адсоўваліся ў мінулае мінскія ўражанні,— гэта яшчэ выглядала напалову казкаю. Але насоўваўся і холад расчаравання, якое здараецца, калі нецярпліва перагорнеш старонкі і зазірнеш у канец казкі.

Будзе так: недзе на паўдарозе, дзе гусцейшы лес, машына раптам спыніцца. Можа быць, у жалезным сэрцы нешта зламаецца, можа, кола наедзе на цвік, але гэта непазбежнае. Яна, кволая, падпарадкуецца чужой, казачнай волі, яна самлее ад першага дотыку чарнявага волата...

Дзівосы гэтак проста не адбываюцца. Сапраўдны толькі той цуд, які мае адваротны бок, дзе — халодная хваля расчаравання, адчужанасці да ўсяго, што гэты цуд спарадзіла, а перадусім — да сябе самой.

На факультэце пра яе казалі, што яна збірае славутасці. Няпраўда. Яна проста не магла жыць адным жыццём — гібець над падручнікамі, хадзіць на лекцыі, у спартзалу. Яна чакала, што вялікі горад адорыць яе дзівосамі, разгорне іх перад ёю каляровым веерам. Але нехта хаваў іх ад яе, як і ў вёсачцы, што пад Гарадком.

Давялося браць самой.

За білет на спектакль, на які валам валяць усе, а разумеюць адзінкі, і за той трэба змагацца. Але тое малазразумелае, што разыгрывалі на сцэне акторы, здавалася несапраўдным, падмененым цудам. Галоўнае, напэўна, хавалася за кулісамі. Яна і пайшла аднойчы за кулісы — і сустрэлася з рэжысёрам. Нібы чараўнік, ён узяў яе за руку і павёў у свой свет. Яна памятала нейкую выставу, абразы скрозь у плямах і рысках, яшчэ больш цьмяныя, чым спектакль, але побач быў ён — і ў ягонай прысутнасці фарбы прыадчынялі сваю душу. Каб пазбыцца адвечнай прыгнечанасці, яна рабілася менавіта такой, якой патрэбна была свайму бліскучаму спадарожніку, і каліва ягонага ззяння трапляла на яе. Да самага апошняга, што здарылася паміж імі, яна сама падштурхнула яго, бо як іначай яна, непрыкметная, смешная, магла б дацягнуць да яго?

Пасля — пустата, як на экране, калі ірвецца стужка, нейкае мізэрнае, правінцыяльнае пачуццё вінаватасці невядома перад кім.

Канец казкі.

Потым былі вучоны, баксёр, афіцэр...

Усё абрывалася пасля першай блізкасці, свайго адраса яна нікому не давала, візітныя карткі выкідала. Падарункаў не брала, бо яны змянілі б мрою не проста ў пустату — у суцэльны ліпучы бруд. Толькі аднаго разу...

Гэта быў іншаземец, з вельмі прывабным шакаладным адценнем скуры, сухарэбры, што ганчак. Ен вельмі смешна, перакрыўляючы словы, папытаў у яе дарогі да кінатэатра «Ілюзіён». Яна адказала яму па-ангельску, таксама смешна, бо ён паказаў адразу ўсе свае бялюткія зубы. Сталася так, што яны разам пайшлі ў «Ілюзіён», а пасля паказу — да яго ў гатэль. У той момант ёй здавалася, што фільм яшчэ не скончыўся, што яна працягвае жыць у старамоднай тклівай меладраме. Гадзіны праз дзве, агаломшаная, яна сышла ў метро — і адчула, што сціскае нешта ў руцэ. Нейкія зеленаватыя паперкі, не нашы. Першым парываннем было шпурнуць іх у сметніцу, але раздумалася. Яны ляжаць у яе шуфлядцы, побач з дакументамі і лістамі да родных.

Яна згадала пра паперку, што перадаў ёй раніцой Адась. Разгарнула — верш. «Бэзавае Воблачка». Гэта пра яе. Усміхнулася. Хай. Раз ён яе такою прыдумаў. Яна пабывала ў казцы, дзе жыве Адась. Добрай казцы. Там рэчы размаўляюць, трэшчына ў сцяне ўсміхаецца. Яна ва ўсім слухалася гаспадара, яна не пярэчыла б, калі б ён патрабаваў ад яе апошняга, чаго дамагаліся іншыя. Толькі моцна здзівілася б. Але ўсё абарвалася нечакана, на нейкім самотным пачуцці. Хай. Усё добра.

Адно шкада хлопчыка. Якімі вялікімі, поўнымі слёз вачыма ён глядзеў на яе. Але яму нічым не дапаможаш. Паэты самі сабе прыдумляюць пакуты і жывуць з імі, шчаслівыя, пішуць вершы.

Ен прыдумае сабе яшчэ адно Воблачка, можа, і не адно. З ім будуць сябраваць незвычайныя, добрыя людзі. А калі і не вельмі добрыя, ён сабе прыдумае іх добрымі. Як гэтых дзівакоў — Мацука ды Калабоўскага.

За акном цягнуўся рэдкі хмызняк, раптам пабеглі елкі ўперамешку з бярозамі. Яна зірнула на мужчыну — застыў, быццам прыкіпеў да машыны, нічога не чуў акрамя яе і дарогі. Раптам машына пачала збаўляць бег, а ён, гледзячы кудысьці ўбок, кінуў:

— Так і ведаў, што паляціць падшыпнік.



# АГОНЬ

Вальдэмар ПРАЦКАЙЛА

СПОРТ

Трымаю блакітны футляр, пакрыты аксамітам. У ім — галоўны скарб сям'і Шылавых. Залаты медаль, які прывезла Іра з Сеула. Дастаю медаль, паважліва кажу:

— Цяжкі.

— Цяжкі, — згаджаецца Ірына,— і дастаўся цяжка. На выкананне практыкавання ў нас адпускаюцца дзве гадзіны, плюс хвіліны на фінальную серыю. У суме не менш часу, чым на марафон. Дый сіл мы трацім не менш, чым бегуны. Важна вытрымаць, сціснуць нервы ў кулак. Не думаць ні пра што. Сорак стрэлаў. І трэба паслаць у «дзесятку» сорак куль. А памер гэтай «дзесяткі» — маленькая кропка... І вось у Сеуле дзве спартсменкі — мае галоўныя суперніцы — паказваюць аднолькавы вынік — 395 ачкоў. Кітаянка Чанг Гаўпін і Лаўні Мэйлі з ЗША. Столькі ж ачкоў і ў мяне. І тут я сабе сказала: «Перамогі не аддам». У фінале нас было восем. Пачалося самае цяжкае. Да п'едэстала адзін крок, але які ён цяжкі! Мне ўдалося паказаць лепшы вынік — 103,5 ачкоў.

— А што было потым?

— Потым? Ужо не памятаю. Галоўнае здзейснілася: ёсць залаты медаль! Перамога і медаль, пра які я марыла. Дарэчы, у мяне часта пытаюцца: «Чаму я выбрала стральбу?» Адказ, мажліва, некага расчаруе. Бо не ўкладваецца ў звычныя стэрэатыпы: маўляў, з ранняга дзяцінства марыла (марыў) трапіць у такую спартыўную секцыю. Не, я не думала пра трэніроўкі. Неяк зайшла ў цір выпадкова. Брат прапанаваў: «Давай пастраляем». Зайшлі, пастралялі. Мне спадабалася. Стала займацца ў секцыі. Але захапленне хутка прайшло, і я кінула трэніроўкі. Потым нешта зноў прымусіла мяне зайсці ў цір.

Неўзабаве праводзіліся спаборніцтвы, першыя ў маім жыцці. Удзельнічаючы ў іх, адчула азарт барацьбы. У мяне з'явіліся цікавасць, жаданне паказаць як мага лепшы вынік. Сама таго не падазраючы, захапілася стральбою. Гэта было ў чатырнаццаць гадоў. Так даўно — і ў той самы час здаецца ўчора.

Дапамагло і тое, што я да працы рана прывыкла: расла і выхоўвалася без бацькі. Трэба было дапамагаць маці, санітарцы абласной бальніцы. Дый на трэніроўках прыходзілася, як кажуць, «пахаць».

— Вернемся да падзей Алімпіяды, дакладней, да дзён, якія ёй папярэднічалі. Ці лёгка ўдалося «прабіцца» ў Сеул?

— Прыйшлося пераадолець багата цяжкасцей. Хаця, калі мець на ўвазе паказаныя мною вынікі, ніякіх ускладненняў не павінна было ўзнікнуць. Нехта відавочна хацеў папсаваць мне нервы. Да самага апошняга моманту я не была ўпэўненая, што траплю ў Сеул. Замучылі пастаянныя кантрольныя спаборніцтвы. Нібыта паказваю добрыя вынікі і «бранірую» месца ў зборнай, але яснасці ніякай. Вось, нават у кнізе пра кандыдатаў на Алімпіяду, выпушчанай напярэдадні Гульняў, пра мяне ні радка.

— Усё гэта, вядома, не магло не паўплываць на ваш настрой?

— Сэрца спартсмена (а тым больш спартсменкі) вельмі ранімае. На жаль, гэта не заўсёды ўлічваюць тыя, чыя задача — клапаціцца аб нашым душэўным спакоі. Быў час, калі мяне залічылі ў «неперспектыўныя». І адкрыта пра гэта гаварылі. Між тым я паказвала досыць высокія вынікі і была гатовая ўзяць новыя вяршыні. Дзякуй Віктару Пятровічу Авілаву, які паверыў у мяне і стаў маім трэнерам.

— Я так зразумеў, што вы не хочаце назваць імя вашага, так сказаць, злосніка?

— Так. Заўважу толькі, што ўжо тры гады, як я не зрабіла ў ціры роднага горада ніводнага стрэлу.

— Але ў вас у Гродне ёсць выдатны дынамаўскі цір...

— ...у якім я калісь з захапленнем трэніравалася. Аднак не па маёй віне я апынулася ў другога трэнера. Што ж да спартыўнага таварыства «Дынама», то я па-ранейшаму выступаю пад ягоным сцягам.

— Ці лёгка навучыцца трапна страляць? Пытанне гэтае цікавіць многіх, асабліва маладых хлопцаў, якія рыхтуюцца да службы ў Савецкай Арміі.

— Калі казаць праўду, то няпроста стаць снайперам. Толькі чалавеку староннямy можа здацца, што стральба — лёгкі від спорту. Мажліва, часам такое ўражанне складваецца таму, што рэдка хто бывае ў цірах, тэлебачанне практычна не паказвае стралкоў, не рэкламуе спаборніцтвы.

— А што, на вашую думку, стрымлівае развіццё спартыўнай стральбы на Беларусі?

— Праблем вельмі шмат. Лічу, што ў нас мала добра абсталяваных ціраў. Гэта папершае. Ёсць недахопы і ў прапагандзе стральбы. Адчуваецца і тое, што не хапае добрых трэнераў. Словам, ёсць над чым працаваць.

Людміла ІСАКАВА

# «ДРУГІ ЗРОК», або МАСТАЦТВА БЫЦЬ КІНАГЛЕДАЧОМ




Пан Журдэн, герой мальераўскай камедыі «Мешчанін у дваранстве», страшна здзівіўся, высветліўшы, што гаворыць прозаю. Рызыкну сказаць: многія здзівяцца не менш, даведаўшыся, што, гледзячы фільм, мы падсвядома канструюем у сваім ўяўленні вобраз, які адпавядае экраннаму, «ужываемся» ў кінатвор і рухаемся ў накірунку да высвятлення ягонага сэнсу...

Гучыць трохі дзіўна, але нікуды не дзенешся, гэта факт. Іншая справа, наколькі мы гатовыя прымушаць працаваць нашае вобразнае мысленне. Не сакрэт, што некаторыя прагнуць кінавідовішча нескладанага для ўспрыняцця і па магчымасці зразумелага з першага погляду, а калі незразумела, то ўжо адразу — груканнем крэсла ці з'едлівым слоўцам — выкажуць сваю незадаволенасць.

Вось тут і хочацца прапанаваць затрымацца. Пачакаць з высновамі. Зрабіць паўзу, каб асэнсаваць убачанае. Бо і ў самым простым, і ў самым складаным фільме ёсць багата такога, што трэба ўмець разгледзець па-за паказаным, так званым «другім зрокам». Давайце вучыцца бачыць!

У рэальным кантакце са стракатым светам экрана наша рубрыка «Кінакомпас» дапаможа вам разабрацца ва ўласных уражаннях, дасць магчымасць выказацца ўголас. І, вядома, падыскуціраваць. Напрыклад пра тое, што вабіць нас у папулярных жанрах кіно — прыгодніцкіх фільмах, камедыях, меладрамах; чаму некаторыя фільмы мы называем «цяжкімі», за што можна любіць ці не любіць індыйскае кіно... Так што прапануйце, калі ласка, тэмы для будучай размовы.

А пакуль што давайце паспрабуем высветліць, навошта ўсё-такі гэта патрэбна: імкнуцца ўбачыць у фільме болей, чым паказана. Думаецца, дзеля таго, каб не трапіць у сітуацыю, калі, добрасумленна фіксуючы тое, што адбываецца на экране, мы ўмудраемся бачыць толькі тое, што ляжыць на паверхні. Згадаем амерыканскі фільм «Палёт над гняздом зязюлі», які толькі што прайшоў у нашым пракаце. Ён літаральна шакіраваў гледачоў: у многіх з'явілася адчуванне, быццам яны сталі сведкамі рэальных падзей у вар'ятні. Між тым рэжысёр Мілаш Форман рабіў карціну зусім не пра вар'ятаў. Прадметам яго даследавання былі пачварныя праявы духоўнага дэспатызму, агрэсіўнае жаданне аднаго чалавека ўладарыць, прыгнятаць унутраны свет другога. Матэрыял псіхіятрычнай лячэбніцы толькі дапамагаў рэжысёру больш адкрыта, больш эмацыянальна раскрыць тэму... І, дарэчы, сапраўдны маральны змест гэтага фільма змаглі зразумець гледачы, якія ўмеюць думаць, якія здольныя ўбачыць тое, што прыхавана за паказанымі падзеямі. Менавіта яны апынуліся ў выйгрышным становішчы, бо ў час прагляду змаглі зрабіць непрыкметны, але важны пераход ад суперажывання героям твора да суперажывання... аўтару. Бо ў рэшце рэшт самі героі — толькі сродак для мастака, адзін са спосабаў выкласці свае думкі пра свет і месца чалавека ў ім.

Звернемся за прыкладам да карціны, якая атрымала шырокі грамадскі рэзананс,— «Плюмбум, або Небяспечная гульня» рэжысёра Вадзіма Абдрашытава. Кароткі фрагмент з інтэрв'ю з выканаўцам галоўнай ролі Антонам Андросавым:

— Як ты лічыш, фільм дасягнуў сваёй мэты?

— На жаль, не зусім. Іншы раз я нават думаю, што яго не варта паказваць «дзецям да шаснаццаці» — яны ўспрымаюць Плюмбума як героя, прыклад для пераймання.

Што ж здарылася? Чаму персанаж, паводле думкі выканаўцы відавочна адмоўны, часткаю гледачоў «да шаснаццаці» быў успрыняты з адваротным знакам?.. Чатырнаццацігадовы хлапчук, які самахоць узяў на сябе місію ахоўніка грамадскай маралі, барацьбіта з фарцоўшчыкамі, казнакрадамі, бадзягамі-папрашайкамі. Высакародна? А як жа?! І словы ж якія прамаўляюцца: «Я вас ненавіджу, вы краіну раскрадаеце, я вас не выпушчу, я вас у твар запамятаў, здавайцеся!» І позірк — сумленны, без сумнення і страху...

Калі вы прывыклі меркаваць пра герояў фільма толькі паводле крытэрыяў побытавай жыццёвай адзнакі — вы адразу ж адчуеце да Плюмбума сімпатыю, і тады вам, на жаль, ужо не здадуцца істотнымі (а можа, вы і зусім не заўважыце) дзіўныя адценні ў паводзінах школяра-вышукніка ў час высочвання выбраных ахвяр, «расстаўлення пастак»... Усе гэтыя аўтарскія прыдумкі пройдуць міма вас, і вы ўпусціце магчымасць змяніць першапачатковае ўражанне: ці ж толькі ў імя грамадскай справядлівасці дзейнічае юны герой? Можа, яму нашмат важней трымаць у сваіх руках чужыя лёсы, маніпуляваць імі? Не будзем множыць гэтыя сумныя пытанні... Паспрабуем усё ж вызначыць, якім шляхам трэба ісці, каб, суперажываючы героям, адначасна ўлоўліваць развіццё вобразнай думкі аўтараў... Дзіўныя адкрыцці чакаюць гледача, які здолеў увайсці ў асобнае кінавымярэнне, прапанаванае грузінскім рэжысёрам Аляксандрам Рэхвіяшвілі ў фільме «Ступень». Карціна — пра пошук выйсця з духоўнага тупіку, у якім апынулася цэлае пакаленне, што вырасла ў эпоху застою, эпоху гранічнай фармалізацыі грамадскага, а ўслед за ім і асабістага жыцця. Мяркуючы па прычосках, касцюмах герояў, дзея адбываецца ў сярэдзіне васьмідзесятых гадоў. Аднак, пазначыўшы час, рэжысёр наўмысна адмаўляецца ад канкрэтызацыі — наадварот, ён спрабуе паказаць яго як рэальнае і ірэальнае адначасна. Уся дзея адбываецца ў замкнёнай прасторы пакояў. Будзённы бясколерны свет абыякавых інтэр'ераў. З аднаго вузкага памяшкання ў другое пераходзяць людзі, у кожнага ўсё роўна як свая траекторыя руху, кожны заняты сваёй «мэтаю» і ледзь заўважае побач другога.

Метафара некамунікабельнасці, распаду натуральных чалавечых сувязей у фільме «Ступень» лёгка прачытваецца, калі заўважаеш выразныя пластычныя дэталі, з якіх сатканая кінематаграфічная прастора.

Памятаеце? Інстытуцкі чыноўнік (да яго шмат разоў прыходзіць за подпісам юны герой па імені Алексі) нудзіцца на службе «ў пары» альбо з кактусам, які ён разглядае скрозь лупу, альбо з белым аркушам паперы, з якога, адурэўшы ад лайдацтва, гэты самавіты чалавек выразае кружочкі... Кожны са шматлікіх сяброў, якія з'яўляюцца і знікаюць у кватэры Алексі, ахарактарызаваныя сваім «прадметным» заняткам: адзін вырошчвае ў сутарэнні шампіньёны і цягае іх адтуль у тазіках і вёдрах, другі важдаецца з карцінаю бессэнсоўнага зместу, дзяўчаты слухаюць пласцінкі на двух старых патэфонах (прычым, адначасна гучаць і руская «плясавая», і італьянская арыя)... Дэталі, дэталі... Іх мноства! Усё змяшаецца ў галаве ў беднага гледача, надумай ён успрымаць кожную з іх у яе канкрэтным побытавым значэнні — па-за кантэкстам фільма цалкам. Але затое якую шматмернасць набудуць тыя ж дэталі, сцэны, эпізоды, калі мы ўвяжам іх у адзіным адчуванні бессэнсоўнасці, пустаты існавання, у якім няма мэты, вартай чалавека. Амаль фізічна можна адчуць, як прастора вакол Алексі распадаецца на адасобленыя, безаблічныя колы, што сустракаюць яго паўсяброўствам, паўкаханнем, паўспачуваннем, неразуменнем...

Цікава, ці ўбачыць глядач нешта агульнае паміж «Плюмбумам» і «Ступенню»? Так не падобныя гэтыя фільмы! Але давайце падумаем, хіба дакументалізм аднаго і метафарычнасць другога не аднолькава неабходныя нам, каб зразумець праўду аб духоўным стане нашага маладога сучасніка? Кожны з рэжысёраў выбраў свае метады і сродкі «здабывання» гэтай праўды. Ну а глядач? Экранны лёс абедзвюх стужак красамоўны: найбольшым поспехам карысталіся яны ў кінаклубах, дзе збіраліся людзі, якія прывыклі да духоўнай працы ля экрана.

Ці кожны з нас гатовы да такой працы? На жаль... Праблема гэтая займае кінематаграфістаў. Робяцца спробы «дэмакратызаваць узаемаадносіны з гледачом», як заявіў рэжысёр Сяргей Салаўёў у інтэрв'ю з нагоды свайго апошняга фільма «Асса».

Сапраўды, сярод карцін пра маладых «Асса» вылучаецца яркасцю, энергічнасцю і ў кадры і за кадрам (прэм'ера фільма была падрыхтавана як маладзёжнае арт-рок-шоу). Рэжысёр не ўтойвае, што галоўная ягоная мэта — заваяваць гледача цалкам. Чым? Вядома, тым, што глядач любіць. Інакш кажучы, меладрамаю з любоўным трохкутнікам, дэтэктывам з забойствамі, папулярнымі рок-групамі. Ну хіба ўстаіш? Вядома, было б наіўна думаць, што Сяргей Салаўёў, вядомы па ранейшых работах як майстар тонкай стылізацыі («Сто дзён пасля дзяцінства», «Выратавальнік», «Наследніца па прамой», «Чужая Белая і Рабы») на гэты раз абмяжуецца вострасюжэтным захапляльным відовішчам, дзе важна толькі, хто каго кахаў. Ці забіў. А ўсё астатняе — не такія ўжо і абавязковыя дадаткі да асноўнай дзеі. Не, рэжысёр паспрабаваў давесці нам якраз процілеглае: усе любоўна-крымінальныя страсці трэба, маўляў, успрымаць не ў іх прамым, часта аляпавата-грубаватым выглядзе, а як бліскучую абгортку, за якой тоіцца глыбокі змест. Выявіць гэты змест было даверана рэальным рок-музыкантам з груп «Акварыум», «Кіно», «Саюз кампазітараў».

Прыём сапраўды плённы. Хочам мы таго ці не, рок у яго лепшых праявах з'яўляецца неафіцыйнай ідэалогіяй моладзі. У музычных кампазіцыях Барыса Грабеншчыкова, Віктара Цоя, якія гучаць у фільме, ёсць і непрыняцце афіцыйнага фальшу, канфармізму старэйшых і пратэст супраць цынічных «гаспадароў жыцця», ёсць і вера ў сваё пакаленне, якая часам ідзе побач з сумненнем, а іншы раз і разгубленасцю...

У музыцы ўсё гэта ёсць, у фільме — няма! У адрозненне ад выбуховага, напружанага музычнага дзейства, кінадзея пры яе вонкавай дынаміцы, кідкасці, асацыятыўнасці — унутрана статычная. Плакатная, адной фарбаю, абмалёўка дзейных асоб (Ліхадзей з тоўстай калітою, таленавіты юнак-бяссрэбранік, нявінная дзяўчына, якая заблыталася ў жыцці) разбурае давер да ўсяго, што адбываецца, пазбаўляе яго маральнай асновы.

Дапускаю, што будуць іншыя думкі пра фільм «Асса». Што ж, паспрачаемся! Сёння ж хочацца сказаць вось пра што. У многіх стужках апошніх гадоў вядзецца даследаванне прычын сацыяльнага канфлікту, які пазначаны як разрыў, адчужэнне «бацькоў і дзяцей». «Дзе, у чым гэтыя прычыны?» — задаюць пытанне мастакі. І шукаюць адказ у драме папярэдніх пакаленняў, якія сталі ахвярамі падманлівых ідэй, што генерыраваліся ў грамадстве, аблыталі чалавека нормамі няправільна зразуметага калектывізму, давялі яго да ўзроўню радаснага «вінціка». Сумна і смешна прагучала гэтая тэма, напрыклад, у сцэне на катку з «Плюмбума». Мама галоўнага героя пасля падзення на лёд, у разбітых акулярах, старанна робіць «фігурную» ластаўку, каб, нягледзячы ні на што, адчуваць сябе шчасліваю... Шчымлівы і трагічны вобраз «аптымізму любой цаною»! Нешта падобнае мы ўбачым у фільме «Пакаянне» Тэнгіза Абуладзе: бетховенская ода «Да радасці», якую выконвае галоўная гераіня ў той час, як яе мужа катуюць у засценку...

Прызнацца, на праглядзе «Ассы» напружліва чакаеш вось такога ж пранізлівага па асэнсаванні тэмы эпізоду. Але акрамя пампезных партрэтаў аднае Высокае Асобы ў паркавых алеях, тэлерэпартажу аб уручэнні ёй жа чарговых высокіх узнагарод ды карыкатур на рэстаранных і міліцэйскіх работнікаў — нічога не знаходзіш... Вось тады і ўзнікае міжвольнае сумненне: а ці варта такім чынам «дэмакратызаваць адносіны» з гледачом? Хацелася б даведацца, што думаюць з гэтае нагоды чытачы «Крыніцы».

На заканчэнне просім падумаць над анкетаю. Вашы адказы дапамогуць нам скласці калектыўны партрэт кінааўдыторыі часопіса.

Назавіце, калі ласка, найбольш істотныя для вас прычыны «паходу ў кіно»:

1. Магчымасць цікава правабіць вольны час з сябрамі (сябрам, сяброўкаю).

2. Жаданне даведацца з дапамогаю кіно пра лад жыцця людзей у іншых краінах.

3. Захапленне пэўным кінажанрам (камедыяй, меладрамаю, прыгодніцкім і г. д.).

4. Магчымасць забыцца на будзённыя клопаты.

5. Імкненне зведаць што-небудзь новае пра жыццё ўвогуле.

6. Магчымасць, седзячы ў кіназале, адчуць якія-небудзь моцныя эмоцыі.

7. Іду ў кінатэатр, калі:

а) чуў пра фільм шмат супярэчлівых думак;

б) зацікавіўся фільмам, убачыўшы рэкламу ў газеце, часопісе, тэлеперадачы;

в) фільм паглядзелі многія знаёмыя.

8. Ваш узрост, чым займаецеся.

На канвертах і паштоўках пішыце: «Кінакомпас». Дзякуем усіх, хто адгукнецца на анкету.

## ГЭТА БЫЛО НЯДАЎНА, ГЭТА БЫЛО ДАЎНО

Павел ЯКУБОВІЧ



# КАЛІ СПЯВАЮЦЬ ГЕНЕРАЛЫ

У восень 1971 года ў Брэсце адкрываўся Мемарыял абароны крэпасці. Прыбыло багата начальства, сярод генеральскіх пагонаў зіхацелі зоркі маршальскія, але ў эпіцэнтры знаходзіўся не самы высокі чын, а адзін палкоўнік, да якога з найвялікшай пачцівасцю звярталіся і сакратары ЦК, і знакамітыя военачальнікі:

— Хто гэта?

— Вы што, не ведаеце — Юрый Міхайлавіч!

— Той самы?

— Ну вядома, хто ж яшчэ?

Такія кароткія дыялогі мне прыходзілася чуць тады, у Брэсце, на кожным кроку. Не сярод брэстаўчан, натуральна, а сярод гасцей, якіх па тагачасным звычаі панаехала процьма. Банкеты ішлі няспынна, менш за ўсё гаварылася аб прычыне ўрачыстасцей. Ва ўсякім разе, прозвішчы Зубачова і Фаміна, кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці, згадваліся нашмат радзей, чым прозвішча, што было на вуснах ва ўсіх — Чурбанаў. Смешна згадваць, як казыралі і выцягваліся перад франтаватым палкоўнікам нашмат больш высокія чыны, як дагаджалі яму бацькі горада.

Чурбанаў трымаўся з годнасцю героя-каханка. І ўсяляк дэманстраваў дэмакратычнасць. Памятаю, мне, тады карэспандэнту ваеннай шматтыражкі, даручылі нешта высветліць у палкоўніка. Далажыў па форме. У адказ — усмешка:

— Ты што, прэса, такі афіцыяльны? Заві мяне проста — Юрый Міхайлавіч.

А тым самым вечарам у гатэлі Юрый Міхайлавіч крычаў на намесніка міністра ўнутраных спраў рэспублікі і камандзіра з унутраных войскаў:

— Маўчаць, калі з вамі размаўляе намеснік начальніка Палітупраўлення. На гаўптвахце згнаю, у лесе даслужваць будзеце!

Прычына вяльможнае лютасці была простая: Юрый Міхайлавіч не ўбачыў у халадзільніку любімага каньяку. Праўда, і пагрозу не ажыццявіў: абяссілены ад эмоцый, перагрузкі і ўласнага крыку паваліўся і адразу ж заснуў. Памятаю, як я быў тэрмінова разбуджаны, мабілізаваны і дапамагаў несці ўсёмагутнага палкоўніка па гатэльным калідоры. Неслі яго як каштоўны пацір...

Вось так прыйшлося пазнаёміцца з магутным дачаснікам эпохі брэжнеўшчыны. Бачыць больш не прыходзілася, чуў толькі, што Чурбанаў ужо генерал, затым — начальнік ПУРа ўнутраных войскаў, затым — першы намеснік міністра ўнутраных спраў СССР. Кар'ера фантастычная. Усе грудзі ў ордэнах. З-пад пяра вылятаюць загады — усё больш суровыя і суровыя. Генерал-палкоўніка Юрыя Міхайлавіча баяліся як агню — гэта ж зяць Леаніда Ільіча, толькі пікні, у парашок сатруць.

І ён браў хабар, разбэшчваў тых, хто быў побач з ім, насаджаў у МУС падобных да сябе, смяяўся з таго, што ўзвялічваў у суровых загадах. З маралі, сумленнасці, з усяго святога... Монстр эпохі застою. Першы сярод роўных.

Зрэшты, пра ўсё гэта гаварылася на судзе, дзе слухалася справа былога фаварыта і ягонай камарыллі.

А я гляджу на гэтую старую фатаграфію, дзе Чурбанаў у якасці ганаровага госця спявае на камсамольскай канферэнцыі часці «Інтэрнацыянал». Якое блюзнерства! Чурбанаў і «Інтэрнацыянал»...

Але вось спявае (хоць хутчэй, вядома, імітуе) Юрый Міхайлавіч, дэманструючы «вернасць» ідэалам, простасць і даступнасць. Старанна падпяваюць афіцэры і генералы, камандаванне часці ўнутраных войскаў. Цікава, пра што яны думаюць у гэтае імгненне? Бо, у адрозненне ад залы, перапоўненай камсамольцамі, для якіх «Інтэрнацыянал» і ўсё, што цяпер вакол іх адбываецца, з'яўляецца часткаю сапраўднага, а не фальшывага жыцця, старэйшыя таварышы выдатна ведаюць, хто такі Чурбанаў (наконт хабару, можа, толькі сёе-тое чулі, затое ўжо пра банкеты і ўсё астатняе могуць і самі расказаць), але на двары 1973 год, кар'ера Чурбанава ў зеніце, і спець з ім у прэзідыуме — вялікая радасць і гонар. І фатограф апынуўся тут своечасова... Прыемна займець такое фота, упрыгожыць ім пісьмовы стол. Сціпла так, але з годнасцю — з «самім» зняўся, во як пашанцавала.

Зрэшты, навошта гэтыя запозненыя стрэлы ў адрас «старэйшых таварышаў»? «Одних уж нет, а те далече...» Але вось які ўрок вынеслі з тых гадоў маладыя салдаты, камсамольцы? Цяпер ім ужо за трыццаць. Ці не зламала іх чурбанаўшчына, ці не аблытаў іх фальш, ці не падманула паказная аднадушнасць таго прэзідыума?

...Спявае Ю. М. Чурбанаў. Да красавіка 1985 года яшчэ дванаццаць гадоў...

**(Фота з архіва аўтара)**











Сяргей ДУБАВЕЦ

# ФРЫДРЫХ НІЦШЭ — ДЫСКАБОЛ

*Вось сымболь твой, забыты краю родны!*
*Максім БАГДАНОВІЧ*



Калі ты яшчэ не ведаеш, што ў Фрыдрыха Ніцшэ была сяброўка Эльза, я пакажу табе іх разам. Такса — цыгарэта. За кожны помнік — па цыгарэце. І я раскрыю табе цэлы свет. Дзякуй богу, у Мінску яшчэ захаваліся помнікі Ніцшэ. Таму бяры цэлы пачак. Я люблю «Космас».

У Фрыдрыха Ніцшэ быў яшчэ і сын Дзітрых, які ўвесь час хадзіў у шортах і граў на горне. А суседская дзяўчынка Генрых адбівала рытм на барабане. Трррам-тарарам! Яны гралі каля школы, а я крочыў між іх, пасярэдзіне, стараўся не збіцца з нагі і не ведаў, што гэтая музыка — на ўсё жыццё.

Мяне тады клікалі Рычард, або проста Дзік. Калі я нарадзіўся, павітуха сказала, што я занадта стары, каб жыць, і я пачаў жыць назад. Менавіта. Бо я не заспеў галоўнага тырана — вусатага таракана, нават ягоных помнікаў не заспеў, але зачаты быў яшчэ з думкай пра яго.

Затое я заспеў Ніцшэ. Я проста прыдумляў, што я хлопчык, і бег у парк разглядаць аленяў, якіх Ніцшэ карміў ягелем, жаб, якіх ён любіў надзімаць праз саломіну, а таксама — мядзведзяў, зайцоў і нават блышчыц, якія аб'ядалі філосафу вушы. Бачыш аленя? Давай цыгарэту...

Бачыш цэнтральны мінскі праспект? Бачыш лесвіцы з шарамі? Бачыш гэтую выгбу? Тут Ніцшэ хаваўся ад дажджоў. Яшчэ тры цыгарэты...

Вось сляды імперыі! Ампір Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна! Я не ведаў яго асабіста, але любоў да яго — у крыві. І гэта не проста любоў. Я растлумачу табе, што гэта такое. Зірні на будынкі, што на плошчы Перамогі. Адчуваеш? Вось і мне падабаецца, а чым? Ну, чым? Гэта ж табе не готыка і не ракако, каб любавацца архітэктурнымі формамі. Тут жа нічога асаблівага няма, праўда? Але тут жыў Ніцшэ! Хочаш цытатку?

«Дзеля таго каб была шырокая, глыбокая ды плённая глеба для мастацкага развіцця, агромністая большасць, якая існуе да паслуг меншасці, звыш меры сваёй індывідуальнай патрэбнасці павінна быць па-рабску падначалена жыццёвай нястачы. За іхні кошт, дзякуючы лішку іхняе працы, той прывілеяваны клас вызваляецца ад барацьбы за існаванне, каб нарадзіць ды задаволіць свет новых патрэбнасцей» (Ніцшэ).

Вось я і падумаў, што не толькі гэтыя будынкі цешаць нашыя душы, але і славутыя спецбуфеты, спецлазні, спецпаліклінікі, спецжонкі ў спецтрантах і спецдзеці ў спецшколах. Зачыніць! — патрабуюць адныя. Навошта? — бароняць другія. А па вялікім рахунку і для адных, і для другіх, для ўсіх нас гэта — усяго толькі прыемная, казытлівая тэма. Гульня ўяўлення. Эх, ёсць жа недзе рай зямны...

Калі ты яшчэ верыш у гэта, чытай класікаў.

Свабода, роўнасць правоў, міралюбства, справядлівасць — «усе гэтыя вялікія словы,— кажа Ніцшэ,— маюць цану толькі ў барацьбе як сцягі,— не як рэальнасці, а як пышныя найменні для нечага зусім іншага». Для чаго — ён сам не ведае. Скажы, навошта нам Сталін?

Цяпер ты крытыкуеш яго. Паўсюль! Але ўся гэтая крытыка ў падтэксце сваім мае адзін змест: б'еш — значыць любіш. Якая розніца, як да яго дакранацца, галоўнае — да яго! Якая розніца, у каго верыць: у бога ці ў д'ябла,— галоўнае верыць! «Няма маральных з'яў, а ёсць толькі маральная інтэрпрэтацыя гэтых з'яў» (Ніцшэ). Са шчырай асалодай ляпілі яму помнік і з той самай асалодай гэты помнік руйнавалі. Варвары, што я яшчэ скажу? Усё ў іх так. Усё сваё, «маленькае» — гонар, каханне, мову — усё нясуць ці на алтар, ці на вогнішча. Ну, добра, там, у Расіі, яно гэтак было заўсёды, спрадвеку, а тут, у нас, гэта адкуль? Хіба што з сярэдзіны XIX стагоддзя, калі і тут павольна ды няўхільна рабілася імперыя? З яе нямецка-татарскім імператарскім дваром. Як жа хутка беларусы зафанацелі! Яны ж і ў бога ніколі толкам не верылі, а тут — прыйшоў, пабачыў, перамог. Сталін.

Праўда, ўсё гэта ў нас так глыбока, што мы можам і не ведаць. Асабіста я з маленства не любіў вайскоўшчыну, гадоў да пяці-шасці мяне стрыглі пад нуль, я казаў: «Я — Хрушчоў!», усе смяяліся і фатаграфавалі мяне каля аленя.

Але вернемся да будынкаў, якія нам так да душы.

Вось ты, інтэлігентны чалавек, слухаеш добрую музыку, чытаеш нешта і раптам успомніш войска, сваю службу. Грубасць, хамства на кожным кроку. Але ў душы ў цябе — бязмежны сантымент. Згадзіся, не



раз пашкадаваў, што не застаўся на прапаршчыка, праўда?

Гэтак дзіцёнак пяці гадоў знойдзе раптам сваю старую забытую дунду і — паспрабуй адбяры!

Тая дунда — імперскі стыль майго маленства (па-французку — ампір). Трапяткі вобраз Сталіна ў сэрцы. Вялізныя неонавыя літары — «Слава!» Настальгія па войску — яшчэ ад дунды... Цяпер ты заўважаеш, як у гэтых будынках адбіваецца музыка Дзітрыха і Генрых? Характэрная рыса мілітарызму — любоў да ўсялякіх галубкоў ды партальчыкаў на фасадах, да ўшытых х/б і п/ш, да кукардаў... Фасад! Балет у кірзавых ботах. На манументальным фрэнчы абавязкова павінна быць шмат зорачак, планачак, банцікаў, аксельбанцікаў, на плячах — наплечнікі, на штанах — лампасікі... Вось бы яшчэ паўлінавы хвост у адно месца!



А цяпер паглядзі направа і ўбачыш чалавека з дыскам. Гэта Фрыдрых Ніцшэ — гіпсавы дыскабол. Давай цыгарэту. А Эльзы ўжо няма. Знеслі Эльзу — галаву адбілі, рукі-ногі паламалі, а на тым, што засталося, дамалявалі тое, чаго не відаць. Але не бядуй. Знойдзем і Эльзу. «Мы жывем у свеце фантазіі, у свеце вычварным, выкручаным назнаніцу, пустым, але поўным ясных сноў» (Ніцшэ).

Імперскі стыль — гэта кукарда. Цэшка. Калі глядзець яшчэ глыбей, дык перафразуем Бэндара: у маёй Стэшкі ёсць адна маленькая цэшка. Памятаеш, як нашыя пасталелыя аднакласніцы не зважалі на нас, а бегалі глядзець гэтых курсантаў. Войска і жанчыны (катэгорыя «бабы») — дзве рэчы непадзельныя. І каля кожнай радзілкі 50-х абавязкова сядзіць Эльза... Але гэта ўжо пра Фрэйда, а помнікаў Фрэйду ў Мінску няма...

Некалі яны стаялі на дамах, якія ўтвараюць вакзальную браму Мінска. З аднаго боку стаяў Ніцшэ і трымаў на плячы прыладу працы асілка — адбойны молат. А з другога боку — са снапом каласоў стаяла моцная здаровая жанчына — Эльза.

Войска любіць моцных і здаровых. А ў цябе гнілыя зубы. Не сочыш, падрываеш абараназдольнасць дзяржавы.

Але потым я бачыў, як Ніцшэ і Эльза ляжалі ў выгбе прывакзальнага будынка. А яшчэ пазней іх не стала зусім. Тое самае здарылася і з гіпсавым дыскаболам, і з Дзітрыхам, і з Генрых, і з аленямі, мядзведзямі, зайцамі і нават з жабамі Ніцшэ. Знеслі і тое-сёе з дамоў, хоць дом знесці — гэта табе не жабу выкарчаваць.

Гэтак нішчыўся імперскі стыль — ампір 30—50-х. На змену сталінскаму ампіру з высокімі столямі ды грамадскімі прыбіральнямі ў сутарэннях прыйшоў хрушчоўска - брэжнеўскі бядняцкі стыль, так званыя хрушчобы, так званае бара́ка. Мне не падабаецца гэты стыль, але я не шкадую і ампіру. Я трохі шкадую свайго дзяцінства, якое прайшло сярод мінскіх помнікаў Ніцшэ. Вунь — бачыш? — Ніцшэ пад П. І. Чайкоўскага зроблены. Гэта ён, не вер барадзе. Давай цыгарэту.

Фота Яўгена СКУРАТОВІЧА
і Алены АДАМЧЫК

# У аб'ектыве — ГАНА







Фота Барыса БАБАНАВА